27 верасня 2019 | № 36 (647)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Украіна: «Шчыт Еўропы» альбо «Русь-канфедэрацыя»?**
стар. 19

4 **АДКРУЦІЦЬ ГАЛАВУ ШЧАНЮКУ**

**Гвалт у беларускай культуры натуральным чынам спалучаецца з талерантнасцю — з талерантнасцю да гвалту**



6 **ЛЕСУ ШМАТ, А ДРАЎНІНЫ НЕ ХАПАЕ**

**Прыватныя дрэваапрацоўшчыкі скардзяцца на дэфіцыт сыравіны. І гэта пры тым, што высечка лесу па краіне павялічваецца, а апошнім часам на фоне барацьбы з караедам увогуле стала рэкорднай**

7–18 **Літаратурная Беларусь**

22 **80 ГАДОЎ БЕЗ ВІЛЬНІ**

**14 кастрычніка 1939 года «Віленская праўда» выйшла з матэрыяламі пра заключэнне 10 кастрычніка дамовы, паводле якой СССР перадаваў Літве Вільню і Віленскую вобласць**

# Мова — наша ўсё



Сяргей ПУЛЬША

**Раз на дзесяць гадоў у краіне адбываецца цікавае мерапрыемства — перапіс насельніцтва. Гэтым разам беларусаў палічаць, памацаюць і паглядзяць на іх з 4 па 30 кастрычніка. І цяпер пытанні перапісу — надзвычай важныя.**

Перапіс важны таму, што менавіта ад яго вынікаў адштурхоўваюцца нашыя статыстыкі, і, адпаведна, улады ў вызначэнні далейшага шляху развіцця дзяржавы і дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад, ад сёлетніх вынікаў маштабнай апытанкі, па словах сацыялагіні, аналітыка Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Алены Арцёменкі, будзе залежаць рэформа адміністрацыйнага падзелу краіны. Па меркаванні адмыслоўцы, у некаторых раёнах колькасць насельніцтва можа аказацца каля 5–7 тысяч чалавек, і, адпаведна, там нерацыянальна ўтрымліваць адміністрацыю.

Але найважнейшыя пытанні — гэта пытанні 12 і 13 у перапісным лісце. Яны будуць гучаць так: «Ваша родная мова (мова, засвоеная першай у раннім дзяцінстве)?» і «На якой мове вы звычайна размаўляеце дома?»

Пытанні сфармуляваныя так, бо гэта — рэкамендацыі «Канферэнцыі еўрапейскіх статыстыкаў». Аднак паняцце «роднай мовы» і «першай засвоенай» усё ж не перашкаджаюць назваць любому чалавеку роднай мовай беларускую.

І гэта, насамрэч, не будзе хлуснёй. Нават калі ад пачатку вы размаўляеце на рускай мове — вы ж у дзяцінстве засвоілі «Калыханку»? Ведаеце, хто такі «Дзед-барадзед»? А значыць, засвоілі і беларускую мову.

Вынікі перапісу будуць апрацоўвацца даволі доўга, і не ўсе з гэтых вынікаў нам пакажуць. Бо там ёсць «слізкія» пытанні наконт працоўнай міграцыі і жадання з'ехаць з краіны. Але сапраўдныя лічбы гарантавана давядуць да тых, хто прымае палітычныя і эканамічныя рашэнні наконт будучыні краіны.

Цяпер наша будучыня даволі цьмяная. Да нас цягнуць свае рукі розныя «рускія міры» ды «паглыбленыя інтэграцыі». Шмат хто занепакоена кажа, што існаванне Беларусі як самастойнай дзяржавы ўжо пад вялікай пагрозай, і трэба кансалідавацца ўсім, каб надалей жыць у сваім доме. І адказ «беларуская» на пытанне пра родную мову — гэта цяпер тое, што можа зрабіць абсалютна кожны чалавек для падтрымкі суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Такім чынам мы даводзім важную рэч: беларусы — гэта не «рускі мір». Не «апалячаныя рускія» і нават не «руская са знакам якасці», не «малодшая славянская сястра». Гэта асобны і асаблівы народ, у якога ёсць свая мова, культура, традыцыі, зямля і краіна.

Беларуская мова — гэта і абарона ад усялякіх «глыбокіх», «паглыбленых» і іншых схаваных, прыкапаных ды замаскіраваных інтэграцый. Гэта маркёр: што беларусы — супраць паглынання сваёй краіны нейкімі «вялікімі суседзямі». Прынамсі, гэта азнака таго, што «лёгкіх інтэграцый» не будзе. І папярэджанне тым, хто на такія «інтэграцыі» спадзяюцца, — найперш, з нашага боку. Прызнаемся: у Беларусі хапала не толькі партызанаў, але і калабарантаў.

Руская мова ў нас не мае патрэбы ў падтрымцы. Беларуская ж фактычна выключаная з ужытку ў адукацыі, СМІ, заканадаўстве, рэальным жыцці. Той, хто спрабаваў уладкаваць дзіця ў беларускамоўную групу дзіцячага садка альбо дамагчыся беларускамоўнага навучання ў пачатковай школе, выдатна пра гэта ведае. Хаця такога быць не павінна — каб тыя, хто жадае навучаць дзяцей на мове тытульнай нацыі, дамагаліся б гэтага ледзьве не з боем.



Калаж «Радыё Рацыя»

Чым больш адказаў у перапісе пра «родную беларускую» — тым больш шанцаў на з'яўленне навучання па-беларуску, беларускіх садкоў і школьных класаў.

Часцяком сустракаюцца нараканні, што зварот да чыноўніка на беларускай мове выклікае адказ ці на рускай, ці з памылкамі. Вялікая колькасць людзей, якія ў час перапісу заявяць пра родную беларускую, будзе вымушаць чыноўнікаў не адварочвацца ад беларускамоўных зваротаў (за апошнія гады, адзначым дзеля справядлівасці, беларускую мову яны вывучылі няблага).

А памятаеце скандал, калі адно прадпрыемства адмовілася змяшчаць на сваёй прадукцыі беларускамоўную маркіроўку? Перапіс уплывае і на бізнес. Чым болей, паводле перапісу, будзе беларускамоўных, тым больш будзе беларускамоўнай прадукцыі, беларускай рэкламы, а значыць — беларускага асяроддзя.

Сацыёлагі ў гэтым пытанні папярэджваюць пра «спіраль маўчання». Гэта калі ўсе звыкліся, што, нібыта, «большасць адкажа пра родную мову — руская, дык я адкажу таксама гэтак». Насамрэч, усё якраз наадварот. Гэта беларуская мова трапіла ў «спіраль маўчання». Насамрэч, мова — папулярная. Быць беларускамоўным — азначае быць «у трэндзе». Уважаць беларускую мову за родную — гэта быць адукаваным, прынамсі, ведаць больш за адну мову. Проста наша мова «не раскручаная» так, як належыць, а яе сапраўдная папулярнасць — замоўчваецца.

Не верыце? Паводле перапісу 2009 года роднай мовай беларускую назвалі 53,2% насельніцтва Беларусі. У час перапісу 1999 года роднай мовай беларускую назвалі 73,6%!

Дык якая ваша родная мова?

# На БелАЭС выявілі крытычныя недахопы

**На будаўніцтве Беларускай АЭС выявілі крытычныя недахопы ў сістэме вентыляцыі і кандыцыянавання.**

Пра гэта паведамляе блогер NEXTA, які апублікаваў ліст гендырэктара БелАЭС М.Філімонава на адрас віцэ-прэзідэнта па бяспецы прадстаўніцтва акцыянернага таварыства ІК «АБЭ», кіруючай арганізацыі АТ «Атамбудэкспарт».

У дакуменце паведамляецца, што 6 красавіка КДБ затрымаў начальніка кіравання вентыляцыі і сістэмаў пажаратушэння АТ ІК «Атамбудэкспарт» Дзмітрыя Зіноўева. На яго распачалі крымінальную справу за камерцыйны подкуп.

Затрыманне, нібыта, адбылося, калі Зіноўеў атрымліваў грошы ад прадстаўніка ТАА «НВА Вентэхсервіс» і ТАА «Леванта Груп».

Выявілася, што праца Зіноўева на Беларускай АЭС прывяла да наступных недахопаў:

— вентагрэгаты на даху будынка паравой камеры і будынка ядзернага абслугоўвання аддадзеныя ў мантаж без уваходнага кантролю;

— вогнестрымвальныя клапаны на адным з будынкаў пастаўленыя без уваходнага кантролю;

— службовая асоба не кантралявала мантаж вентыляцыйнага абсталявання на будаўніцтве АЭС;

— пры мантажы сістэмы кандыцыянавання ў будынку фізабароны і на АПП АЭС выяўленыя парушэнні, якія могуць прывесці да збояў працы сістэмы ў цэлым на АЭС.

**euroradio.fm**

# Светлагорскі эка-актывіст звярнуўся ў Камітэт па правах чалавека

**Андрэй Смалянчук звярнуўся з індывідуальнай скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека. На міжнародным узроўні ён аспрэчвае рашэнні беларускіх судоў з адмовай у правядзенні ў 70-тысячным горадзе мітынгу пратэсту, звязанага з экалагічнай праблемай горада.**

У мінулым годзе Андрэй Смалячук разам з іншымі актывістамі горада заяўляў у раённым цэнтры пратэстную акцыю, аднак атрымаў адмову. Справа ў тым, што ў горадзе дзейнічае рашэнне, згодна з якім мітынгаваць дазволена ў адзіным месцы — на стадыёне «Папяровік». У іншых месцах забаронена. Тыя, хто не паслухаецца ўладаў, рызыкуюць патрапіць пад санкцыі — буйны штраф або арышт да 15 сутак.

Фактычна, у горадзе на права кожнага аб свабодзе мірных сходаў і публічнае выказванне думак накладзена табу, лічыць мужчына.

«Улада пасылае нас мітынгаваць на стадыён, а калі мы пагаджаемся, аказваецца, што для нас і там няма месца: у гэтыя дні там нібыта праводзяцца дзіцячыя мерапрыемствы. Іншымі словамі, улада цынічна хаваецца за дзяцей, забараняючы нам, дарослым, услых абмяркоўваць экалагічную праблему горада, звязаную з кітайскім заводам беленай цэлюлозы», — заяўляе Андрэй Смалянчук.

Праваабаронца Леанід Судаленка адзначае, што, хоць з пачатку года ў сілу ўступілі так званыя «касметычныя» папраўкі ў базавы закон аб масавых мерапрыемствах, якія дазваляюць у некаторых выпадках не прасіць дазвол на правядзенне мірных сходаў, тым не менш сітуацыя ўсё роўна цалкам знаходзіцца пад кантролем чыноўнікаў.

«Вядома, што ў нас забараняецца праводзіць некалькі мерапрыемстваў у адным і тым жа месцы. У Светлагорску такім месцам вызначаны стадыён, на якім нешта праходзіць — калі не трэніроўкі спартсменаў, так дзіцячыя святы, якія ўлада арганізоўвае, каб не даць сабрацца незадаволеным пабудовай завода беленай цэлюлозы. Атрымліваецца замкнёнае кола: права ёсць, а рэалізаваць яго немагчыма», — падкрэслівае праваабаронца.

У скарзе ў КПЧ ААН Андрэй Смалянчук акрамя ўстанаўлення парушэнняў яго правоў на мірны сход і выказвання меркавання просіць абавязаць беларускі ўрад змяніць базавы закон і рашэнне мясцовых уладаў аб масавых мерапрыемствах такім чынам, каб кожны меў на практыцы магчымасць публічна выступаць у абарону грамадскіх інтарэсаў.

Нагадаем, раней з-за аналагічных забаронаў у Светлагорску мірных акцый пратэстаў у Камітэт ААН па правах чалавека звярнуліся праваабаронца Алена Маслюкова, эка-актывісты Тацццяна Наскова і Анатоль Змітровіч.

**Паводле gomelspring.org**

# «І што мне рабіць з гэтымі 700-доларавымі каструлямі?»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Слуцкі пенсіянер Анатоль Богуш лічыць, што ён стаў ахвярай агрэсіўнага маркетынгу. У мінулым годзе на адной з прэзентацый ТАА «Іноксія» ён заключыў дамову на набыццё кухоннага посуду коштам у 1489 рублёў ды ўнёс задатак памерам у 200 рублёў. Пра гэта цяпер вельмі шкадуе.**



Фота www.tut.by

«Вы паглядзіце на мяне: дзе я і дзе гэтыя каструлі?» — уздыхае Анатоль Богуш, седзячы перад наборам бліскучага посуду.

Чаму раптам 83-гадовы пенсіянер адчуў у чэрвені 2018 года такую вострую неабходнасць у набыцці «італьянскага высокатэхналагічнага посуду» вытворчасці «Іноксія?»

Па словах нешчаслівага ўладальніка рондаляў, ён нібыта патрапіў пад гіпноз падчас прэзентацыі.

— Прадстаўнікі фірмы так настойліва і ветліва запрашалі па тэлефоне прыйсці ў кавярню і пазнаёміцца з апошнімі дасягненнямі ў галіне посуду, што я не вытрымаў і прыйшоў, — падзяліўся сваёй гісторыяй Анатоль Іванавіч. — Да таго ж абяцалі бясплатныя падарункі. У Слуцку не так шмат забаў для самотных пенсіянераў. Чаму б і не пайсці? Думаў: пасяджу, пагляджу на людзей і на новы высокатэхналагічны цуд і пайду дамоў. Але дамоў мяне ўжо везлі з кухонным наборам. Сам я нават не зразумеў, як гэта адбылося. Ужо назаўтра неяк ачухаўся і ўбачыў, што зрабіў вялікае глупства. Такі даражэзны посуд мне аніяк не патрэбны, хай бы ён і вельмі карысны. Пражыў да 80-ці гадоў без яго, мог бы жыць і далей. Да таго ж гэтыя рондалі вельмі цяжкія, вывальваюцца з хворых рук. Напісаў заяву ў Гродзенскае прадстаўніцтва «Іноксіі», каб вярнулі аванс і забралі свае рондалі.

І вось тут стала адбывацца нешта дзіўнае.

Справа ў тым, што прадстаўніцтва «Іноксіі» было не супраць забраць посуд, але прапанавала прывезці яго ў Гродна або даслаць па пошце. Анатоль Іванавіч не зрабіў ні таго, ні другога. Ён прызнаўся, што крыху блытаецца ў заканадаўстве і ў розных паперах. Паколькі ў яго ўжо быў вопыт звароту набытай коўдры з мерыносу акурат з яго дому, ён датэлефанаваўся да супрацоўнікаў фірмы і нібыта дамовіўся, каб яны самі забралі посуд падчас новага прыезду ў Слуцк.

Аднак новы посуд да гэтага часу застаецца ў пенсіянера. Рашэннем суда Ленінскага раёна ад 31.05.2019 года быў накладзены арышт на грашовыя сродкі пенсіянера ў банку. Судовыя выканаўцы абавязаныя з яго банкаўскага рахунку ажыццявіць пералічэнне грошай за рондалі і яшчэ 150 рублёў за індукцыйную пліту — «падарунак», які надаваўся ў дадатак да пакупкі.

У вуснай размове з карэспандэнтам НЧ мужчына абвінаваціў ААТ «Іноксія» ў падмане наконт таго, што яны абяцалі забраць посуд з яго дому.

Каб разабрацца ў гэтай гісторыі, карэспандэнт НЧ патэлефанавала ў фірму. Юрыст ТАА «Іноксія» Іна Нікалаева выклала іншы погляд на праблему. Яна праінфармавала, што ў ТАА выканалі і перавыканалі зварот «Аб абароне правоў спажыўцоў», і што ў фірме чакалі звароту посуду больш за паўгода. Прадстаўнікі ТАА неаднойчы тэлефанавалі пенсіянеру, каб дамовіцца аб сустрэчы ў Слуцку, ды ён перастаў выходзіць на сувязь… І толькі па гэтай прычыне вымушаны былі звярнуцца ў суд.

На маё пытанне аб немэтазгоднасці заключэння дамоваў па набытку такіх дарагіх тавараў з небагатымі людзьмі сталага веку, якія не заўсёды адказваюць за свае імпульсіўныя памкненні, яна паведаміла, што ўсе дзеяздольныя людзі маюць роўныя правы і самастойна прымаюць рашэнні па набыцці.

Дарэчы, такіх выпадкаў, калі случчане набываюць на прэзентацыях непатрэбныя і дарагія рэчы — шмат. Хтосьці набыў сістэму ачысткі вады за 500 долараў, але пасля не мае грошай на перыядычную замену дарагіх фільтраў і тэхнічнае абслугоўванне, хтосьці купіў коўдру з аўстралійскага мерыноса, ад якой пачаў чухацца.

Жыхарка вёскі Вежы Слуцкага раёна Марына Дамарад таксама аднойчы наведала прэзентацыю даражэзнага посуду ў Слуцку і адзначыла высокую прафесійнасць маркетынгу.

— Вядучыя настолькі захаплянльна распавядалі пра выдатны посуд, у якім можна прыгатаваць здаровую і смачную ежу і які адмываецца без усялякіх намаганняў, што адна жанчына нават пашкадавала аб патрачаных грошах на рамонт кватэры, — успамінае жанчына.

Яна лічыць, што пенсіянеры павінны адэкватна ставіцца да сваіх фінансавых магчымасцяў і памятаць, што нават высакаякасныя рондалі здароўя не дадуць, калі ў іх будуць варыць толькі хвасты і косткі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Апакаліпсіс сваімі рукамі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Будучыня надышла. «Бунт машынаў» зараз можа не абмежавацца толькі праўкай «па сваім разуменні» прыватных паведамленняў у мабільніках праз слоўнік Т9. А нашае кіраўніцтва напружвае сусветную супольнасць неасцярожнымі выказваннямі.**

На гэтым тыдні Аляксандр Рыгоравіч паразмаўляў са старшынёй «Дзяржкамваенпрама» (ДКВП) Раманам Галоўчанкам. Паразмаўляў так, што свет здрыгануўся. Па словах беларускага правадыра, у Беларусі стварылі ракету сярэдняй далёкасці, цяпер у планах распрацаваць яшчэ больш магутную зброю.

Свет здрыгануўся таму, што Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай пагаднення па нераспаўсюдзе падобных відаў зброі — Дагавора па ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай далёкасці, да якіх адносяцца балістычныя і крылатыя ракеты. Ракетай сярэдняй далёкасці, згодна з міжнароднай класіфікацыяй, лічыцца прылада, якая знішчае цэлі на адлегласці ад 1000 да 5500 кіламетраў. Такія штукі ў Беларусі былі ліквідаваныя яшчэ за Гарбачовым. І ніхто не думаў, што ў Сінявокай можа з'явіцца «геній інжынернай думкі», які гэтую зброю верне назад.

Геніяў сапраўды не знайшлося. Прэс-сакратарцы кіраўніка краіны Наталлі Эйсмант давялося тлумачыць, што «сярэдняя далёкасць» — гэта нашая «ўнутраная класіфікацыя», а не сусветныя стандарты. «У прыватнасці, гаворка ішла пра новы боепрыпас да айчыннай РСЗА "Паланэз", прымяненне якога павялічыла мяжу паразы з 200 да 300 кіламетраў», — сказала Эйсмант.

А афіцыйны прадстаўнік «Дзяржкамваенпрама» Уладзімір Лаўранюк дадаў, што створаны «канцэпт» ракеты, якая ляцідь да 500 кіламетраў. Над ёю якраз цяпер ідуць працы, але ўсё адно пазначанай мінімальнай далёкасці па дамове ДЛРСМД яна не сягае.

«Уф, пранесла!» — напэўна падумалі ў краінах NATO і адмянілі вымовы сваім шпіёнам, якія «прапусцілі» стварэнне ў Беларусі магутнай зброі.

Але пасля сустрэчы «панесла» ўжо старшыню ДКВП. У эфіры беларускага тэлебачання Раман Галоўчанка заявіў, што краіна гатовая да супрацьдзеяння атацы Skynet — ваеннага штучнага інтэлекту, які выклікаў Апакаліпсіс і «бунт машынаў» у вядомым фантастычным серыяле «Тэрмінатар».

Па словах Галоўчанкі, інтэлектуальная платформа, якая гатовая знішчыць чалавецтва, ужо стала самай сапраўднай рэальнасцю. «Бо цяпер фактычна ўсе краіны працуюць над тым, каб аб'яднаць сістэмы ўзбраенняў у адзіны замкнёны контур кіравання — тое ж самае, чым займаемся і мы... Пры выкарыстанні замежнага праграмнага забеспячэння ў сферы абароны ёсць пэўныя рызыкі. Таму для нас стратэгічна важна захаваць і развіць уласную сістэму ваеннага праграмнага забеспячэння, якая дасць нам упэўненасць у бяспецы ў гэтым кампаненце», — заявіў Галоўчанка.

Ён таксама распавёў, што ўжо сёння Беларусь гатовая змагацца і з дронамі з чацвёртай часткі франшызы, якія кашмарылі рэшткі чалавецтва, з дапамогай сістэмаў процідзеяння беспілотным лятальным апаратам і радыёэлектроннага падаўлення. «Літаральна днямі мы завяршылі выпрабаванні для прадстаўнічых дэлегацый з рэгіёну Блізкага Усходу. З унікальнымі, напэўна, характарыстыкамі для сістэмаў такога класа», — падкрэсліў кіраўнік ДКВП.

Таму за «фантастыку» беларусам хвалявацца не трэба — калі ў нас і з'явіцца нейкі «Тэрмінатар», яго адразу ж разбяруць на запчасткі.

**Ракетай сярэдняй далёкасці лічыцца прылада, якая знішчае цэлі на адлегласці ад 1000 да 5500 кіламетраў. Яны ў Беларусі былі ліквідаваныя яшчэ за Гарбачовым. І ніхто не думаў, што можа з'явіцца «геній інжынернай думкі», які гэтую зброю верне назад**

Праўда, кіраўнік нашага ДКВП забыўся згадаць, з чаго пачаў сваю атаку Skynet. А пачаў ён гэтую атаку з масіраванага ядзернага ўдару па чалавецтву. І вось з гэтым у нас — вялікія праблемы. Аж да таго, што, можа быць, і ніякага штучнага інтэлекту не спатрэбіцца — бо свайго не хапае.

Згодна з паведамленнямі, у кастрычніку спецыяльна навучаныя людзі павінны пачаць «гарачую абкатку» першага энергаблока Беларускай АЭС у Астраўцы. Паводле афіцыйнай інфармацыі, ужо завершаныя тэхналагічныя аперацыі па пробным наборы вакууму ў кандэнсатары турбаагрэгата пускавога энергаблока №1. Вакуум — адзін з асноўных параметраў, якія ўплываюць на эканамічнасць і эфектыўнасць работы турбаўстаноўкі, яго наяўнасць — абавязковая ўмова для забеспячэння выхаду на рабочыя параметры энергаблока ў цэлым.

Аднак, паводле неафіцыйнай інфармацыі, упраўленне Следчага камітэта па Гродзенскай вобласці даследуе крымінальную справу па артыкуле 252 КК (камерцыйны подкуп) у дачыненні да начальніка ўпраўлення вентыляцыі і сістэм пажаратушэння расійскай кампаніі «Атамбудэкспарт» Дзмітрыя Зіноўева. Паводле следчых, подкуп Зіноўева прывёў да таго, што на БелАЭС усталявалі вентыляцыйныя агрэгаты і клапаны для затрымання агню без праходжання кантролю, а выяўленыя дэфекты могуць прывесці «да збояў у працы сістэмы ў цэлым».

І яшчэ адна дзіўная навіна прыйшла з беларускага ўраду. Наш прэм'ер Сяргей Румас сустрэўся з гендырэктарам дзяржкарпарацыі «Расатам» Аляксеем Ліхачовым. Паводле Румаса, быў «шэраг пытанняў», якія трэба было абмеркаваць, і, «калі не зняць спрэчныя моманты, то, па меншай меры, разабрацца ў іх і намеціць, як яны будуць пераадольвацца».

«Галоўнае — мы павінны дакладна вызначыцца, што нам перашкаджае сёння выконваць тыя планы, якія наметіліся па ключавых этапах. Думаю, мы павінны пабудаваць працу так з абодвух бакоў, каб ніякіх збояў у нас не адбылося», — цытуюць прэм'ера афіцыйныя крыніцы.

Ліхачоў у адказ зазначыў, што першы блок беларускай АЭС знаходзіцца «ў вышэйшай ступені тэхнічнай гатоўнасці», якая ацэньваецца ў 97% рэалізацыі праекта. «Сёння мы ў прынцыпе з дакладнасцю да дзён можам распісаць усе падзеі і дзеянні, у тым ліку фізічны пуск, падключэнне да сеткі, выхад на 100% магутнасць. Мы вельмі добра ўяўляем да дэталяў усё, што будзе адбывацца ў бліжэйшыя месяцы, тыдні, дні і нават гадзіны», — адзначаў Ліхачоў.

Аднак пра якія праблемы казаў Румас, у інфармацыі не згадваецца. Са словаў Ліхачова не вынікае, што ён іх увогуле бачыць.

У выніку можа стацца так, што нам ніякі Skynet не спатрэбіцца — мы арганізуем сабе ядзерны Апакаліпсіс уласнымі рукамі і рашэннямі. З-за таго, што нехта вельмі любіць зялёныя паперкі з выявамі амерыканскіх прэзідэнтаў, а нехта не хоча агучваць праблемы і робіць выгляд, што «ўсё нармальна, мама».

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Судовы працэс над грамадскім актывістам павінен быў пачацца 25 верасня ў Мінскім гарадскім судзе, але не пачаўся. Паводле афіцыйнай версіі, — з-за хваробы суддзі Арлова.**

Раней стала вядома, што працэс па справе Паліенкі будзе праходзіць у закрытым рэжыме — на думку праваабаронцаў, таму, што адным з эпізодаў абвінавачвання з'яўляецца абраза службовай асобы — экс-міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча. З гэтай нагоды Паліенка абвясціў, што будзе цалкам байкатаваць судовае разбіральніцтва.

«У сувязі з тым, што суд будзе праходзіць цалкам у закрытым рэжыме, а гэта значыць, будзе непразрыстым і ізаляваным ад грамадства, лічу гэта распраўвай над сабой, — паведаміў Паліенка ў лісце паплечнікам. — Я не прызнаю віну ні па адным эпізодзе, а беларускаму правасуддзю не давяраю».

Актывіст лічыць, што закрытасць працэсу, а таксама падпіска аб неразгалошванні матэрыялаў справы, якую ўзялі з яго адваката, — гэта спецыяльны рэпрэсіўны ход, каб асудзіць па абвінавачваннях, якія шытыя белымі ніткамі. «Мяне вінавацяць "са словаў", на падставе фантазій і меркаванняў, без фактаў і доказаў — і збіраюцца схаваць гэта ад грамадскасці, — адзначае Паліенка. — Згодна з Крымінальна-працэсуальным кодэксам, няма падстаў рабіць суд закрытым!»

Шэраг беларускіх праваабарончых арганізацый таксама выказалі пратэст з нагоды закрытасці суду над актывістам. Праваабаронцы нагадваюць, што Паліенка ўжо быў прызнаны міжнароднай супольнасцю вязнем сумлення, а некаторыя з прад'яўленых яму абвінавачванняў з'яўляюцца недапушчальным абмежаваннем свабоды выказвання меркавання і ствараюць новыя небяспечныя формы пераследу грамадзянаў за публічную крытыку дзейнасці дзяржаўных органаў і прадстаўнікоў улады.

Праваабаронцы нагадалі, што парушэнне права на справядлівае судовае разбіральніцтва, іншых правоў і свабодаў, гарантаваных Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах альбо Еўрапейскай канвенцыяй аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў, пры наяўнасці палітычных матываў такога пераследу, з'яўляецца падставай для прызнання асобы палітычным зняволеным.

Паліенка быў затрыманы 20 сакавіка па падазрэнні ў здзяйсненні асабліва злоснага хуліганства (арт. 339 КК). Яго абвінавачваюць у тым, што ён распыліў газавы балончык у твар мужчыну, які зрабіў яму заўвагу за курэнне на лесвічнай пляцоўцы.

2 ліпеня Следчы камітэт паведаміў, што расследаванне крымінальнай справы Паліенкі завершана, і яна перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд. Але пракуратура Мінска вярнула справу ў Заводскі раённы аддзел Следчага камітэта для правядзення дадатковага папярэдняга расследавання. Вынікам гэтага сталі два новыя артыкулы: 341 — за графіці ў Курапатах і 369 — за абразу Ігара Шуневіча.



## Ганна Канапацкая

**Дзейная (пакуль) дэмакратычная дэпутатка Палаты прадстаўнікоў сабрала неабходную тысячу подпісаў за сваё вылучэнне ў новы склад парламента.**

Пра гэта Канапацкая паведаміла ў сваім акаўнце ў Фэйсбуку. Яна дадала, што збор подпісаў яшчэ будзе працягвацца. Па словах Канапацкай, яна разлічвала, што подпісы за вылучэнне ўдасца сабраць хутчэй. «Прыкладна палова кватэр падчас абыходу была пустой», — тлумачыць палітык павольныя тэмпы збору подпісаў.

Апазіцыйная дэпутатка вылучаецца па Кастрычніцкай акрузе Мінска №97.



## Ала Пугачова

**Поп-зорка СССР і Расіі нечакана атрымала беларускі ордэн. Лукашэнка ўзнагародзіў яе ордэнам Дружбы народаў.**

Адпаведны ўказ падпісаны 23 верасня. Спявачка ўзнагароджаная за «значны ўнёсак у развіццё эстраднага мастацтва і ўмацаванне беларуска-расійскіх культурных сувязяў». У чым выявілася «ўмацаванне беларуска-расійскіх культурных сувязяў», — не паведамляецца. Хіба што прадзед і прабабуля спявачкі — з Магілёўскай вобласці.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Адкруціць галаву шчанюку

**Гвалт у беларускай культуры натуральным чынам спалучаецца з талерантнасцю — з талерантнасцю да гвалту.**




**Гэта бытавая гісторыя здарылася гадоў 10–15 таму. Дакладна не памятаю, дый якое тое мае значэнне. У аўтобусе ехала маладая жанчына з дзіцем гадоў двух, не больш, і раптам дзіця пачало капрызіць. Чуллівая бабулька, якая сядзела побач, нечакана прапанавала «ўсыпаць дзіцяці як след», каб яно замоўкла. Па гуду ў салоне я зразумеў, што многія пасажыры ўхвалялі прапанову старой.**

Дзіця працягвала капрызіць. Сітуацыя абвастралася, і, каб яе разрадзіць, я параіў жанчыне стукнуць дзіця паленам па галаве. Сваю прапанову я сфармуляваў максімальна гучна, бо меў надзею быць пачутым усімі пасажырамі аўтобуса-гармоніка. Аднак палена ў салоне не было. Не знайшлося і яго субстытуту (ад лацінскага «substitutio» — «замена») — грабель або рыдлёўкі, бо дачны сезон скончыўся. Сітуацыя выглядала безнадзейнай, тым не менш мая прапанова пасажыраў супакоіла, а ўслед за пасажырамі супакоілася і дзіця.

Аналагічны інцыдэнт адбыўся ў школе № 15 горада Гомеля, толькі дзіця было старэйшае, а ролю адзінокай бабулькі ўзяла на сябе настаўніца з 35-гадовым стажам, узброеная партай і нецэнзурнай лексікай. Знайшоўся і той, хто, як і аўтар гэтых радкоў, гучна і рашуча на ўвесь нацыянальны аўтобус-гармонік прапанаваў стукнуць дзіця паленам па галаве, дакладней «адкруціць галаву шчанюку».

Я не перачытваю на ноч Крымінальны кодэкс, але не здзіўлюся, калі Генеральная пракуратура дадзеныя прапановы прызнае раўнацэннымі.

Як і ў выпадку з бытавой гісторыяй 15-гадовай даўніны, прапанова «адкруціць галаву шчанюку» супакоіла не толькі так званую шырокую грамадскасць, але і ўладную «вертыкаль». У нас нячаста назіраецца ініцыятыва на месцах. Бегчы наперадзе паравознага дыму сабе даражэй, але неспадзяванкі часам здараюцца. Гомельская неспадзяванка — адна з нямногіх. «Бедная настаўніца» рускай мовы была аператыўна звольненая рашэннем мясцовых чыноўнікаў без узгаднення з вышэйстаячай інстанцыяй, чым была пастаўлена пад пагрозу стабільнасць у рэгіёне і краіне.

Добра тое, што добра заканчваецца. Як заўважыў у свой час адзіны палітык (АП): «Згубім настаўніка — капец, будзем хадзіць п'янымі і дурнымі». Але гэтым разам пранесла. Жыхарам Гомеля бліжэйшым часам такая сітуацыя не пагражае. Не варта перажываць і за пацярпелую ад нахабнай выхадкі «шчанюка» «бедную настаўніцу». Яе аператыўна аднавілі на працы. Не заржавела і за аргвысновамі. Распараджэннем АП вінаватых прыцягнулі да адказнасці. Спіс вінаватых узначалілі добра знаёмыя ўсім асобы: прэм'ер-міністр Сяргей Румас, кіраўнік адміністрацыі АП Наталля Качанава, міністр адукацыі Ігар Карпенка.

Што тычыцца лёсу «шчанюка», то на момант падрыхтоўкі гэтага артыкула адпаведная інфармацыя на галоўным сайце краіны адсутнічала, як і адсутнічала апісанне зробленага ім злачынства. Будзем, аднак, спадзявацца, што «шчанюк» атрымае па заслугах. Усё ж краіна — гэта вам не аўтобус-гармонік у міжсезонне, палена з патрэбнымі характарыстыкамі ва ўладзе заўсёды пад рукой.

## «Сокрушай ребра во младенчестве»

Мае рацыю, тройчы мае рацыю акадэмік Анатоль Рубінаў, які паспеў у свой час так пераканаўча паразважаць пра ўнікальнасць асобы АП. Цытую: «Наш прэзідэнт, які сам выйшаў з гушчы народа, арганічна ўвабраўшы ў сябе яго патрэбы і спадзяванні, будуе сваю палітыку, адштурхваючыся ад зямлі, ад жыцця, а не ад якіх-небудзь тэарэтычных схемаў і абстрактных лагічных пабудоў. Менавіта гэта засцерагае нас ад крайнасцяў, ад спакусы хуткіх і радыкальных рашэнняў, ад хуткаспелых рэформаў, забяспечваючы тым самым эвалюцыйнае, паступальнае развіццё грамадства без шоку і ўзрушэнняў».

Што яднае чуллівую бабулю з АП? Культурка. А калі скарыстацца тэрміналогіяй заслужанага дзеяча навукі Рэспублікі Беларусь, доктара сацыялагічных навук, прафесара, экс-дырэктара Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі Ігара Катлярова — цывілізацыйны (ён жа культурны) код.

З навуковым вызначэннем тэрміна любы ахвочы можа азнаёміцца, калі адкрые часопіс «Сацыялагічны альманах» за 2018 год. Шкада толькі, канкрэтныя культурныя характарыстыкі цывілізацыйнага кода ў артыкуле паважнага вучонага не прыводзяцца. Таму, нягледзячы на свае абмежаваныя здольнасці, я паспрабую запоўніць гэты прагал. Зразумела, не сам, а з дапамогай рускага культуролага Ігара Якавенкі. Спадзяюся, прыметнік «рускі» не збянтэжыць чытача, бо гвалт, які чыніцца дзеля прымусу да пажаданых паводзінаў, у аднолькавай ступені ўласцівы дзвюм роднасным культурам, што аб'яднаныя пад крылом адзінай цывілізацыі.

Ці можна, напрыклад, запярэчыць з нагоды першага сказа цытаты: «Рускі гвалт насычае сабой літаральна ўвесь лад жыцця». Я спрабаваў не пагадзіцца, аднак у мяне не атрымалася, таму працягну цытаванне: «Міхаіл Салтыкоў-Шчадрын з горкім гумарам пісаў пра тое, што нямецкі конь генетычна нясе ў сабе страх перад шчоўканнем бізуна і кіруецца гукам бізуна, рускага ж каня даводзіцца сцябаць. Справа, зразумела, не ў канях, а ў фурмане. Мужык, якога незлічоную колькасць разоў паролі ў дзяцінстве, білі па мордзе ў войску, і які сам з п'яных вачэй і ў дрэнным настроі лупіць жонку ды дзяцей, не можа кіраваць канём без пугі».

Гвалт — адна з ядзерных (якія ўтвараюць ядро) характарыстык нашага цывілізацыйнага кода. Культура, што ўсмоктваецца з малаком маці, натуральным чынам прывучае ўсіх яе носьбітаў да неабходнасці распаўсюджваць рэпрэсіўныя ўздзеянні зверху ўніз. Прыгадаем дамастроеўскі прынцып адносінаў да дзіцяці: «Сокрушай ребра во младенчестве», каб спазнаць спакойную старасць.

**Да слова «бардак» спецыялісты падбіраюць два тыпы сінонімаў: «беспарадак», «блытаніна» і «публічны дом», «бардэль». Што меў на ўвазе АП, калі ў верасні два разы казаў пра бардак у школе?**

## Два віды сінонімаў да слова «бардак»

Настаўніцу з сярэдняй школы №15 горада Гомеля завуць Людміла. Калі верыць інтэрнэту, гэта адно з нямногіх імёнаў, у якога выключна славянскія карані. Яно паўстала ў выніку спалучэння двух словаў — «люд» і «мілая». І атрымалася «мілая люду» — Людміла. Такое прыемнае для слыху імя не перашкаджае жанчыне ў сваёй прафесійнай дзейнасці ісці «ад жыцця», «а не ад якіх-небудзь тэарэтычных схемаў і абстрактных лагічных пабудоў».

З каляіны цывілізацыйнага кода не вырвацца, дый Людміла і не спрабуе. Каляіна патрабуе: «Сокрушай ребра во младенчестве». Толькі так можна падтрымліваць стабільнасць у грамадстве, у якім гвалт натуральным чынам спалучаецца з талерантнасцю — з талерантнасцю да гвалту.

Амерыканскі эканаміст Джон Гелбрайт вылучаў тры базавыя способы прымусу чалавека да пэўных паводзінаў: ідэальнае і матэрыяльнае ўзнагароджанне і пакаранне. Культура, што акцэнтуе ўвагу на пакаранні, называецца рэпрэсіўнай, альтэрнатыўная культура — культура заахвочвання.

Праілюструю думку амерыканскага эканаміста выказваннем АП, запазычаным з прэс-рэлізу нарады, на якой ён падзяліўся сваёй гатоўнасцю «адкруціць галаву шчанюку»: «Яшчэ раз паўтараю: не будуць выкананыя параметры развіцця на 2019 год, усе адказныя — ад прэм'ер-міністра — пойдзеце адпачываць. Я вас папярэджваў у мінулым годзе ў гэты час, калі рабілі планы на 2019 год. Таму нічога тут дзіўнага няма».

А ніхто і не дзівіцца. Урады ў Беларусі змяняюцца як пальчаткі, але бардаку ад гэтага менш у краіне не становіцца. Складваецца ўражанне, што для ліквідацыі бардаку даўно ўжо час мяняць не ўрады, а таго, хто надзелены ў нас манапольным правам урады мяняць.

Дарэчы, да слова «бардак» спецыялісты падбіраюць два тыпы сінонімаў: «беспарадак», «блытаніна» і «публічны дом», «бардэль». Што меў на ўвазе АП, калі ў верасні два разы казаў пра бардак у школе? Асабіста ў мяне адказу на гэтае пытанне няма, але пра актуальнасць бардаку сведчыць пазітыўная дынаміка артыкулаў у газеце «СБ. Беларусь сегодня», якія ўтрымліваюць гэта каларытнае слова. Да чэрвеня 2016 года такіх артыкулаў пошукавік не знайшоў, але за тры наступныя гады яны сталі множыцца, як трусы. На момант напісання гэтай «Азбукі паліталогіі» іх колькасць склала 108 штук.

Якія перспектывы? Мяркую, што бардак ва ўсіх яго праявах будзе нарастаць. «Драма двух апошніх стагоддзяў, — канкуруючае сутыкненне свету рэпрэсій са светам, што цэнтраваны на заахвочванне. Гэта сутыкненне — адзін з вырашальных фактараў сучаснасці», — адзначае Ігар Якавенка.

Але адмаўляцца ад рэпрэсій у Беларусі ніхто не збіраецца. Права на нічым не матываваныя, акрамя асабістых жаданняў, рэпрэсіі — галоўны атрыбут аўтарытарнай/таталітарнай улады. Гэтую ісціну ведаў яшчэ Іван Жахлівы. Ён падарыў свету формулу такога тыпу ўлады: «И жаловать мы своих холопов вольны и казнить вольны». Актуальнасць гэтай формулы дзяржаўныя СМІ дэманструюць нам рэгулярна.

# Як справы ў школе?

Таццяна ГОВАР



**Кожны год, калі стаю на лінейцы, прысвечанай Дню ведаў, я ўсё радзей бачу захопленыя твары дзяцей. Часцей за ўсё яны — нявыспаныя, панурыя. А ззаду стаяць трывожныя бацькі, якія думаюць: «Як у гэтым навучальным годзе будуць ісці справы ў школе ў майго дзіцяці? Здолее яно асіліць вучэбную нагрузку ці зноў будзе патрэбны рэпетытар? Якія адзнакі атрымае?» — і гэтак далей.**

На жаль, мала хто думае, як адчувае сябе дзіця ў школе, ці добра яму там, як складуцца адносіны з аднакласнікамі і настаўнікамі, і наогул, цяжка ці лёгка яму вучыцца. Часта бацькі патрабуюць высокіх навучальных дасягненняў, не сувымяраючы магчымасці самога дзіцяці.

Кожны раз, калі бацькі задаюць пытанне сыну або дачцэ: «Як справы ў школе?», яны чакаюць, што ім распавядуць пра атрыманыя адзнакі. Добра, калі дзіця скажа: «Я сёння 9 атрымаў!» Тады бацька ўздыхне з палёгкай, скажа традыцыйнае «малайчына», і спакойна пойдзе гатаваць абед ці займацца справамі.

А калі пяць ці тры? Што тады? Звычайна — натацыі, абвінавачванні, ды ў выніку заключэнне: «Будзеш дрэнна вучыцца, пойдзеш вуліцы падмятаць або каровам хвасты круціць». Толькі не разумею, навошта хвасты круціць? Кароў карміць трэба і даіць. Малюючы такую жахлівую карціну свайму дзіцяці, многія бацькі думаюць, што матывуюць яго на высокія навучальныя дасягненні. Але гэта не так. Запалохванні і абразы не робяць людзей героямі, а дзяцей — тым больш. У дзіцяці фарміруецца комплекс непаўнавартасці: «Я дурны, не магу вывучыць матэматыку на такую адзнаку, якую хочуць бацькі». Адзін раз не атрымалася, другі, трэці... І сфармаваўся сіндром завучанай бездапаможнасці.

Як гэта адбываецца ў рэчаіснасці? Вучань атрымаў «двойку», калі з-за баязлівасці не мог адказваць ля дошкі. Акрамя таго, што ён не атрымаў падтрымку педагога, сутыкнуўся з кпінамі аднакласнікаў, яшчэ і дома атрымаў ад бацькоў. У наступны раз падобная сітуацыя будзе выклікаць у яго страх і іншыя непрыемныя перажыванні, звязаныя з самаацэнкай. Дзіця будзе загадзя прадбачыць магчымасць такой няўдачы — і захоча пазбегнуць гэтага (прагулы і хваробы) альбо навучыцца змірацца. Працэс да спасціжэння ведаў і пераадолення цяжкасцяў будзе спынены.

Калі няўдалыя спробы паўтараюцца, чалавек расчароўваецца, губляе веру ў сябе і не бачыць магчымасцяў справіцца з задачай. Усе намаганні здаюцца бескарыснымі, настрой падае — і больш не хочацца нешта рабіць, каб змяніць сітуацыю.

Таму кожны раз, калі бацькі задаюць пытанне пра тое, як справы ў школе, ім варта падумаць, навошта гэта робіцца. Для таго, каб сапраўды даведацца, як справы, ці каб пацешыць сваё бацькоўскае эга: «Я — добры бацька, выхавала/выхаваў геніяльнае дзіця»?

Паверце, не мае ніякага значэння, геніяльнае вашае малое ці сярэднестатыстычны вучань. Гэта ўсяго толькі дзіця — і яму вельмі важнае прызнанне заслугаў, хоць і маленькіх (напрыклад, учора было «тры», а сёння — ужо «чатыры»), яму патрэбная дапамога і падтрымка. І толькі тады яно будзе імкнуцца радаваць бацькоў, прыкладаць намаганні і імкнуцца, каб дасягнуць лепшых вынікаў.

Каб дапамагчы дзіцяці стаць паспяховым, бацькам неабходна змяніць свае паводзіны і сваю сістэму рэагавання, і пашырыць свой дыяпазон пытанняў на тэму «Як справы ў школе?». Трэба перавучыць свой мозг рэагаваць звычайным чынам на сітуацыі школьнага жыцця.

Калі дзіця вяртаецца са школы, сачыце за яго настроем і самаадчуваннем. За гады працы школьным псіхолагам мне давялося сустракацца са шматлікімі дзецьмі, якія мелі добрыя патэнцыйныя здольнасці, але паказвалі невысокія вынікі. І не таму, што яны былі не здольныя засвоіць праграму, а таму, што змірыліся з тым, што ёсць. Бацькі ж толькі сварыліся ды пагаршалі праблему.

Калі вы сапраўды хочаце дапамагчы сваім дзецям засвоіць школьную праграму, то дапамагайце, а не перашкаджайце.

Можна вызначыць пералік дадатковых пытанняў, якія павінны задавацца, калі дзіцё прыйшло са школы.

1. Што самае добрае адбылося сёння ў школе? А што дрэннае?
2. Раскажы, што прымусіла цябе засмяяцца?
3. З кім бы ты хацеў сядзець у класе? А з кім бы не хацеў? Чаму?
4. Што новага ты сёння даведаўся?
5. Што табе хацелася б больш вывучаць у школе? А менш?
6. Калі б ты мог памяняцца з кімсьці ў класе месцамі, хто б гэта быў? Чаму?
7. Табе спадабаўся сённяшні абед? Што больш за ўсё спадабалася?
8. Як ты дапамог камусьці сёння? Як хтосьці дапамог сёння табе?
9. Калі табе сёння было сумна?
10. Што ты робіш на перапынках?
11. Хто ў тваім класе мог бы быць і больш ветлівым?
12. Хто самы смешны ў тваім класе і чаму?
13. Хто з аднакласнікаў занадта многа вучыцца?
14. Калі б заўтра ты стаў настаўнікам, што б ты выкладаў?
15. Каго б з аднакласнікаў ты хацеў бы перавесці ў іншы клас і чаму?
16. Як ты думаеш, якіх ведаў табе не хапае, каб мець лепшыя вынікі?

Звярніце ўвагу, што адказвае дзіця на 3, 6, 11 і 15 пытанні. Часцяком бывае, што аднакласнікі могуць ганіць дзіця, а яно не скардзіцца — сорамна. У маёй практыцы былі такія выпадкі: над дзіцём гадамі здзекаваліся, а бацькі пра гэта нават не здагадваліся. Усё адкрылася, калі падлетак стаў прагульваць занят널 ў школе — асабліва фізкультуру. Аказваецца, аднакласнікі забаўляліся — хавалі яго рэчы ў распранальні. Хлопчык быў невысокага росту, таму рэчы закідвалі куды-небудзь высока і смяяліся са спробаў дастаць іх. Да таго ж увесь час абзывалі яго малечай.

І, вядома, не перашчыруйце з пытаннямі. Дзіця можа быць стомленае, альбо не ў настроі, таму проста дайце крыху часу адпачыць. Інакш вашы роспыты могуць быць невыноснымі. І не трэба забіраць у дзіцяці ў гэты момант гаджэты і совацьяму кнігу. Адпачынак — гэта калі ты проста адпачываеш.

Калі дзіцяці не падабаецца вучыцца ў школе, паспрабуйце з ім паразмаўляць. Гутарка можа быць прыкладна такой:

« — Як ты думаеш, навошта людзі прыдумалі вучыць дзяцей у школе?

— Напэўна, каб яны даведаліся нешта новае, навучыліся нечаму.

— А навошта гэта трэба?

— Каб было ім было лягчэй. Яны будуць лепш разумець, што адбываецца навокал.

— Добра. Значыць, людзі, якія вучацца ў школе, лепш разумеюць, што адбываецца навокал. А цяпер уяві на хвілінку, што ты не ходзіш у школу і не вучышся. Што з табой адбываецца?

— Я адпачываю, гуляю ў кампутарныя гульні, і мне добра.

— Сумняваюся, што табе вельмі добра. Ты не развіваешся, проста гуляеш. А іншыя дзеці вучацца, больш пазнаюць. Як ты думаеш, ты ад іх будзеш адрозніваццa?

— Так.

— А ў які бок — у лепшы або горшы?

— Напэўна, у горшы. Бо яны будуць больш за мяне ведаць.

— А якія перспектывы ёсць у людзей, якія вучацца, у адрозненне ад тых, хто не вучыцца?

— Ну, напэўна, у тых, хто вучыцца, больш магчымасцяў знайсці добрую працу і атрымліваць больш грошай.

— А ты для сябе чаго хочаш: атрымліваць шмат грошай ці мала?

— Вядома, шмат.

— А навошта табе шмат грошай?

— Каб купляць сабе тое, што хачу.

— А як ты думаеш, вучоба ў школе табе ў гэтым дапаможа?

— Напэўна. Я ж магу знайсці сабе выгадную працу.

— А якім чалавекам табе трэба стаць, каб атрымаць усё, што ты хочаш?

— Разумным, кемлівым, адукаваным.

— Што для гэтага трэба зрабіць? Як ты думаеш?

— Старацца, вучыцца, выконваць заданні, чытаць, пазнаваць, трэніравацца.

— Што ўжо сёння ты можаш зрабіць, каб хоць трохі стаць чалавекам, які можа ўсё?

— Ну, хоць бы зрабіць хатняе заданне.

— Добра. З чаго пачнеш? Які прадмет ты зробіш хутка і без маёй дапамогі?

— Практыкаванне па рускай мове.

— А які наступны прадмет ты зможаш выканаць самастойна?

— Матэматыку.

— А дзе табе патрэбна мая дапамога?

— Я вывучу гісторыю, а ты праверыш, ці ўсё я запомніў.

— Добра. Ты пачнеш выконваць заданне зараз ці праз 10 хвілін?»

Возьмем яшчэ адну стандартную сітуацыю — дзіця не хоча рабіць хатняе заданне, бо лічыць яго цяжкім. Ці думае, што не справіцца з ім. Як можна матываваць яго на выкананне непрыемнай працы?

«— Як ты думаеш, хто з тваіх аднакласнікаў лёгка справіцца з гэтым заданнем?

— Напрыклад, Віця Іваноў.

— А хто з тваіх любімых герояў мог бы лёгка справіцца з гэтым заданнем?

— N (Адказы могуць быць любымі).

— Скажы, а якія якасці гэтых людзей дапамагаюць ім лёгка выконваць падобныя заданні?

— N (Адказы могуць быць любымі).

— А як ты думаеш, на колькі па шкале ад 1 да 10 у цябе развіты такія якасці?

— Напрыклад, на 5 балаў.

— Значыць, тэарэтычна, ты можаш выканаць заданне?

— Наогул — так.

— Уяві, што ты на час стаў гэтым вучнем. Як ты думаеш, што ён зрабіў бы ў пачатку?

— Напэўна, напісаў дату і «дамашняя работа».

— Ты можаш гэта зрабіць?

— Лёгка!

— А што далей бы ён рабіў? Што потым? Калі б гэты вучань не зразумеў, як выканаць заданне, то што б ён зрабіў? Дзе б шукаў падказку? Як, якім спосабам ты мяркуеш гэта рабіць? Як ты даведаешся, што такім спосабам будзе дасягнуты чаканы вынік? А якія спосабы можна выкарыстоўваць яшчэ?»

І, зразумела, трэба замацаваць пазітыўнае ўяўленне дзіцяці:

«— Як ты сябе будзеш адчуваць, калі справішся з гэтым заданнем?

— Я буду задаволены.

— Хто яшчэ будзе задаволены табой?

— Бацькі, настаўніца.

— Калі ты выканаеш хатняе заданне хутка, як ты можаш распарадзіцца пакінутым часам?

— Калі я зраблю ўсё хутка, то я змагу больш пагуляць у сваю любімую гульню ці пагутарыць з сябрамі».

Задаючы пытанні, вы дапамагаеце ўбачыць і агучыць праблему, асэнсаваць стаўленне да яе, ацаніць ступень свайго няведання і зразумець, чаго яму не хапае для выканання задання. А таксама выбраць найбольш эфектыўны шлях рашэння, усвядоміць і прыняць адказнасць за яго рэалізацыю; зафіксаваць поспех і ўсвядоміць свой асабісты ўклад у дасягненне выніку.

Калі дзіця ведае, навошта яму патрэбныя веды, калі бачыць, як гэта будзе дапамагаць яму ў будучыні, яно будзе само імкнуцца выконваць хатнія заданні, таму што гэта трэба не бацькам, а асабіста яму.



**Летась і сёлета на фоне барацьбы з караедам аб'ёмы высечкі лесу істотна павялічыліся. Напрыклад, у 2018 годзе ў сістэме Мінлясгасу з усіх відаў высечкі нарыхтавана 19,5 мільёна кубаметраў драўніны пры плане 15,9 мільёна кубаметраў**

# Лесу шмат, а драўніны не хапае

Алесь ГЕРАСІМЕНКА

**Прыватныя дрэваапрацоўшчыкі скардзяцца на дэфіцыт сыравіны. І гэта пры тым, што высечка лесу па краіне павялічваецца, а апошнім часам на фоне барацьбы з караедам увогуле стала рэкорднай.**

Беларусь — адна з самых багатых лесам краін Еўропы. Ім пакрыта 40 працэнтаў тэрыторыі, у той час як агульны запас драўніны на корані ацэньваецца ў 1,8 мільярда кубічных метраў, ці прыблізна па 190 кубаметраў лесу на кожнага беларуса. Гэты рэсурс не горшы за нафту. Дакладней, ён нашмат лепшы, бо аднаўляльны. І, у адрозненне ад нафты, яму не пагражае так званы энергетычны пераход. Нават калі ўявіць, што чалавецтва калі-небудзь цалкам пяройдзе на безвугляродную энергетыку, драўніна, якую сёння спальваюць у катлах, можа быць скарыстаная для вырабу будаўнічых матэрыялаў, папяровых вырабаў ці мэблі. Попыт на лес быў, ёсць і будзе.

Сапраўдная праблема ў іншым — у няроўным доступе да сыравіны для суб'ектаў гаспадарання розных форм уласнасці і ведамаснага падпарадкавання. У Беларусі лес у прыярытэтным парадку атрымліваюць дзяржаўныя прадпрыемствы, а таксама некаторыя буйныя прыватныя перапрацоўшчыкі з ліку спажыўцоў так званых балансаў і тэхналагічнай сыравіны. Напрыклад, летась толькі гэтая катэгорыя суб'ектаў гаспадарання была дапушчаная на гадавыя біржавыя таргі, на якіх прадпрыемствы звычайна набываюць да 40 працэнтаў ад гадавой патрэбы драўніны.

Акрамя таго, апошнія гады ў Беларусі некаторыя віды драўніны (балансы, пiловачнік, фанерную і тэхналагічную сыравіну) пачалі размяркоўваць паміж пакупнікамі ў залежнасці ад іх вытворчага профілю. Так, у прыярытэце аказаліся буйныя вытворцы плітнай прадукцыі і цэлюлозы, а продаж сартыментаў па мэтавым прызначэнні ператварыўся ў інструмент пераразмеркавання сыравіны для «сваіх» вытворцаў, з маніпуляцыяй цэнамі і аб'ёмамі

Падобная практыка рэгулярна стварае штучны дэфіцыт сыравіны для малых і сярэдніх перапрацоўшчыкаў, пераважна прыватнай формы ўласнасці. У гэтай сувязі старшыня Рэспубліканскай лесапрамысловай асацыяцыі (РЛПА) Валерый Аляксандровіч нагадвае, што ў лесе растуць не балансы, фанерная або тэхналагічная сыравіна, а дрэвы, з якіх можна атрымаць драўніну розных гатункаў. Напрыклад, тэхналагічная сыравіна прыдатная для вырабу не толькі ДСП, ДВП ці шчапы, але і палетнай дошкі, якая запатрабаваная на знешніх рынках. У шэрагу выпадкаў альтэрнатыўная перапрацоўка сартыментаў дазваляе сфарміраваць істотна большы дададзены кошт, а значыць, дасягнуць большай эканамічнай эфектыўнасці.

Летась і сёлета на фоне барацьбы з караедам аб'ёмы высечкі лесу істотна павялічыліся. Напрыклад, у 2018 годзе ў сістэме Мінлясгасу з усіх відаў высечкі нарыхтавана 19,5 мільёна кубаметраў драўніны пры плане 15,9 мільёна кубаметраў. Дадатковыя аб'ёмы аслабілі дэфіцыт сыравіны. У пачатку года галіновае міністэрства паведаміла ўраду пра складскія запасы драўніны ў памеры каля 3 мільёнаў кубоў. У тым ліку амаль 20% лішкаў прыпала на найбольш



запатрабаваныя віды сыравіны: пiловачнае і фанернае бервяно, а таксама балансавую драўніну хвойных і лісцевых парод.

Ці сапраўды дэфіцыт сыравіны адышоў у мінулае? Прадстаўнікі прыватнага бізнесу ў гэтым сумняваюцца, бо адначасова Мінлясгас пачаў лабіраваць ідэю першачарговага забеспячэння драўнінай дзяржаўных прадпрыемстваў, па прамых дагаворах, якія дазваляюць абмінуць біржавыя таргі, ды яшчэ па заніжаных цэнах.

### Хто чым займаецца

Адной з палемічных тэмаў стаў падзел абавязкаў у лесапрамысловай галіне. У РЛПА выступаюць за дакладнае размежаванне функцый, каб леснікі расцілі лес, а яго нарыхтоўкай і перапрацоўкай займаліся спецыялізаваныя арганізацыі.

Пакуль жа беларускія лясгасы не толькі росцяць лес, але і вядуць нарыхтоўку ды спрабуюць пашырыць перапрацоўку драўніны. Пры гэтым ім складана забяспечыць эканамічную эфектыўнасць такога гаспадарання. Напрыклад, у лесанарыхтоўцы шмат сезонных работ. Імкненне ахапіць усё ўласнымі сіламі прыводзіць да раздзьмування штату і дадатковых выдаткаў на персанал. Дастаткова сказаць, што ў беларускіх лясгасах у сярэднім працаўладкавана па 300–400 чалавек, а ў Еўропе ў аналагічных установах, як правіла, — не больш за 15–20 супрацоўнікаў.

Не ўсё проста і ў дасягненні эканамічнай эфектыўнасці на этапе дрэваапрацоўкі, якую актыўна спрабуюць развіваць лясгасы. З аднаго боку, набыццё дарагога абсталявання не гарантуе якасці прадукцыі (затое гарантавана павялічвае выдаткі). З другога боку, у лясгасаў з'яўляецца спакуса скарыстацца найлепшай драўнінай там, дзе можна абысціся больш нізкімі гатункамі. А гэта ўжо замінае эфектыўнаму выкарыстанню сыравіны.

У выніку раздзьмутыя траты перманентна падштурхоўваюць лясгасы да таго, каб павялічыць кошт драўніны і вырабаў з яе, а заадно і папрасіць больш субсідый з бюджэту. Летась, напрыклад, Мінлясгас выйшаў на Каардынацыйны савет па біржавым гандлі (дзейнічае пры ўрадзе) з прапановай адмяніць таргі драўнінай на паніжэнне і пачаць фарміраваць стартавыя цэны не ніжэй за калькуляцыю лясгасаў з улікам 20-працэнтнай рэнтабельнасці. На той момант гэта азначала б рост кошту сыравіны на 17–19%.

Выдаткі сістэмы Мінлясгасу на фоне збыткоўных складскіх запасаў драўніны становяцца адным з аргументаў у просьбе дазволіць экспартаваць лес-кругляк. Ад 2016 года экспарт неапрацаванай драўніны ў Беларусі афіцыйна забаронены, аднак дэ-факта пастаўкі працягваліся па просьбе галіновага міністэрства і з дазволу кіраўніка Беларусі. У траўні гэтага года кіраўнік дзяржавы падпісаў чарговы дазвол на пастаўку рэштак кругляка. Аляксандр Лукашэнка толькі пакпіў з кіраўніцтва галіны, што яго даручэнне аб перапрацоўцы ўсёй драўніны ўнутры краіны не выканана, аднак не стаў супраціўляцца ініцыятыве чыноўнікаў.

Эфектыўнасць лесаперапрацоўкі можна істотна павялічыць, перакананыя ў РЛПА. Для гэтага большасць работ па доглядзе за лесам і яго нарыхтоўкі варта перадаць на аўтсорсінг прыватным структурам. Што да дрэваапрацоўкі, то яна амаль цалкам павінна перайсці да прыватных кампаній. Пра тое актыўна гаворыцца яшчэ з нулявых гадоў, але ўлада дагэтуль не набралася смеласці правесці больш-менш грунтоўную рэформу лясной галіны.

### Ці варварская высечка?

Не так даўно грамадскія актывісты звярнулі ўвагу на варварскую, па іх меркаванні, высечку лесу, якая пачалася ў Беларусі ў 2018–2019 гадах пад лозунгам барацьбы з караедам. Грамадскасць устрывожылася істотным павелічэннем плошчаў суцэльных высечак (калі на пэўнай дзялянцы лес цалкам прыбіраецца), у тым ліку ў лясах, якія не дасягнулі спелага ўзросту.

У афіцыйным адказе Мінлясгас заявіў пра недастатковую інфармаванасць аўтараў петыцыі. Маўляў, статыстыка апошніх гадоў сведчыць пра паляпшэнне і колькасці, і якасці ляснога фонду краіны. Што да суцэльных санітарных высечак, то яны неабходныя для ліквідацыі ачагоў масавага ўсыхання хваёвых насаджэнняў.

Сапраўды, як сведчыць галіновая статыстыка, з года на год высечка лесу ў нас істотна адстае ад яго прыросту, таму Беларусь — адна з нешматлікіх краінаў, дзе захоўваецца ўстойлівы прырост запасаў драўніны. Больш за тое, амаль усе тутэйшыя лясгасы перайшлі на прынцыпы ўстойлівага лесакарыстання. Па стане на пачатак 2019 года, 98,5% ляснога фонду Мінлясгаса сертыфікавана на адпаведнасць патрабаванням Савета па кіраванні лесам (FSC — Forest Stewardship Council) — міжнароднай некамерцыйнай арганізацыі, якая на глабальным узроўні змагаецца за экалагічна адказнае лесагаспадаранне.

Напэўна, ёсць рэзон у высечцы пашкоджаных караедам лясоў, каб прадухіліць масавае ўсыханне, страту драўніны і пагаршэнне пажарнай абстаноўкі. Але чаму на фоне росту санітарнай высечкі Мінлясгас не скарачае аб'ёмы планавай у спелых лясах, якія не пашкоджаныя караедам? Такі просты ход дазволіў бы пазбегнуць збыткоўных аб'ёмаў драўніны на ўнутраным рынку, не трэба было б прадаваць за мяжу кругляк за капейкі. На гэтае пытанне прадстаўнікі галіновага міністэрства адказваць не спяшаюцца.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (157)
(верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Якія мы?

## Або ўся праўда пра нашу нацыянальную ідэю



Алесь МІКУС

**У суседзяў менш-больш складваецца з нацыянальнай ідэяй, а ў нас з гэтым так цяжка, што рукі апускаем.**

Нацыянальная ідэя... Зацягалі гэты выраз. Дзяржаўная ідэалогія, нацыянальная ідэя... Ну праўда ж, зацягалі, да дзіраў ужо.

Груваткія фармулёўкі, а-ля падручнікі, нічога не дадуць, калі няма яснасці ў галовах. Нацыянальная ідэя, якую ўсе нібыта шукаюць, гэта пра дзве рэчы, і гэтыя рэчы адрозныя: адкуль прыйшлі і куды ідзем.

Але «адкуль прыйшлі» — гэта не пра падручнік з падрабязным выкладам «усяго, што было». Гэта звычайна пра адну ідэю, што выдзелена з усяго масіву дадзеных з мінуўшчыны. Ці нават хутчэй вобраз, нешматслоўны наратыў, які можна нібы казку расказаць малым слухачам у дзіцячым садку. Візія мінуўшчыны — яна аблігаторна цэльная, не фрагментарная.

Такім чынам, можна адкласці ў далёкія архівы ўсе выдадзеныя за мінулае дваццацігоддзе «Гісторыі беларускай дзяржаўнасці», бо яны — не пра візію мінуўшчыны, гэта расповеды пра аскепкі, як пры ваенным раненні, у галовах тых, хто стварыў яе канцэпцыйна.

Зірнем на суседзяў. Толькі з першага боку ў расійцаў ідэі праваслаўя, Расійскай імперыі і Сталіна несумяшчальныя. Шмат хто ж здзіўляецца. Усё там сумяшчальна, толькі выдзеліце там ідэю, што іх яднае. Пашырэнне, інвазія навонкі, місіянерства, захоп. Вось і ўся іх цяперашняя ідэя. Там нават не індаеўрапейская ідэя імперы (шматстайнасць у сукупнасці, як жывы свет паганскіх сілаў), бо русіфікуюць і ўніфікуюць, а таксама пагарджаюць адрознасцю.

У найменш колькасных з нашых суседзяў, латышоў, візія мінуўшчыны такая: колісь быў пляменны рай, прыйшлі немцы, паняволілі, а потым расійцы, замяніўшы немцаў, прыбрылі замінаць латышам жыць у шчасці. Латышы не мудруюць, а працягваюць тую ж 800-гадовую лінію: працягваюць вызваляцца ад захопніка, і ён зноў унутраны.

У літоўцаў пункт адліку таксама ў мінуўшчыне — гэта ранняя Літва балцкіх князёў, якія ў нейкі момант выцягнулі дзяржаву быць паміж двух мораў. Але затым пайшоў адкат, і тэрытарыяльна, і рэлігійна, і моўна. І ўвогуле, усё пазнейшае — непазбежны рэгрэс. Літоўцы маюць трохі раздзёру ўнутры, ад усведамлення прагалу паміж «Вітаўтавай Літвой» і цяперашняй тэрыторыяй, якую да таго ж «падгрызаюць» польскамоўныя на Віленшчыне і рускамоўныя ў Клайпедзе.

Ад той ранняй Літвы застаюцца навейшыя паганскія алтары па ўсёй краіне, але для цяперашняга свету гэта не надзённа. Далучыцца да вялікіх — доля маленькіх, якія разумеюць, што яны маленькія.

Украінцы — як і літоўцы — перажываюць свой «раздзёр», але ўжо паміж «казакамі і свінапасамі». Прычым «свінапас» — панятак не такі і дэманічны, бо гэта ўсяго толькі «Пузата хата», «баба-галава», «усё ў сям'ю», «Вялікая і Малая Харужаўка» ва ўладных кабінетах (паняцце часоў Юшчанкі, — ды і не яго аднаго, — які да непрыстойнага насяляў уладу землякамі). А казакі — гэта вайна на Усходзе Украіны, добраахвотніцкія батальёны, праспект Бандэры. І тое, і тое («казакі» і «свінапасы») развілося і мае месца сёння. Трохі сутыкаецца міжсобку, але дае досыць трапнае ўяўленне пра ўкраінцаў. Ідэя пра казакоў, дарэчы, сканструяваная, яна не з народу — з народу якраз пчолы, вішнёвы садочак, варэнікі, боршч і акруглая чарнабровая Галя...

Але гэта збольшага пра мінуўшчыну. Гэта прыклады, на якія чалавек арыентуецца. Падобны прыклад можа быць не сучасным, але ён шмат што канстытуе. Ён пастаянна прысутны трохі глыбей за свядомасць, і з ім звяраюцца.

Візія будучыні сёння немудрагелістая. Варыяцый асабліва няма. Прагрэс, тэхналогіі, патрэбы жывата, пачуць голас кожнага, усякая драбнічка мае анталагічнае права быць. Варыяцый няшмат. (Дух, заваёвы, правы народаў, іерархічнасць — усё гэта неактуальна).

Хіба што расійцы могуць дазволіць сабе мець драўляную прыбіральню на вуліцы і ганарыцца высокатэхналагічнай зброяй (дарэчы, гэта таксама «раздзёр»), але тое з-за манструознай тэрыторыі, гэта выключэнне. «Няхай свет лясне, затое мы патрапім у рай, а яны не».

Окей, гугл, а што мы? Ізноў жа, нельга ўвесь час утрымліваць пад увагай полацкіх (ці хутчэй варажскіх) князёў, Гедзіміна ў Лідзе, цудоўнага акупацыйнага мінскага губернатара Захарава, БССРыю, подзвіг народа, рэспубліку — зборачны цэх. Трэба штосьць адно. А ўсё іншае мусіць цярпець (it must suffer) і быць выкрасленым ці, прынамсі, адсунутым далей з-пад вока.

«Нацыянальную ідэю» цяпер не надта любяць, бо пад ёй разумеюць асобны шлях. Усе шляхі сёння менш-больш аднолькавыя, для сярэдніх і меншых суб'ектаў. Але візія будучыні — не адзіны складнік націдэі, а адзін з двух. Другі ж — гэта прыклад з мінуўшчыны, які мае аб'яднаўчы патэнцыял.

Селяніна мы збэсцілі псеўда-фальклорнымі ўсмешкамі «Харошак», хоць багушэвічы пачыналі з «Сялянкі». Арыстакратаў пастралялі як Скірмунта ў Парэччы, і панасміхаліся. Літва не наша (дакладней, наша, але толькі «пасяродцы», калі ўжо не балцка-літоўская, але яшчэ не польская-рэчпаспалітаўская). Да Русі мы таксама ўзбочныя, бо цэнтры былі звонку — Кіеў і Масква. «Правільная» Радаўніца ў нас толькі на ўсходзе, а ў астатнім мы і зусім маларэлігійныя. Савецкі Саюз стваралі не мы, мы там толькі «трудзілі» сябе як заведзеныя. Нашчадкамі крэваў-святароў таксама быць не схацелі...

Вось гэты другі складнік у нацыянальнай ідэі (каторы не пра будучыню, а пра мінуўшчыну) — гэта шмат у чым адказ на пытанне «Якія мы?». Жывучы тут у сябе, у даволі закрытым усё ж грамадстве (прынамсі, ментальна), нам гэта не дужа рупіць. А варта аказацца сярод замежнікаў — і вох як даецца ў знакі, што мы самі не дужа ведаем, як сябе падаваць (апроч як кліенты ці найміты). З кім асацыяваць, бо не вывуджваецца з глыбіняў падсвядомасці мадэль, з якой роднімся.

Дык якія мы? Можа, ніякія? Годзе ківаць на Абдзіраловіча.

Што пэўна, дык гэта тое, што мы выканаўцы добрыя. Дык гэта якраз ад адсутнасці зместу, вось і набіваюць у мяшок са скуры і шкілету ўсякай саломы, якой каму захочацца. Мы можам быць усякімі, мы запоўнімся тым, чым вам заждаецца, і, тым не менш, мы жывыя, хоць у гэта і цяжка паверыць...

**naviny.by**



Калаж www.pixabay.com

**«Нацыянальную ідэю» цяпер не надта любяць, бо пад ёй разумеюць асобны шлях. Усе шляхі сёння менш-больш аднолькавыя, для сярэдніх і меншых суб'ектаў**

# «Свечка мне сведчыць»

**Нядаўна ў «Кнігазборы» (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў) пабачыла свет адметнае чарговае выданне — кніга вершаў берасцейскай паэтэсы Святланы Варонік «Пацеркі даверу». Зацікавіла, выклікала патрэбу выказацца.**

Увогуле, падумаў, рызыкую. З аднаго боку — кніга выклікае цікавасць, а з другога — падумалася, ці буду адназначна слушным у сваім поглядзе. З аднаго боку — кніга «Пацеркі даверу» вартая ўвагі, а з другога — зусім непадобная на іншыя вершаваныя зборнікі, створаныя ў звыклай для нас традыцыйнай сілабатанічнай сістэме вершаскладання. Да таго ж пазбаўленая, у прыватнасці, добра знаёмай нам традыцыйнай вершаванай паэтыкі, узнёслага пафасу. Пра свае лаканічныя, графічна сціслыя вершы сама аўтар гаворыць: «Маўчанню верыць слова», «Зразумееш маё маўчанне, яно адгукнецца словам». Ці вось радкі:

***

*Мірыяды пяшчотных слоў.*
*Быццам знічкі ў жніўні.*
*Загадаю жаданні слоў.*

***

*Вершы — лісце на дрэве...*
*Ліст — дрэва верш...*

***

*Раство Хрыстовае*
*агучвае надзеі.*
*Без дзеяў*
*Слоў замала.*
*Мама...*
*Увасхрашаем сілу слоў*
*без слоў.*

Падзяліўшыся, па тэлефоне, радаснай навіной: «У мяне выйшла кніга», спадарыня Святлана дадала ў такім духу, што, маўляў, свае карацелькі не столькі піша, колькі выдыхае. Пэўна, так яно і ёсць. Пра гэта кажа і ў сваіх мініяцюрах.

***

*Як многа...*
*Уздых гаворыць.*

***

*Развітальнае слова тваё — уздых.*
*Не надыхацца.*

Словам, вершы — дыханне. І яшчэ — вершы — сны. Самыя што ні на ёсць такія.

***

*Дзень — кароткі, як ноч, калі спіцца.*
*Сны Твае сняцца мне...*
*У разбураных словаўспамінах...*

***

*Цесна ў снах.*
*Хачу вырвацца ў сон.*
*Прачынаюся.*
*Сніцца, што сплю...*

Вершы — дыханне, вершы — сны, вершы — чарадзейства і вершы... Чытаем:

***

*У Кастровічах — цішыня...*
*вершаць вершы*
*мой боль*
*і — любоў мая...*

Кастровічы — родная вёска паэткі. Што ў некалькіх кіламетрах ад Слоніма, апетага натхнёна Алегам Лойкам. Гэтак жа апявае і Святлана Варонік.

***

*Дарога ў маё маленства...*
*Аерам пахнуць далоні...*
*Успамінаецца Слонім...*
*І слова ў душы расце...*

***

*У Слоніме —*
*як фея —*
*завея...*
*Неспадзеўнай гэтай заслоне*
*веру ў Слоніме*
*як ніколі...*
*Белай скрухі маёй зіма...*

***

*Радасць мая харошая,*
*позняя, адвітальная,*
*снішся мне...*
*І я — ведаю...*

Боль і любоў, глыбока нацыянальныя пачуцці, гучаць у тым жа лапідарным стылі і ў вершах пра нашае гістарычныя мінулае, пра тое, як «ішоў з-пад Купран Багушэвіч», як сумуе па далёкай Радзіме душа Дамейкі («Не маўчы, акіян, Ціхі... Недзе ж Нёмана кропля ў табе...»), як «вярнуўся ў нашу вёску Карусь Каганец».

З самым непасрэдным разуменнем успрымаем высνову аўтаркі:

***

*Я — духі продкаў.*
*І я — Радзіма.*
*Ты — у мінулым.*
*І мы — яшчэ будзем!*

Нельга не прывесці ў гэтай сувязі, у сувязі з ідэйна-патрыятычнай тэмай, двухрадкоўе, якім завяршаецца кніга:

***

*На ганку роднай хаты...*
*Як на вяршыні....*

Кропка над «і». Лепш не скажаш, больш выразнай метафары не прамовіш.

Яшчэ некалькі слоў, накшталт неабходнага дадатку. Адзін з ключавых матываў зборніка — матыў самоты (адзіноты). «Прашу ў мора адзіноты хоць кроплю...»; «Такая самотная ад цябе дарога, самотай вяртаюся ў свой дом»; «Ты адзіноты маёй пяшчота» і інш. Гэта ў вобразна-мастацкім плане. Ды ў рэальным Святлана Варонік як творца, як аўтар — зусім не самотніца, не інтравертка. У дачыненні да шэрагу сваіх вершаў яна называе імёны Уладзіміра Калесніка, Васіля Быкава, Ніны Мацяш, Данут Бічэль, Алега Лойкі, Міхася Стральцова, Ліны Кастэнкі, Галіны Скарыны. Спасылаецца на іх творчасць. Асаблівым пачуццём прасякнутыя творы, прысвечаныя Ніне Мацяш: «Восень прыйшла», «У Белаазёрску ёсць царква» і адзіны ў кнізе шматрадковы твор «Снежаньская ружа». Гэта, апроч іншага, абумоўлена і тым, што аўтарка кнігі надзвычай чула ставілася да Ніны Мацяш і ў творчым і ў чалавечым плане.

Існуе выслоўе: таленавіты чалавек — ва ўсім таленавіты. Гэта якраз наш выпадак. Кастравіцкая дзяўчына паспяхова скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Шмат гадоў працуе на такім жа, філалагічным, факультэце Брэсцкага ўніверсітэта. Карыстаецца, канешне ж, павагай, аўтарытэтам. І не толькі як выкладчык, але і як кіраўнік Адукацыйна-асветнага цэнтра імя Ул. Калесніка. Перакладае з польскай і ўкраінскай моваў, піша музыку на вершы беларускіх (і на свае ўласныя) і ўкраінскіх паэтаў. Іграе. На гітары і гармоніку. Мае аж тры гармонікі! Уявіце сабе... Ну і вось, — як бачым, пра што ішла размова, — Святлана Варонік з'яўляецца аўтарам своеасаблівай паэтычнай кнігі «Пацеркі даверу».

Паколькі гаварылася пра музычны талент паэтэсы, дадам яшчэ ў заключэнне колькі слоў, як ён канкрэтна адбіваецца на гукапісе, гукавай інструментоўцы асобных вершаў. Напрыклад:

***

*Свечка мне сведчыць*
*пра вечнасць*
*Светла.*

***

*Ліпень ліпіць дажджамі.*
*Льюцца ліпнёвыя ночы.*
*І я пра цябе, за вочы,*
*усмак гавару-гару.*

Сардэчна жадаю Святлане Варонік і надалей паспяхова крочыць «шляхам, якім вярстуе любасць», у музыкальнай і паэтычнай творчасці.

**1.08.2019 г.**

***P.S.*** *Гаворачы пра адметную сцісласць, лаканізм формы вершаў Святланы Варонік, я чамусьці прамінуў вось гэты верш:*

***

У пыле — сляпыя дажджынкі.

Сведчу, ёсць у кнізе, на дваццаць сёмай старонцы, такі верш — радок. Ці не перастараліся тут аўтар з рэдактарам? Ці не паказным з'яўляецца такі вось лаканізм? Не, рэч не ў гэтым. Рэч у тым, што паэтэса надзвычай пранікнёна і паслядоўна, з верша ў верш, падае адметныя з'явы нашай, беларускай прыроды. Зусім невыпадковыя ў вершы-радку само параўнанне і гэтыя вось «сляпыя дажджынкі». Чытаем-гартаем «Пацеркі даверу»: «у сонны горад дождж прыйшоў...»; «Крынічная кропля ці дажджынка?..»; «Дождж слугуе майму настрою»; «І ты са мною, і дождж сляпы...»; «І дажджынкі ўсе — Твае...» і г.д. Ну і вось яшчэ адно асэнсаванае адценне той жа лексемы, гэты самы сціслы і гранічна дакладны твор кнігі «Пацеркі даверу».

**Анатоль Вярцінскі**

# Родныя здані

**(Водгук на раман Алеся Аркуша «Сядзіба»; Полацак. Выдавецкая ініцыятыва «Полацкае ляда»)**

Кніг, якія хацелася б чытаць, на белым свеце багата. А ў якіх хацелася б пажыць, прычым ва ўмовах сучаснай Беларусі, не адлятаючы за цёплае мора ці ў міфічную будучыню на іншую планету, амаль няма.

Раман Алеся Аркуша «Сядзіба» менавіта такая кніга. Побыт суседнічае з містыкай, філасофскія развагі — з драматычнымі падзеямі, але пры гэтым няма пакручастай напружанасці ў сказах і словах, твор чытаецца лёгка, а чытач пад час чытва адчувае сябе хораша і нязмушана.

Месца дзеяння — прыватная гарадская сядзіба ў старажытным Полацку, набытая гаспадарамі разам з сабакам. Падворак стаіць на беразе Дзвіны ў чароўным месцы, але, як высвятляецца, гэты лапік зямлі хавае нейкую трагічную таямніцу.

...Мяне не палохалі ані дзіўнае мармытанне з гарышча, ані неспадзяваныя сляды босых ног на расе, нават адчуванне прысутнасці істотаў паралельнага свету прыймалася як дадзенае. Здаецца — каб пабачыла, што з туману выйшаў дзед у белым, дык павіталася б. Бо гісторыі пра вядзьмачыя чары мне змалку не ў навіну.

Але адна справа дзівіцца з выбрыкаў нячысцікаў ці зданяў у якасці госця ці назіральніка. Іншая — мець ва ўласнасці сядзібу, на якой няма ладу ні з агародам, ні з ацяпленнем, самі сабою загараюцца свечкі, бразгочуць кілішкі, у стосе старых часопісаў знаходзяцца нейкія дзіўныя дзённікавыя запісы былога гаспадара, а колішняя гаспадыня прамаўляе: «Не зазналі тут шчасця»...

На працягу рамана ягоныя героі спрабуюць зразумець сутнасць анамальных з'яў, даць ім рады. Але гэтыя пошукі абароны ад уплыву істотаў паралельнага свету не замінаюць жыць напоўніцу: парадчыць гаспадарку, назіраць за палётам кірляў над Дзвіною, у думках вяртацца ў дзяцінства, дзе ад цябе нічога не засталося, прымаць гасцей, разам з сябрам, мясцовым літаратарам Кастанам Навадворскім, абмяркоўваць сюжэт ягонага гістарычнага дэтэктыву, прысвечанага славутаму кубку Стэфана Баторыя, разважаць пра таямніцы полацкай гісторыі.

З самага пачатку чытання ў мяне не было сумневу: прывіды наўрад ці здольныя сур'ёзна нашкодзіць гаспадарам сядзібы. Бо ўменне герояў шанаваць і трымацца свайго, прычым рабіць гэта не напружваючыся, па-дзіцячы радасна — найлепшая абарона ад нячысцікаў. Узняцца ўвечары на дах шматпавярховіка, каб зірнуць на родны горад, лежачы ў густой траве пад сакатанне конікаў гаманіць пра перавагі людскога жыцця на азёрнай выспе, задумацца, якая рыбіна і птушка — твае ўлюбёныя, — ці кожнаму дарасламу такое прыйдзе ў галаву?

Рачныя хвалі, расліны, жывёлы, птушкі, колеры вады і неба адыгрываюць у рамане даволі значную ролю, хаця доўгія апісанні прыроды тут адсутнічаюць. Краявідам няма патрэбы адлюстроўваць настрой і памкненні людзей, бо рака і наваколле з'яўляюцца цалкам самастойнымі і ці не галоўнымі героямі.

«Сядзіба» — містычны твор. Але ягоная містычнасць зусім не такая, як у падлеткавых прыгодніцкіх аповесцях часоў СССР, дзе піянеры паўсюль палюююць на шпіёнаў, а стражытныя скарбы пад кожным пнём закапаныя.

Яна існуе ў звыклых рэчах, яна сузіральная, падобная да цяпельца ў грубцы, выклікае давер і ўражвае зітаванасцю са штодзённасцю. Нават у дзіцячых ўяўленні мінуўшчыны пра начныя шпацыры бронзавага Леніна па пасёлку верыш, узгадаўшы, як некалі школьнікі з-пад Бабруйска казалі амаль тое самае пра тамтэйшы помнік героям-пераможцам.

Аўтар рамана не раскрывае да канца ўсіх таямніцаў, героі не маюць жадання даведацца пра ўсё да апошняй дробязі, бо немагчыма гэта ані ў кнізе, ані ў жыцці!

Пры ўсёй сваёй захапляльнасці і вобразнасці мовы «Сядзіба» падалася мне ўсё ж такі творам для сталых чытачоў з жыццёвым досведам. Вядома, падлеткі ды дарослыя, што не бачаць розніцы між легкадумнасцю і пазітывам, могуць таксама зацікавіцца, але сумняюся, што здолеюць зразумець.

Сюжэтныя лініі «Сядзібы» не перакрыжоўваюцца і не сыходзяцца ў адно, так і застаючыся паралельнымі. Іх міжсобку лучыць хіба месца дзеяння — Полацкая зямля. Але лучыць настолькі моцна, што мажліваці ўявіць іх у якасці асобных твораў не выпадае. Расповеды пра цяперашчыну і мінуўшчыну, людзей і зданяў, дэтэктыў і дзіцячыя ўспаміны кожныя па-свойму пацвярджаюць думкі, выказаныя героямі рамана, пра тое, што эпохі змяняюцца, усё перайначваецца — а людзі застаюцца такімі ж самымі.

...Перагарнуўшы апошнюю старонку «Сядзібы», я ўрэшце даўмелася (хаця мо і не да канца, бо далёка ад вялікай вады гадавалася), чаму ля дома абавязкова мусіць быць рака — каб яе аксамітныя хвалі маглі вярнуць зданям тое, што людзям ужо не належыць.

**Таццяна Барысік**

# Прадчуванні

Васіль ЖУКОВІЧ



Фота www.lit-bel.org

**1**

Сінявокая, з тоўстаю пшанічнаю касою дзяўчына вырасла ў прыгожым старажытным беларускім гарадку, у інтэлігентнай сям'і, дзе прыкметнае месца займалі музыка і песні. Бацька, армейскі доктар, віртуозна граў на акардэоне, маці, музыказнаўца, і малодшая сястра добра спявалі, кожная акампануючы сабе на фартэпіяна. Рэгіна, так звалі дзяўчыну, не валодала дасканала ніякім музычным інструментам, ды захаплялася эстрадаю. Яе нязменным кумірам у школьныя і студэнцкія педінстытуцкія гады стаў Рашыд Бейбутаў. Калі па радыё гучала што-небудзь у яго выкананні, яна спяшалася да прыёмніка. Замірала, слухаючы пра незвычайныя дзявочыя вочы, якія ззялі ярчэй за зоркі залатыя і заваражвалі лірычнага героя песні… Іншы раз ёй здавалася — спявае не артыст, а салоўка заліваецца мілагучным спевам. Не менш за чароўны голас спевака ёй падабалася яго аблічча: цёмныя прамяністыя вочы, смуглыя тонкія бровы, чарнюткія, ажно з сіняватым адлівам валасы. У сваім пашпарце Рэня насіла партрэцік любімага выканаўцы.

Як жа прыемна здзівілася яна, калі ў кінатэатры, куды прыйшла ў нядзелю пад вечар паглядзець новы кінафільм, поруч з ёю, на суседнім сядзенні аказаўся малады чалавек у светлым касцюме, вельмі падобны да Рашыда Бейбутава: такі ж смуглы і такі прывабны! Найперш і найбольш яе ўразілі яго карыя вочы, абрамленыя чорнымі і доўгімі, як у дзяўчыны, веямі. Захвалявалася, ёй стала горача. Раз-пораз дзяўчына прыкладвала руку да левай шчакі і вуха, што, здавалася, гарэлі агнём, бо акурат злева сядзеў незнаёмы. «Божа мой, чаго я так хвалююся?!» — нарэшце падумала яна, як бы глянуўшы на сябе збоку. — Хто ён такі для мяне? Чужак. Магчыма, завітаў да кагосьці пагасціваць ці камандзіраваўся ў Беларусь з якой-небудзь сярэднеазіяцкае краіны. Як прыехаў, так і паедзе…» Аднак нейкае незразумелае, невытлумачальнае прадчуванне ёй не дало супакою. «Чаму ён апынуўся менавіта ў Беларусі? — працягвала разважаць Рэгіна. — І што азначае гэты факт: ягонае месца аказалася ўпрытык з маім?» Яе цікавіла многае, калі не сказаць — усё, што датычылася асобы незнаёмага маладога чалавека. Хто ён такі, з якой краіны і з якой мэтай завітаў?.. Словам, ёй хацелася, каб хлопец азваўся да яе, а яшчэ лепей — каб захацеў пазнаёміцца з ёю. У той жа час яна і пабойвалася, каб не заўважылі яе залішняе хваляванне і раптам знячэўку не пасяліў у ейнай душы пачуццё расчаравання…

**2**

Расчараванне тады абмінула Рэгіну. Тая выпадковая сустрэча, а пазней — новыя невыпадковыя спатканні толькі ўмацоўвалі пачуццё зачараванасці. Незнаёмец (звалі яго Паўлам Царэвічам) аказаўся карэнным беларусам і, галоўнае, добрым, прыязным чалавекам. Рос ён бядовым хлопцам, без бацькі, які лічыўся без весткі прапаўшым на вайне, ды, як высветлілася праз пятнаццаць гадоў, апынуўся ў Польшчы, дзе завёў новую сям'ю. Не ўтаіў Павел ад Рэгіны і матчын «подзвіг»: яна ў свой час завабіла да сябе мужчыну з сям'і, дзе гадаваліся дзевяць ягоных дзяцей.

Шчыры сумоўца, Павел дужа любіў пагаманіць з Рэгінай пра жыццё-быццё. Прасторнымі летнімі вечарамі прывык бавіць час разам з ёю, вольнаю ажно амаль на два канікулярныя месяцы пасля свайго першага года настаўнічання. Часта яны, закаханыя, апыналіся ў раскошных кутках прыроды, патаналі на жытнёвых сцяжынках, у лугавой і лясной нерушы, дзе пачуваліся Адамам і Евай…

Рэгіне падабалася нястомная ласкавасць Паўла, ён цалаваў яе вусны, вочы, бровы, нават радзімкі, пасеяныя невялічкім сузор'ем на яе тонкай белай шыі. І любіў распавядаць, як ён яшчэ школьнікам і пазней, будучы студэнтам будаўнічага інстытута, марыў спаткаць дзяўчыну якраз такую, як яна. «Уяўляеш, — казаў ён, — я хацеў, не ведаю чаму, каб у маёй любай на яе лебядзінай шыі было некалькі радзімак, каб у яе былі натуральныя светлыя валасы. Але галоўнае — каб былі сінія вочы, як нашыя васількі, як бясхмарнае чыстае неба!». Прамаўляючы такія сардэчныя словы, ён браў у рукі букет, у якім пераважалі васількі, паказваў на іх, глядзячы ў вочы дзяўчыны, пасля, усміхаючыся, глядзеў на сінечу неба. Рэгіна цешылася, парадавала і Паўла, калі распавяла пра тое, як хвалявалася і пра што мроіла пры першай з ім сустрэчы ў кінатэатры. Весела яму стала, калі даведаўся пра сваё падабенства з Рашыдам Бейбутавым. Ён засмуціўся, калі пачуў, што Рэгінін бацька быў пры Сталіне зняволены на сем гадоў за непрацяглы нямецкі палон.

Хутка яны зразумелі: жыць не могуць адно без аднаго. Справа рухалася да шлюбу, і тым жа летам маладыя пабраліся. Пакуль былі жаніхом і нявестаю, Рэгініны сяброўкі і знаёмыя, тыя, што добра ведалі не толькі яе, а й Паўла, перасцерагалі яе, раілі не спяшацца замуж за першага стрэчнага: «У цябе ж нікога дагэтуль не было!», «Трэба добра прыгледзецца да свайго абранага», «Трэба пуд солі разам з'есці, каб раскусіць, што ён за птах», і гэтак далей. Некаторыя, маючы на ўвазе ягонага бацькі прыкры ўчынак, намякалі: «Яблычак ад яблыні недалёка падае…». «Што вы такое гаворыце! — амаль абуралася Рэгіна. — Павел харошы!»

**3**

Павел і Рэгіна Царэвічы сваё сумеснае жыццё пачалі ў хаце Рэгініных бацькоў, а калі праз год нарадзіўся іх першынец-сынок, пераехалі ў сваю кватэру, атрыманую Паўлам ад будаўнічае кампаніі. Праз пяць гадоў у іх з'явілася дачушка. Жылі душа ў душу. Малады муж аберагаў жонку, ва ўсім дапамагаў ёй. Калі яна працавала ў сельскай школе, пад'язджаў у сяло, каб разам вяртацца дадому. Не прапускаў літаратурныя вечары і спектаклі, якія ладзіла Рэгіна для вучняў, дапамагаў рабіць дэкарацыі. Калі яна ўладкавалася ў гарадскую школу і шчыравала там у дзве змены, ён пасля свайго працоўнага прарабскага дня паспяваў да яе прыходу прыбраць у кватэры, выкупаць дзяцей, прыгатаваць вячэру. Рабіў усё не змушана, а натхнёна. Улетку Царэвічы адпачывалі сям'ёю то ў Крыме, то на Каўказе, то ў Прыбалтыцы. Да самазабыцця Павел любіў дзяцей. Калі дачушцы споўнілася пяць гадоў, набыў ёй піяніна, вазіў яе ў дзіцячы сад, у школу сярэднюю і музычную, купляў цацкі. Сына змалку вучыў канструяваць, у раннім узросце навучыў вадзіць машыну.

На два гады Павел з'язджаў у заробкі ў Лівію. Адтуль прысылаў лісты, поўныя пяшчоты. Рэгіна не заставалася ў даўгу, нават вершамі пачала з ім размаўляць. Вярнуўся ён з далёкага замежжа, калі на радзіме быў цяжкі час. Прывёз багата чэкаў, усе аддаў жонцы, каб набывала, што душа пажадае. Мноства падарункаў раздаваў родным і прыяцелям. Да сям'і сваёй стаў ён яшчэ больш уважлівы, як гэта было да паездкі ў Лівію, усіх адорваў падарункамі, ружамі. Аднойчы ўлетку, адправіўшы Рэгіну і дзяцей у Дом адпачынку, зрабіў за кароткі час у кватэры рамонт, купіў новую ванну, газавую пліту, мэблю. Любіў падносіць прыемныя сюрпрызы. Нібыта ўсе яго бясконцыя знакі ўвагі, шанавання і любові былі падрыхтоўкаю да сюрпрызу непрыемнага.

Неяк Павел лячыўся ў шпіталі. Рэня з мамай праведалі яго, сядзелі з ім на лаўцы ў дворыку. Да іх неспадзявана падышла незнаёмая жанчына, якую Павел прадставіў: «Знаёмцеся — Ліза, стрыечная сястра жонкі майго начальніка Ніны Яўгенаўны. У яе муж, сардэчнік, тут лечыцца». Рэгіну трохі засмуціла тое знаёмства непрыемным абліччам прадстаўленай. У яе былі бясколерныя мутныя вочы, тонкія падцятыя губы, шырокі рот, штучная на галаве амаль чырвоная кучма валасоў. Спакваля непакоіла пытанне: «Навошта гэтае знаёмства?»

Пакуль муж лячыўся, пайшлі прапановы ад новай знаёмай: «Можа, вам патрэбная белая фарба?»; «А мо трэба мяса? Я загадваю сталоўкай». «Не, не трэба, дзякуй», — адбівалася Рэгіна ад незразумелае ласкі. А неўзабаве Павел запытаў: «Можна адвезці мне Лізу да знахаркі? Хварэе, бедная, а дактары не могуць памагчы». «Вядома, памажы чалавеку», — сказала клапатліваму Паўлу спагадлівая жонка.

З той пары муж дамоў пачаў вяртацца позна, а то і не вяртаўся, спасылаючыся на камандзіроўкі. Раптам яму спатрэбіліся чэкі, падораныя жонцы... «Ваш муж сустракаецца з Лізай, — сказала Ніна Яўгенаўна, жонка Паўлавага начальніка, Рэгіне. — Нашы ўгаворы не разбураць дзве сям'і адскокваюць ад яе, як гарох ад сцяны». А Рэгіна і сама прадчула Паўлаву здраду.

Знайшла віноўніцу на працы. «Ты што сабе дазваляеш?!» — пачала яна канкрэтную гаворку з недарэчнай саперніцай. Лізуня, як яе ўжо называў новы муж, прымружыла вочы і выпаліла як з гарматы: «Ты прыйшла мяне выхоўваць, настаўніца? Ведай жа: мы кахаем адно аднаго, а гэта вышэй за правілы маралі!»

**Дзеці пацыху душой акрыялі, сын паступіў у інстытут, выдатна вучыўся. З яго прыклад брала сястрычка. Але сама Рэгіна была ўпала ў дэпрэсію, мужава раздваенне і падзенне, ягоную ганьбу перажывала вельмі хваравіта. Інтымная драма моцна выбіла яе з жыццёвае каляіны**

**4**

Павел Царэвіч, калі маладушна-таямніча сыходзіў ад Рэгіны да іншае жанчыны, не напружваў розум думкамі пра сям'ю, ён быццам знаходзіўся пад уздзеяннем чыйгосьці гіпнозу, не разумеў, не прадбачыў, які ўдар можа адным махам нанесці па ўсіх сямейніках, якія пакуты прынясе ім, а ўрэшце рэшт і самому сабе. Дзесяцігадовая дачушка пыталася ў маці: «Дзе, мамачка, тата? Чаму не прыходзіць дадому?» Пасля, засмучаная, дадала: «Ён такі добранькі, хачу, каб быў дома! Дзе ён, мамачка?» Рэгіна не ведала, што сказаць. Суняць дзіцячае хваляванне, суцешыць дачку не было чым, яна сябе добра ведала: на такія паводзіны каханага заплюшчыць вочы не зможа. «Кажуць, пачаў сабакам сена касіць», — з горыччу адказала яна малой. Балюча ўспрыняў бацькаў учынак сын-юнак, ён рыхтаваўся да чарговага іспыту, паступаў у інстытут замежных моваў. Тады, як асабліва быў неабходны душэўны супакой, камфорт, ён не мог сканцэнтраваць увагу, па паўгадзіны тырчэў над кожнай старонкай канспекта, слаба засвойваў прачытанае, бо з галавы не выходзіла страшная непрыемнасць. «Мама, няўжо ты не магла сустрэць больш вартага чалавека?», — з адчаем казаў юны максімаліст. «Сам ведаеш, сынок, ён усе нашыя сямнаццаць гадоў быў цудоўным бацькам, а я скажу — такім жа ідэальным мужам. Магчыма, хтосьці сурочыў нас, а мо якія чары на яго навяла-напусціла знахарка, да якой аднойчы звазіў тую пацыентку», — гаварыла яна шчыра і ціха, чым супакойвала і сына, і дачку.

Дзеці пацыху душой акрыялі, сын паступіў у інстытут, выдатна вучыўся. З яго прыклад брала сястрычка. Але сама Рэгіна была ўпала ў дэпрэсію, мужава раздваенне і падзенне, ягоную ганьбу перажывала вельмі хваравіта: «Хоць бы чымсьці людскім спакусіўся, а то прыбіўся да нейкае выдры, адно страхоцце!» Інтымная драма моцна выбіла яе з жыццёвае каляіны. Ад глыбокага стрэсу прыключылася анкалогія. Ды яна ўмела не панікаваць, суцешылася, што выявілася каварная хвароба на ранняй стадыі, і лекары справіліся з той бядою.

Развод, на якім настаяла Рэгіна, быў збянтэжыў Паўла Царэвіча, прымусіў пахвалявацца, ён нарэшце ўцяміў, што дарожкі вяртання ў сям'ю няма. Давялося змірыцца з жончынай непрымірымасцю, бо напоўніцу ўсвядоміў сваю здраду, як след ацаніўшы жончыну вернасць.

Новую жонку прапісаў у матчынай двухпакаёўцы. Спачатку жыццё без пастаянных клопатаў ішло весела, яно выглядала гладкаю дарогай, але неўзабаве на той яго дарозе з'явіліся калдобіны, якія паступова паглыбляліся. Пачаліся праблемы са здароўем. Стаў падаць зрок. Пачалі пераследаваць трывожныя сны. А па вяртанні ў суровую рэальнасць: трэба кроплі для вачэй, а не памятае, дзе яны; трэба прыняць інсулін, а няма поруч Лізуні, каб укалола. Якраз у пару нарастаючых недамаганняў Паўла яна ўсё часцей кідала яму з парога кароткае паведамленне: «Міленькі, я паехала…» Ехала яна штодня да новага абранніка, які чакаў яе ў іншым горадзе. Ужо не так часта і начавала дома.

Працяг на стар. 10 (4) »

« Працяг.
Пачатак на стар. 9 (3)

**5**

Ранейшыя сны Паўла цяжкімі начамі не паўтараліся. Прысніўся новы, як бы здзеклівы сваёй сутнасцю сон: ён, п'яны, барахтаецца ў лужыне, не могучы з яе выбрацца, хвалюецца за прамоклую ў бруднай вадзе апаратку і за сваю намочаную ў нагавіцах «гаспадарку», а да яго пад'язджае аўтамабіль, на якім вялікімі чорнымі літарамі выведзена: МАШЫНА ЧАСУ. Машына адкрытая, у ёй сядзіць ведзьма, яна глядзіць на Паўла-небараку і гучна-гучна рагоча, дэманстратыўна насміхаецца з яго. Павел углядаецца ў нахабнае аблічча ведзьмы і пазнае ў ім тую, што здрадліва пакідае яго ў бядзе. Так, гэта яна — з ненатуральна вогненнай чупрынай, падцятымі фанабэрыстымі губамі і пустымі мутнымі вачыма. Павел намагаецца падняцца, але ніяк не можа, тады штомоцы крычыць: «Згінь, сатана!»...

Неяк, вяртаючыся з паліклінікі, Павел сустрэў Рэгіну. Яна правяла яго да самага дома. «Ведай, Рэнечка, я кахаў, кахаю і буду кахаць толькі цябе!» — сказаў ён былой жонцы на развітанне. Пазней, калі здароўе яшчэ пагоршылася, пачаў скардзіцца Рэгіне і дачцэ на Лізуню: «Яна мяне ўсяляк абзывае, суткамі не бывае дома. Рэнька, я, дурань, так уляпаўся!».

Паміраў Павел Царэвіч цяжка. Яму здрадзілі ногі. Сам не мог дайсці да прыбіральні. Да апошніх ягоных дзён апекавалася ім дачка. Перад смерцю ён папрасіў паклікаць Рэгіну. Калі былая жонка прыйшла, Павел узяў яе рукі, прытуліў да грудзей і сказаў: «Даруй мне за ўсё, любімая!». А ў гэты час на кухні Лізуня з сяброўкамі пахмялялася.

Нарэшце яна займела тое, пра што марыла: прыватызавала кватэру, прапісала ўнука і прытулілася да багача. Праўда, той багач неўзабаве папёр яе з катэджа. А праз два гады яна сышла ў лепшы свет.

Да Рэгіны сваталіся ажно пяцёра мужчын, ды нікому яна не адказала ўзаемнасцю. Прывыкла да сваёй свабоды. Слухае класічную музыку, мулявінскіх «Песняроў»; Рашыд Бейбутаў даўно перастаў быць кумірам. Паўлу паставіла помнік, да якога прыходзіць то з дачкою, выдатнаю праграмісткаю, то з унукам-старшакласнікам. Штодня па скайпу размаўляе з сынам, які працуе архітэктарам у Лондане, і з яго сям'ёю. Не раз вандравала па Вялікабрытаніі ды іншым замежжы. Любіць прымаць гасцей, асабліва сваіх выпускнікоў, найбольш — самых першых, якія запомнілі яе маладою...

*21 верасня Васіль Аляксеевіч ЖУКОВІЧ адзначыў сваё 80-годдзе.*

*Шчыра віншуем нашага паважанага аўтара, сябра Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, з высокім юбілеем і жадаем яму новых публікацый, здароўя і радасці!*

# Адценні



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

***

Юрася Мікалаевіча Свірку я ўвачавідкі сустрэла на Ушаччыне пад час святкавання ўгодкаў Петруся Броўкі. Падышла да яго з вялікай удзячнасці. Менавіта ён даў мне «пропуск» у літаратуру. Юрась Мікалаевіч прадставіў маю першую падборку абразкоў у «ЛіМе» сакавіцкім нумарам 1994 года. Напісаў харошыя словы. Наўрад ці пасмела б я другі раз звярнуцца ў рэдакцыю якогась іншага часопіса, каб ён «зарэзаў» той мой першы вопыт. І ўжо факт: разышлася б я не толькі з літаратурнай практыкай, а наогул, з роднай мовай. У той адраджэнскі час да мяне толькі-толькі пачало штосьці даходзіць, гады ж мае юныя і леты ўжо збягалі, абавязкі раслі, клопаты трохдзетнай маці шырыліся і не давалі вялікіх шанцаў. А мае аднагодкі ў літаратуры ўжо атрымлівалі прэміі і ставілі аўтографы на сваіх кніжках.

— Дык вы зусім не маладая! Як я рад!!! Як я рад, што вы зусім не такая маладая, як падалося мне на фотаздымку!

Можна было проста «дубу даць» ад такога ашаламляльнага адказу на маё шчырае прывітанне... каб было ў ва мне хоць на крышачку больш жаноцкага. Аднак, у гонар сабе, я адмеціла, што разумею яго словы і не крыўджуся, ды, нават, адчуваю цеплыню: ён не палічыў патрэбным прыхоўваць ад мяне зацікаўленасць мной як жанчынай.

— Я ж здымак ваш на сваім стале трымаю і любуюся ім кожны дзень! І каму такое шчасце дасталося?!

Калі ў далейшай размове даведаўся, што «шчасце» аказалася «бязхозным», Юрась Мікалаевіч, пазбаўлены ўсякага ханжаства, пляскаў у далоні і ўжо разважаў зусім па-гаспадарску, не зважаючы на тое, што з майго боку на яго не зададзеныя пытанні пакуль што не прагучала ніводнага слова.

— Але што ж я?! Што я, такі стары, магу вам даць?! Што я магу вам даць?

Каб толькі ведаў ён, што ў маім абсалютным маўчанні на яго знакі ўвагі — па самай высокай меры — зайздрасна мужчынскім падыходзе, хавалася павага і глыбокае жаночае захапленне. Я ўбачыла прыгожага чалавека, мужчыну. У яго блакітных ясных вачах не было і кроплі пошласці і нахабства. Бялюткі як снег, непаслухмяны чуб над высокім, чыстым, светлым ілбом так яўна сведчыў аб яго быкаватым нораве, ніколі не псаваўшым партрэт мужчыны. Даведалася: Юрась Мікалаевіч пахаваў сваю каханую жонку і вельмі пакутуе ад адзіноты. Пакутвала ад адзіноты і я... Дні на Ушаччыне запэўнілі мяне — такія прыгожыя людзі, як Юрась Мікалаевіч, наогул, не часта сустракаюцца ў звычайным асяроддзі. Не была я ўпэўнена ў сваёй яму адпаведнасці і чысціні сваіх развагаў, каб схапіць ініцыятыву абранай «музы-сяброўкі». А прыгажосць Юрася Мікалаевіча і грунтавалася менавіта тым, што ўмеў думаць не толькі пра сябе.

***

Ушаччына. Гасцінна накрыты стол для пісьменнікаў (пасля ўрачыстых мерапрыемстваў), музыка, танцы. Неўпрыкмет выкрадаюся на двор падыхаць свежым паветрам у цемру ночы. Як на заказ, з невыноснай дзённай духаты ўліў дождж. Хаваюся пад казырком ганка ад нечаканага абліўня — бліскучай сцяной з чорнага неба. З вадзяной завесы вынырвае крыху «падмочаны» Пятро Ламан, таленавіты артыст нашага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску, паэт, літаратар. Атрасае з сябе кроплі дажджу, нялоўка мнецца з хвілінку на прыступ-



Фота www.pixabay.com

ках і... пачынае спяваць, нічым не папярэджваючы свой намер.

Мелодыя нараджалася арганічна, натуральна злівалася з шумам дажджу, плыла, падхопленая моцным ад вільгаці і прыгожым акустыкай рэхам. Гукі ўзнікалі ціха-ціха, маркотнымі, разрасталіся ў глыбіні грудзіны пеюна і выходзілі надрыўна-горка, плакуча, разрываючы санлівую абыдзённасць, шчымліва-самотныя, затухалі далёка-далёка ў прасторы... То было штосьці незнаёмае, ніколі не чутае, са скарбонкі фальклору, ці сваё, экспромтам? Аднак такое роднае! Такое зразумелае, быццам адкрыўся мне голас усіх маіх ніколі не бачаных продкаў...

Я стаяла зачараваная, баялася варухнуцца, напалохаць рэдкае адчуванне боскай чысціні і праўды быцця, велічы і... адзінства з роднай культурай.

***

Славуты беларускі драматург Аляксей Дудараў мог бы яшчэ стварыць сабе выбітную артыстычную кар'еру ў кінематографе. Яго нешматлікія ролі ў кіно дадалі да шэрагу яскравых, прызнаных і прынятых намі па сваёй абсалютнай нацыянальнай адпаведнасці, вобразаў: Несцеркі, Паўлінкі, Васіля Дзятліка, Чарнушак (бацькі-дачкі), вобразаў, створаных нашымі славутымі Станютай, Гарбукам, Макаравай... свой самабытны, непаўторны, а галоўнае — сучасны вобраз беларуса. У кароткаметражнай стужцы «Госць» герой, сыграны Аляксеем Дударавым такі наш, тутэйшы, знаёмы. Яго знешняя скаванасць, нібы нягнуткасць, зусім не ад «дубаватай» натуры, наадварот, ад напоўненасці пачуццямі тонкай прыроды. Яго сціпласць, нешматслоўе ад сапраўднай вясковай народнай культуры. Вобраз намаляваны не кідкімі, не яскравымі фарбамі — пастэльна, ледзь-ледзь заўважна, тым ён і адпавядае беларускаму лейтматыву. Аднак на такой вастрыні эмоцый, што здаецца — чвэрць крока не ў той бок, і здарыцца крах. Гэтае балансаванне на лязе ўдаецца толькі праз вытанчаную глыбока нацыянальную рысу героя мудрага, памяркоўнага, здольнага адчуваць «чужую» душу, здольнага пакласці сваё я пад ногі, каб падняцца вышэй над сабой. Герой фільма «Госць» аднолькавай крыві з драматургічным героем Аляксея Дударава — Васькам з «Белых рос», якога, на мой погляд, не здолеў раскрыць выдатны расійскі артыст Карачанцаў. Ён не адчуў яго сутнасці, стварыў штучны, не праўдзівы вобраз, якога ў прыродзе не існуе. Карачанцаў іграў простага, добрага, але, насамрэч, крыху дуркаватага дзецюка, які не бачыць відавочнага, ды яшчэ і тэатральна фанабэрыцца ў канцы фільма перад жонкай. Васька павінен быў толькі ўдаваць сябе за «дурня» і рабіць выгляд, што нічога не разумее — вось так, як герой стужкі «Госць», ахвярна паклаўшы сваё я пад ногі дзеля «другі свая». А ў канцы дык і зусім мог неўпрыкмет сцерці слязу, бо на працягу ўсяго камічнага фільма мусіў цярпець боль ад здрады і страх за сваю сям'ю, і, вось, нарэшце, перамог. Герой Карачанцава нічога не адчуваў: ні кахання, ні рэўнасці, ні трагедыі, ні шкадавання...

У літаратуры і мастацтве даўно створаны жыццёвыя нацыянальныя вобразы беларусаў: жанчыны з моцным характарм і мужчыны з мякчэйшым, спакойным, лагаднейшым норавам. Той і другі ахвярныя, той і другі шчырыя, сціплыя. Абодва — крэмень! Гэта — наша нацыянальнае золата: беларускі характар.

***

Калі пачынала пісаць, склала для сябе ў нашай літаратуры некалькі сучасных аўтарытэтаў, і хоць былі яны амаль аднаго са мной веку — палову свайго я паклала на выхаванне дзяцей. На жаль, літаратурна-журналісцкіх ВНУ ці факультэтаў за плячамі не мела — заставалася захапляцца чужым поспехам.

І вось я перад камісіяй літаратараў уступаю ў Саюз пісьменнікаў! У дадатак, як у насмешку майму «самазадавальненню», месца, прысесці пасля апытання, знаходзіцца ля Андрэя Федарэнкі — аднаго з найпершых маіх аўтарытэтаў...

Імя свайго я не любіла... Нечаканае, як гук скінутага на падлогу посуда, халоднае, бы ледавешка, бляклае, быццам позірк недалюбленай жанчыны, зусім выпадковае і невыразнае — Люда. Хто адчувае мяне па сапраўднаму — звернецца дзіцячым да́ўным — Люся, і абагрэе сэрца.

Неяк забягаю ў «Маладосць», дазнацца лёсу выпраўленых поштай абразкоў. Мяне сустракае... сам Федарэнка...

— Люда, ты па апавяданнях? Пачакай... Я іх адрэдагаваў...

Ніколі ў жыцці не ўяўляла, што маё імя такое цёплае і самадастатковае...

***

Адзін мой добра знаёмы выдатны паэт, дзякуючы каму ў свой час я вярнулася да роднай мовы, калі яму засвяціла магчымасць стаць загадчыкам якогась аддзела якогась часопіса, асляплены падманшчыцай планідай, даверліва дзяліўся планамі, марыў:

— Уяўляеш, Людка, — сяджу я за сваім столікам, у сваім кабінеціку, такі густоўна апрануты, у гальштучку, ранішнюю каву пацягваю, а да мяне ідуць, ідуць, ідуць маладыя прыгожанькія дзяўчаткі, вершы нясуць...

Ён жа. Падбягае на пасяджанні філіі, мітусліва падсоўвае якуюсь паперку.

— Людка, трэба падпісаць. Рэкамендуем у Саюз пісьменнікаў.

— Каго?

— Вось... — працягвае самвыдатаўскі зборнік «няслабага», па вонкаваму выгляду, гатунку. Відаць, рэкамендаваная спадарыня ведае сцежкі да вялікіх грошай...

Адкрываю наўгад. «Не топчите воду сапогами!», з пафасам заклікае паэтэса, другі верш, трэці...

— Што гэта?! Мне сорамна.

— Людка, падпісвай. Трэба прыняць. Ёй С. абавязаны... Яна шмат чаго нам зрабіла.

І было б гэта вельмі смешна, каб не так сумна: нацярпелася наша і без таго пакутлівая беларуская літаратура ад «загадчыкаў»...

***

У дзіцяці каля трох гадоў ёсць кароткі перыяд, калі ў вочы яму немагчыма зазірнуць — адразу пырснуць слёзы ад нейкага невыноснага святла, што ліецца з вачэй малога. Быццам апякае! Як нельга зірнуць адкрытымі вачыма на сонца. Гэта той час, калі крыху падрослае, аддаліўшыся ад мамкі, дзіця пачынае «падключацца» да космасу, і ў той нядоўгі момант сам Бог пазірае на нас праз дзіцячыя вочы. Лічаным адзінкам людзей удаецца зберагчы і пранесці гэтае святло ў сваіх вачах праз усё жыццё.

У вачах Алеся Пісьмянкова жыло такое святло.

# Подых палыновы



Антаніна ХАТЭНКА

## Радаўніца

*Бела-бела вальсуюць вішні,*
*асыпаючы долу цвет.*
*Лёгка-лёгка снуе Правышні*
*з цвету ўпалага шлях траве.*

*І адхуквае і аблашчвае*
*рой пялёсткавы ў далані,*
*хоць нябыт згаладалай пашчаю*
*праглынае вякі і вагні.*

*Ясна-ясна плыве над цемрай*
*у карункавых строях сад.*
*Там, дзе ўчора свята памерла,*
*рассвітальна зіхціць раса.*

*Уздымаецца сад на дыбачкі*
*ў набрынялых пупышках дум.*
*Хто мне выбачыць, хто мне выбачыць,*
*што ў разгубе дамоў іду?..*

*Што ў парваным нітве карэння*
*ледзьве ўздрыгвае чуйны пульс...*
*Хто мне верне вясну, хто верне?*
*Адгалосак чакаць адкуль?*

*А ля весніц анёлы-яблыні*
*парасхрыствалі весне ўвыш.*
*І ў блакіту нябёс ядвабную*
*ахінуўшыся, ты сталіш.*

*З матылёваю хваляй згадак*
*перашэптваюцца знічы.*
*Ды ляціць над самотным садам*
*голас нечый. Нічый. Нічый...*

*Спластаваны гады памкненнямі*
*ў плашчыню ўдзіранелых эр.*
*Над маленнямі й летуценнямі*
*толькі саду крыло цяпер.*

*Развінуліся птахі й вішні,*
*павяртаныя ў рай здаля.*
*З-пад вясёлкавай Брамы вышняй*
*сцежкаю белаю продкі выйшлі*
*ў сад, дзе гоіць часы Зямля.*

**23.04.2018**

## Подых палыновы

*...І развінулася святлынь*
*з прадна, са споду.*
*І лашчыў срэбраны палын*
*дарогі подых.*

*У той дарозе ноч і дзень*
*счапілі крылы.*
*І сыплюць зоры на людзей,*
*каб свет адкрылі.*

*Каб з-пад цяжкіх, як твань, павек*
*расплюшчыў вочы*
*век, што з-пад радасці плыве,*
*ды ў цемру збочыў.*

*Каб з цёплай-цёплай глыбіні,*
*што Род калыша,*
*гук адпачатны парадніў*
*бяздонні й вышы.*

*Каб зноў прасвечвалі дажджы*
*скразную далеч,*
*дзе Ўсё надыхваецца жыць,*
*што мы з'язналі.*

*Што свет прашыла, як прамень*
*змярканні-ўсходы,*
*Дзядоў нітуючы й мяне*
*ў мембранны подых.*

*...І разамкнуліся крыжы*
*прышэсцяў-сконаў.*
*Празрыста жывяць капяжы*
*карэнне з кроны.*

**13.07.2018**

## Да цябе

*...І ўзышла цішыня*
*спаміж вечара й дня*
*ў векаўлонні начы,*
*скуль наступнасці ўсчын*
*мякка коціцца ў сне*
*ад цябе да мяне.*

*У скразной цішыні*
*спамяні ці прысні*
*сум-валошкавы свет,*
*што плыве і плыве*
*да цябе ад мяне*
*першакветна ў вясне.*

*Зоркі, як птушанят,*
*туліць ноч-цішыня.*
*Растае, быццам час,*
*горыч-ростань між нас.*
*І святлее ў вакне*
*ад цябе да мяне.*

*У цянётах, на дне,*
*думкам вусцішна днець.*
*А ў маёй цішыні*
*золак чыста звініць*
*спадалёк, з яснаты,*
*стуль, дзе ты. Стуль, дзе ты...*

**05.04.2018**

## Кладачка

*Там, дзе парастак мой*
*прабівае да Бога дарогу,*
*ні афіш, ні прамоў,*
*ні вырокаў, ні прэмій — нічога*
*не набыць, не прыдбаць*
*ні лісліва, ні зманна, ні здрадна.*
*Ані плач, ні журба,*
*ні чужыя праклёны й дарады*
*ўжо няўладныя Там,*
*дзе сцябліны ўрастаюць у крону,*
*дзе мой парастак Сам —*
*пакаранне сабе й абарона.*

*Тут нідзе, анідзе*
*на шляху ні вяхі ні падказкі.*
*Сонца кругам ідзе,*
*абыякава сеючы ласку.*
*А на Дрэве Жыцця*
*не злічыць ні шнароў, ні адмецін.*
*Хто ж нітво перацяў,*
*што ўплятала мой свет у Сусвецце?*

*Недзе парастак мой*
*прарастае ў нябёсы з цямрэчы.*
*Над бядой, над зімой*
*веццe Роду вядунскае ўкленчыць.*
*Ды галосяць вятры.*
*Над былінкай шугаюць, шугаюць.*
*Як з надрыву ў прарыў*
*закувае зязюля над гаем.*

*І куванне, як звон,*
*б'е ў гарачыя лёхі паветра.*
*Рвецца, рвецца нітво —*
*перавясла вышыняў і нетраў.*
*Гнуткі парастак мой*
*уздымаецца ўгору ва ўтоме...*
*Ані сноў, ні замоў...*
*Толькі ціша завейная ў доме.*

**15.01.2018**

## Кругабег

*Як загаслі ўсе зоркі,*
*адквітнелі ўсе краскі,*
*адшугалі вятры. І дажджы адгулі...*
*Як чаканне прагоркла.*
*І зглупотнелі казкі...*
*Як абрынуўся час у віры нематы...*
*ТЫ прыйшоў. І ўзвінуў кругабег*
*на Зямлі.*
*У бязвер'і з'явіўся ратункава ТЫ.*

**07.06.2017**

## Аднойчы

***Янку Купалу***

*Не хлопчык. Не лётчык. Лячу.*
*Рукі распростаў крыллем.*
*Мабыць, пралёт пачую*
*Цішу адчайнай хвілі?..*

*А хто там ідзе? Паэт.*
*Гул застывае ў скронях.*
*Боль здрыгануўся ў свет*
*з лесвіцы. З рук Харона?*

*Ці згадкі. Ці думкі. Лісцё*
*падае з дрэва Роду.*
*Дзе ж ты цяпер, жыццё,*
*доранае народу?..*

*І песня і праўда — на збыт.*
*Карнік. Святар. І Плачка.*
*Нехта тут не забыт.*
*Той, хто штурхнуў — не йначай.*

*А неба? А зоры? Маўчаць.*
*Прыступка лязом бліщчастым*
*раскроіла лёс і час.*
*Упасці. Вось воля й шчасце.*

*Аднойчы. Далёка. Прысню*
*абдоймы сцюжлай ночы,*
*сяброўскіх вачэй хлусню,*
*руку на плячы... Аднойчы.*

***

*Развітанне з Радзімай.*
*Паланэзу разлёт.*
*Тут суворыя зімы.*
*І падманнасці лёд.*

*Рэхам клавішы плачуць.*
*Памяць пальцаў баліць.*
*Можна ўсё перайначыць*
*на краёчку зямлі.*

*На краёчку мелодый —*
*матылямі з-пад рук...*
*Сэрцу цёмна й халодна.*
*...Уздымуся й згару.*

*Толькі яскры над полем.*
*Толькі попел — у дол.*
*Я шукала тут Волі:*
*до-рэ-мі-фа-соль... до.*

*Развітанне з краінай,*
*што не стала гняздом.*
*Па-над лёсам — правіны.*
*І надзей повен дом.*

*Ні парэнчаў, ні лесвіц*
*па-за Домам няма.*
*Можна ўсё перакрэсліць —*
*і абдыме зіма.*

*Край у красках і снезе —*
*неўспяванае "ЛЯ"...*
*Там плывуць паланэзы...*
*Там світае зямля...*

**13.08.2017**

## Адтуль

*Згадваецца, мроіцца ці сніцца?*
*Плача вечар на тваім плячы.*
*Пахнуць золкам цёплыя суніцы,*
*дзе мой шлях сыходзіць на спачын.*

*Недзе за гаямі й халадамі*
*цёхкаюць бяссонна салаўі.*
*Прападае шлях мой, прыпадае*
*зґораным пяском да ног тваіх.*

*За дзвярыма кон, як змрок, гусцее.*
*Мне б цябе ўначы асцерагчы!*
*Прабяруся ў дом ціхуткім ценем*
*(ну, хіба прыкмецяць касачы...)*

*Як тужліва леты адцвіталі*
*ў ростанях у колішнім жыцці!*
*Вось між нас няўдоленая далеч —*
*ні пачуць, ні ўбачыць, ні дайсці!*

*Толькі часам згадваецца-сніцца,*
*як вятры арганныя гулі,*
*падалі жальбіннаяігліца*
*і твае тры прыгаршчы зямлі...*

**09.10.2018**

## Адвітанне

*Павяртаецца памяць шторання*
*з цемравое мядзянай гары.*
*І ў вакне маім, як на экране,*
*адвітальна кастрычнік гарыць.*

*Над віхурамі вогненных танцаў*
*уздымаецца памяць штодня.*
*Быццам хоча навечна застацца,*
*каб кагосьці абняць-засланяць.*

*Але ўсё тут згарае, згарае*
*ў пуставейнае шэрае тло.*
*Грае-грае да самага краю —*
*і змаўкае. Нібы й не было.*

*У вакне маім, як на экране,*
*меладрама любові й тугі.*
*Зачароўвае восень і раніць:*
*на вагні ападаюць снягі.*

*Ападае сухое суквецце.*
*Так на прысак сыходзіць агонь.*
*І чаго мы шукаем па свеце?*
*І каго тут чакаем, каго?*

*Дзён сувой заснаваны на кросны —*
*пранябеснае памяці ўток.*
*Неўміручасць кранаецца хросна,*
*нібы струнаў, напятых нітоў.*

*Так шыкуюцца дрэвы да балю —*
*вяршаліне цалуюць вятры!*
*І звіняць невідзёны-цымбалы —*
*аж чутно на мядзянай гары.*

*А з вакна майго помнае ранне*
*сумна лашчыць лісцё ў прамянях.*
*З неба продкі глядзяць на экране*
*меладраму насталага дня.*

**23.10.2018**

## Зорны бор

*Можа, я калі-небудзь забуду*
*гэты бор у шаўковых імхох,*
*у якім заблудзіліся гуды,*
*ціха ўпаўшы, як голка — у стог,*
*у сівыя-сівыя паданні,*
*у гранае-гранае гудво,*
*над заранкамі і над слядамі,*
*над жыццём і над сконам, што ўдвох*
*карагодзяць, вядуць, карнаваляць*
*у праменнасці й змроку часоў...*

*Стаімо мы з табой на прагале,*
*дзе апошні ручай перасох,*
*уцямнелы, засыпаны друзам, —*
*ні прабіцца на свет, ні загрэць...*
*Перад намі хваіны, як музы.*
*І расстання святая пара.*

*Вось адслонімся ў вечнасць, як гуды,*
*ператворымся ў зорны пясок.*
*А ў бары ўсё ўздыхацімуць дуды,*
*асыпаючы цвет верасоў*
*і над цішай, і над перагудам,*
*і над багнай, і ў прошчы жытла.*
*...А над борам, як гімн, — песні-збуды*
*узлятаюць з агнішча, са тла:*
*"Я ніколі свой Край не забуду.*
*Не забуду, што я тут была".*

**08.12.2017**

# Лёсы паўстанцкіх

**Вызвольнае паўстанне 1863–1864 гадоў было адным з нешматлікіх ва ўсёй гісторыі XIX стагоддзя прыкладаў, калі найлепшыя людзі паняволенага народа паўсталі супроць велізарнай імперыі. Яны самаахвярна баранілі сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, змагаліся за незалежнасць і вяртанне з імперскай «турмы народаў» у Еўропу, да якой спрадвеку належала Вялікае Княства Літоўскае. Цэлы год аддзелы каліноўцаў, якім не хапала зброі ды вайсковага досведу, супрацьстаялі ў шмат разоў большай і выдатна ўзброенай царскай арміі. Гэта стала магчымым не толькі дзякуючы гераізму паўстанцаў, але і таму, што нашых ваяроў разам з Кастусём Каліноўскім узначальвалі адважныя і адданыя справе камандзіры. Многія з іх мелі вайсковы талент і добрую вайсковую падрыхтоўку, маглі высока падняцца па царскай службовай лесвіцы, аднак абралі шлях барацьбы за вольную будучыню роднай зямлі. Бальшыня паўстанцкіх камандзіраў загінула ў баях, на расейскіх шыбеніцах ці на катарзе, астатнія мусілі пакінуць Айчыну.**



Уладзімір АРЛОЎ

## Нязломны Урублеўскі

Адзін з найбліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага нарадзіўся ў мястэчку Жалудок на Гарадзеншчыне. Бацька будучага героя Антон доўга быў ляснічым у прынёманскіх пушчах і перадаў сыну любоў да лесу. Пасля Віленскай гімназіі Валер Урублеўскі паступіў вучыцца ў Пецярбургскі лясны інстытут.

Яшчэ ў гімназічныя гады Урублеўскі стаў перакананым патрыётам роднага краю. Вялікі ўплыў на юнака меў віленскі дзядзька Яўстах. Ён часта пераапранаўся са шляхецкага адзення ў сялянскую світку і вандраваў па навакольных вёсках, быў улюбёны ў беларускую мову і народныя песні, што любіў спяваць сваякам і сябрам. Царскія ўлады абвінавацілі дзядзьку Яўстаха ў спробе стварыць таемную арганізацыю і прысудзілі яму сібірскую катаргу. Валер запомніў дзядзьку і яго спевы на ўсё жыццё. Некаторыя даследчыкі лічаць, што гэта сам Урублеўскі склаў пазней песню, якую ў змагарным 1863-м зноў і зноў заводзілі на паўстанцкіх маршах і прывалах:

*Ах ты мая чарнабрыва,*
*Будзь здарова і шчаслiва!*
*Люблю цябе, любіць буду*
*І ніколі не забуду!*
*Ой, у хаце не астацца,*
*Калі трэба ісці драцца...*

У Пецярбурзе студэнт Урублеўскі ўступіў у нелегальны гурток на чале з афіцэрамі Зыгмунтам Серакоўскім і Яраславам Дамброўскім. Яны ўхвалілі тое, што Валер добра знаецца ў тапаграфічных картах, надзіва трапна страляе і ўпэўнена валодае шабляй. Гэтыя здольнасці маглі вельмі спатрэбіцца ў час збройнага змагання. На адным з паседжанняў адбылося знаёмства Валера з землякамі — Віктарам і Кастусём Каліноўскімі.

Сябры па барацьбе былі радыя, што Урублеўскі атрымаў пасля інстытута прызначэнне ў егерскую вучэльню ў Саколцы, паблізу ад Белавежскай пушчы. Вучэльня рыхтавала лясных аб'ездчыкаў і егераў-паляўнічых. Гэта давала добрыя магчымасці для падрыхтоўкі будучага паўстання, пагатоў Валер праз некалькі гадоў стаў загадчыкам навучальнай установы. Сялянскія юнакі, скончыўшы егерскую навуку, раз'язджаліся па розных кутках краю з пасеянымі ў душы зернямі вальнадумства і вызвольных ідэяў. Шмат хто вёз з сабой і «Мужыцкую праўду», у выданні якой браў удзел Валер Урублеўскі.

Напярэдадні збройнага выступу Урублеўскага прызначылі паўстанцкім начальнікам Гарадзенскай губерні. Разам з Каліноўскім ён належаў да «чырвонага» лагера, што змагаўся не за Рэч Паспалітую, а за незалежную Літву-Беларусь. У першыя ж дні паўстання Валер ужо вёў сваіх ваяроў у бой у Сакольскай пушчы. Ягоныя падначаленыя пазней вызвалілі Ружаны і не раз выходзілі пераможцамі ў сутычках з карнікамі.

Урублеўскі тройчы асабіста вадзіў сваіх людзей у атаку на расейцаў у адным з баёў у Ружанскай пушчы. На парадзе ўсіх паўстанцкіх сілаў Гарадзеншчыны, які адбыўся ў тых самых лясах, свайму камандзіру салютавалі шэсць тысяч змагароў. Паўстанская прэса паведамляла пра шэсць тысяч штыкоў, але насамрэч большасць паплечнікаў Урублеўскага тады былі ўзброеныя ўсяго толькі косамі. Як і Каліноўскі, Валер у тую змагарную вясну часта ўручаў героям баёў галінкі каліны з белымі кветкамі.

Імя Урублеўскага ведаў увесь наш край. Генерал-губернатар Мураўёў-Вешальнік стварыў для яго захопу адмысловую групу, але ўсе ейныя намаганні былі марныя, хоць некалькі разоў пашыраліся чуткі пра смерць камандзіра. Увосень Валер перавёў свае аддзелы на зімоўку ў Польшчу. Аўтарытэт Урублеўскага быў такі вялікі, што яго прызначылі вайсковым начальнікам адразу двух ваяводстваў: Люблінскага і Падляшскага. На пачатку 1864-га Валер пад Люблінам трапіў у засаду кубанскіх казакоў і быў цяжка паранены, але сябрам удалося вывезці героя за мяжу.

Урублеўскі, гэтаксама як і тысячы іншых змагароў, апынуўся ў Францыі. Жывучы ў Парыжы, на жыццё ён зарабляў цяжкай працаю ліхтарніка і друкара. Вайсковы досвед знакамітага паўстанца спатрэбіўся ў час французскай рэвалюцыі, якую называюць Парыжскай камунай. Валер Урублеўскі атрымаў званне генерала і стаў камандзірам адной з трох рэвалюцыйных армій. Поплеч з ім на баку камунараў ваявалі болей за 600 былых паўстанцаў. На парыжскіх барыкадах Валер сустрэў свайго былога настаўніка з Віленскай гімназіі, ліцьвінскага патрыёта і выдатнага спевака італьянца Ахіла Банольдзі. У перапынках паміж баямі Ахіл, пакуль не памёр ад атрыманых цяжкіх ранаў, заўсёды спяваў таварышам па зброі песні на дзесяці мовах. Сэрца Урублеўскага, як і многіх камунараў-суайчыннікаў, найбольш кранаючыя родныя беларускія спевы.

Пасля тых падзей Урублеўскі жыў у Лондане, сябраваў з філосафам Карлам Марксам, таемна прыязджаў у Расейскую імперыю і, магчыма, сустракаўся з беларускім рэвалюцыянерам-«нарадавольцам» Ігнатам Грыняўіцкім, які выканаў смяротны прысуд цару Аляксандру II. Пахаваны герой паўстання 1863 года на славутых парыжскіх могілках Пер-Лашэз, дзе спачываюць шмат якія знакамітыя асобы еўрапейскай гісторыі.

## Пярсцёнак Серакоўскага

Будучы бясстрашны паўстанцкі камандзір Зыгмунт Серакоўскі вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, але за ўдзел у нелегальных суполках трапіў на вока жандарам. Юнака выслалі салдатам-шарагоўцам у далёкі Арэнбургскі край. Там Зыгмунт блізка пасябраваў з украінскім пісьменнікам Тарасам Шаўчэнкам, які таксама стаў царскім салдатам не па сваёй волі.

Праз восем гадоў Зыгмунту Серакоўскаму ўдалося вярнуцца ў Пецярбург. Ён на выдатна скончыў расейскую Акадэмію генеральнага штаба і служыў у вайсковым міністэрстве. Ягонае начальства меркавала, што Зыгмунт раскаяўся за памылкі юнацтва і стаў верным расейскім падданым. Яно і не падазравала, што Серакоўскі, якому давалі важныя заданні і пасылалі ў замежныя камандзіроўкі, вядзе падрыхтоўку да збройнай барацьбы за вызваленне Айчыны. У час паездак у еўрапейскія краіны Зыгмунт пазнаёміўся з расейскімі рэвалюцыянерамі-эмігрантамі Аляксандрам Герцэнам і Мікалаем Агаровым, з палітыкам Джузэпе Гарыбальдзі, які ўзначальваў змаганне за свабоду і аб'яднанне Італіі.

Калі на радзіме пачалося вызвольнае паўстанне, палкоўнік Серакоўскі пакінуў службу і прыехаў у Вільню. Дасведчанага афіцэра прызначылі камандаваць збройнымі сіламі на Ковеншчыне. Пад свае сцягі Зыгмунт хутка сабраў болей за дзве тысячы ваяроў. Некалькі разоў яны рабілі ўдалыя засады на расейскія войскі і наносілі ім вялікія страты. Падначаленыя Серакоўскага здабывалі перамогі і ў адкрытых баях з карнікамі.

У траўні 1863-га паўстанцкі камандзір павёў змагароў свайго злучэння ў Курляндыю. Так тады называлася частка Латвіі, што некалі ўваходзіла ў Рэч Паспалітую. Зыгмунт разлічваў узняць на збройную барацьбу латышоў і эстонцаў. Напачатку паўстанцам спадарожнічаў поспех. Апрача шляхты да змагароў далучалася шмат сялянскай моладзі. Серакоўскі часам мусіў нават абыходзіць вёскі, бо не меў для юнакоў зброі. Але імкненне змагацца за волю было такім моцным, што сяляне ўсё роўна далучаліся да паўстанцаў, маючы на ўзбраенні толькі сякеры. Пад камандаваннем Серакоўскага быў і аддзел з 500 сялянаў, узброеных адно цапамі. Ваяроў з косамі называлі касінерамі, а вось адважных сялянскіх хлопцаў з цапамі ахрысцілі цапавікамі.

Расейскія ўлады былі напалоханыя і выслалі насустрач нашым змагарам вялікія сілы. Карнікам усяляк спрыялі курляндскія немцы-абшарнікі. Каля мястэчка Біржы паўстанцы пацярпелі паразу. Цяжка паранены Серакоўскі трапіў у палон. Віленская моладзь склала план нападу на турэмны шпіталь і вызвалення паўстанцкага правадыра. Калі Зыгмунту перадалі ліст пра гэта, ён не пагадзіўся, бо ведаў, што Мураўёў-Вешальнік, каб адпомсціць, учыніць у Вільні жорсткую расправу, якая можа забраць дзясяткі жыццяў.

На допытах Зыгмунт, нягледзячы на пакуты ад ранаў і тры аперацыі, адмовіўся даваць паказанні на сяброў і паплечнікаў. Раз'юшаны Мураўёў-Вешальнік загадаў правесці ваенна-палявы суд каля ложка нямоглага целам, але магутнага духам паўстанца. Суддзі пастанавілі расстраляць «асабліва небяспечнага мяцежніка», але Мураўёў паводле сваёй звярынай завядзёнкі замяніў расстрэл на павешанне. У адным з апошніх лістоў на волю Серакоўскі пісаў: «І стоячы пад шыбеніцай, буду пратэставаць супроць варварскага бяспраўя, якое прынесла маскоўская ўлада маёй дарагой Айчыне».

Уначы перад пакараннем на загад Вешальніка да Зыгмунта прывялі ягоную юную жонку Апалонію. Тая ўжо чакала дзіця. 15-хвілінная спатканне праходзіла пад аховаю пятнаццаці царскіх салдат і афіцэраў. Апалонія размаўляла з мужам, укленчыўшы перад яго ложкам. Праз некалькі гадзін вайсковы доктар перадаў ёй Зыгмунтаву цыдулку: «Анелі мая! Жыць і быць вольным магу, толькі выдаўшы сяброў. Ніколі не здолеў бы зрабіць гэта, таму падпісаў сабе смяротны прысуд. Памру чысты і незаплямлены. Буду кахаць цябе, буду лунаць над табой і нашым немаўлём».

На месцы павешання Серакоўскага ў Вільні ўсталяваная мемарыяльная пліта. На ёй побач з імем непахіснага Зыгмунта — імя паўстанцкага правадыра Кастуся Каліноўскага, які быў пакараны смерцю на тым самым Лукішскім пляцы.

У нашы дні пад час раскопак на цяперашняй гары Гедзіміна, дзе расейскія ўлады таемна хавалі паўстанцаў, археолагі зрабілі незвычайную знаходку — шлюбны залаты пярсцёнак. На ім захаваўся надпіс: «Зыгмунт і Апалонія», а таксама дата шлюбу. Пярсцёнак удакладніў месца пахавання Серакоўскага і стаў памяткай пра ягонае ўзнёслае ўзаемнае каханне.

## Пад мянушкаю «Тапор»

Віленскі генерал-губернатар Назімаў у 1860 годзе атрымаў новага падначаленага — выпускніка Акадэміі генеральнага штаба паручніка інжынерыі Людвіка Звяждоўскага. Сваёй адукаванасцю і цудоўнымі манерамі Людвік, які вярнуўся на службу ў родны горад, хутка заваяваў у Назімава вялікі аўтарытэт і стаў ягоным ад'ютантам. Царскі вяльможа і ў страшным сне не мог прысніць, што пасля ўзорнага выканання абавязкаў удзень Звяждоўскі вечарамі на таемных кватэрах абмяркоўвае будучае збройнае змаганне з каланізатарамі.

Да ліпеня 1862-га менавіта Людвік узначальваў Літоўскі камітэт падрыхтоўкі паўстання. Калі на стол генерал-губернатару легла данясенне пра падазроныя сувязі ад'ютанта, той не даў веры, але мусіў перавесці свайго ўлюбёнца ў Маскву. Сярод «сумнеўных» знаёмых Звяждоўскага ў жандарскіх паперах згадваўся нейкі Вікенцій Канстанцін Каліноўскі. Далей ягоны след губляўся, хоць якраз да Каліноўскага пасля ад'езду Людвіка з Вільні перайшло кіраўніцтва Літоўскім камітэтам.

Як толькі найлепшыя людзі краю ўзяліся за зброю, капітан Звяждоўскі вярнуўся ў Літву-Беларусь. Пад канспірацыйнай мянушкаю «Тапор» ён стаў паўстанцкім начальнікам Магілёўскага ваяводства. Людвік меў план: злучыць у адзін моцны кулак віцебскія і магілёўскія аддзелы каліноўцаў і перанесці паўстанне на беларускую Смаленшчыну, а затым у Расею, ажно да самай Волгі.

У шынялі афіцэра Расейскага генеральнага штаба Звяждоўскі на чале сваіх ваяроў на шэрым кані заязджаў у кожную сустрэтую па дарозе вёску і склікаў сялянаў на агульны сход. Камандзір паўстанцаў абвяшчаў, што аддае вяскоўцам усю зямлю без выкупаў і павіннасцяў. Ён абяцаў адмену рэкрукскіх набораў і свабоду веры.

У траўні Людвік асабіста кіраваў захопам павятовага горада Горкі. Гэты поспех так спалохаў царскія ўлады, што ваявацъ з некалькімі сотнямі нашых патрыётаў з магілёўскіх аддзелаў царскія ўлады кінулі цэлую дывізію. «Тапор» з падначаленымі апынуўся ў атачэнні. Ворагі мелі пяхоту, кавалерыю і артылерыю. Каб уратаваць сваіх людзей Людвік загадаў ім па адным прабівацца на захад і працягваць барацьбу ў іншых аддзелах.

Звяждоўскаму заставалася ўсяго некалькі месяцаў жыцця. Ён яшчэ паспеў паваяваць з карнікамі на польскіх землях,

# камандзіраў



**Гара Гедзіміна.**
Фота racyja.com

дзе камандаваў Кракаўскай паўстанцкай дывізіяй. У лютым 1864 года Людвік трапіў у палон і праз лічаныя дні быў павешаны. Яму ішоў 35-ты год.

## Людвік Нарбут

Бацькам гэтага героя паўстання быў славуты гісторык Тэадор Нарбут. Ён часта казаў сыну, што гісторыя — найлепшая настаўніца жыцця. Так лічыў яшчэ старажытны прамоўца і мысляр Цыцэрон. Людвік сапраўды вельмі любіў аповеды старэйшых пра часы незалежнай ліцьвінскай дзяржавы і кнігі пра нашую даўніну. Якраз гісторыя, як гэта часта бывае, выхавала ў юнака любоў да Айчыны і самаахвярнасць.

У васямнаццаць гадоў вучня апошняга класа Віленскай гімназіі Людвіка Нарбута арыштавалі за спробу стварыць таемную арганізацыю для падрыхтоўкі паўстання. Справа зацікавіла самога імператара Мікалая I, якога нездарма празвалі Палкіным. З Пецярбурга прыйшоў жорсткі цароў загад: небяспечнага гімназіста пакараць розгамі і аддаць у салдаты.

Людвіка чакала невераемна цяжкая васьмігадовая служба. У лістах з Каўказа, дзе ваяваў ягоны полк, салдат-штрафнік прасіў родных прысласць яму валошку ці каласок з родных палёў. Даслужыўшыся да афіцэрскага звання, Нарбут атрымаў права пакінуць войска і адразу вярнуўся на радзіму. Лёс падараваў яму шчасце з жонкай Амеліяй. Але яно было нядоўгім: у Літве-Беларусі пачалося паўстанне.

На пачатку лютага 1863 года Людвік у родным маёнтку Шаўры атрымаў з Вільні загад аб прызначэнні яго вайсковым начальнікам Лідскага павета. На праводзіны сабралася ўся вялікая сям'я Нарбутаў. Людвік быў узброены рэвальверам і старой каўказскай шабляй. Сястра Тэадора ўручыла яму вышыты сваімі рукамі баявы сцяг-харугву з «Пагоняй». Паўстанцкага камандзіра багаславілі бацькі, абняла маладая жонка, якая не здолела стрымаць слёз, і Людвік разам з братам Баляславам і шасцю аднадумцамі развітаўся з мірным жыццём.

Праз месяц аддзел Нарбута вырас з васьмі да 80 ваяроў і працягваў хутка папаўняцца. Поплеч са шляхтай у ім геральчна змагалася з карнікамі шмат навакольных сялян-касінераў. Сярод падначаленых Людвіка, якога сучаснікі называлі «выразнікам духу і гераізму эпохі», быў і вядомы мастак Міхал Андрыёлі.

Пасля некалькіх удалых баёў з царскімі войскамі паўстанцкае кіраўніцтва надало Нарбуту званне палкоўніка. Ягоныя сілы пагражалі адначасова Вільні і Гародні. Генерал-губернатар краю прызначыў за галаву Нарбута буйную грашовую ўзнагароду і накіраваў на тры сотні змагароў, узброеных паляўнічымі стрэльбамі ды косамі, дзве тысячы салдат і казакоў.

Паўстанцкі лагер быў у Дубіцкім лесе над ракой Котрай. Цішыню травеньскага леса парушалі адно птушыныя спевы. Аднак гэты спакой быў падманным. Здраднік ужо падводзіў да лагера расейскіх карнікаў. Ім удалося напасці на нашых ваяроў знянацку. Людвік загадаў адступаць у дзве лініі: адна адстрэльвалася, другая тым часам перабягала і залягала. Але камандзіра паранілі. Паплечнікі падхапілі Нарбута на рукі і панеслі, ды выратаваць ужо не змаглі, бо другая куля прынесла смяротную рану. Развітваючыся з гэтым светам, Людвік прамовіў: «Як соладка памерці за Айчыну...»

Расейскі афіцэр дазволіў пахаваць усіх палеглых паўстанцаў каля Дубіцкага касцёла, аднак Мураўёў-Вешальнік распарадзіўся касцёл разбурыць, а магілы зраўняць з зямлёй. Пазней у рукі карнікаў трапіў і Баляслаў Нарбут, які камандаваў лідскім аддзелам пасля смерці брата. Яго чакалі дваццацігадовая высылка ў Сібір і невылечная тады хвароба — сухоты. Старога Тэадора Нарбута за дрэннае выхаванне сыноў і дачкі царскія служкі таксама асудзілі на сібірскую высылку, але не паспелі выканаць прысуд, бо шанаваны ў краі вучоны-гісторык сканаў. Ягоная жонка Крысціна вярнулася з высылкі праз два дзесяцігоддзі.

Так каланізатары расправяляліся з цэлымі сем'ямі патрыётаў.

У вёскі Шаўры, якая цяпер у Воранаўскім раёне, каля могілак стаіць мемарыяльны валун з надпісам: «Нарбутам — удзельнікам паўстання 1863–1864. Нашчадкі».

## Браты Далеўскія

Гэты беларускі род даў нашай гісторыі шмат патрыётаў і змагароў за свабоду. Францішка і Аляксандра Далеўскіх ворагі арыштавалі ў 1848 годзе за стварэнне таемнага таварыства «Саюз літоўскай моладзі». Пад час следства і на судзе браты паводзілі сябе надзвычай цвёрда, не выдалі нікога з сяброў і былі адпраўленыя на катаргу ў Сібір. Пасля дзесяцігадовай катаржнай працы на нерчынскіх шахтах-капальнях Аляксандр захварэў і памёр, а Францішак у 1863-м стаў адным з кіраўнікоў паўстання.

Малодшыя Далеўскія — Цітус і Канстанцін — вучыліся ў Віленскай гімназіі адначасова з многімі будучымі вядомымі паўстанцамі, сярод якіх былі Францішак Багушэвіч і Зыгмунт Мінейка. Браты ў тыя гады праславіліся не толькі як вальнадумцы. Уся былая сталіца захаплялася імі як неверагодна смелымі плыўцамі, якія выратавалі некалькі чалавек, што танулі ў рацэ.

У пару студэнцтва ў Маскоўскім універсітэце юнакі зрабіліся сябрамі таемнага таварыства «Агул», якое налічвала паўтысячы сяброў. Нягледзячы на маладосць, ліцьвіны Далеўскія мелі там вялікі аўтарытэт. Сямнаццацігадовы студэнт юрыдычнага факультэта Цітус, апрача іншых адказных даручэнняў, стаў скарбнікам і збіраў з таварышаў грашовыя ўнёскі. Аднойчы ён з аднадумцамі нёс па горадзе вялікую скрыню з рэвалюцыйнымі адозвамі да расейскіх салдат і сялянаў, аднак «нелегалаў» нечакана напаткаў паліцэйскі патруль. Напалоханыя хлопцы разбегліся, і з цяжэзнай скрыняй застаўся адзін Цітус. Разумеючы, што, калі адозвы патрапяць у рукі жандараў, будзе вялікая бяда, ён з апошніх сіл дацягнуў скрыню да парапету набярэжнай і скінуў яе ў раку. Падбеглы патруль Цітус увёў у зман, выдаўшы сябе за вар'ята. Так ён ўратаваў цэлую арганізацыю.

Калі на радзіме разгарнулася збройная барацьба, Цітус адразу ж накіраваўся з Масквы дадому. Ён хацеў далучыцца да паўстанцкіх сілаў Зыгмунта Серакоўскага, мужа сваёй сястры Апалоніі. Там ужо ваяваў брат Канстанцін. Аднак Цітус атрымаў іншае заданне. Ён займаўся забеспячэннем паўстанцаў неабходнымі звесткамі ды прыпасамі і праславіўся як адзін з самых надзейных ды няўлоўных сувязных і экспедытараў.

Цітус вельмі блізка пасябраваў з Каліноўскім і стаў ягоным сакратаром. Іх зблізілі і агульныя погляды, і тое, што абодва мелі нарачоных з віленскай сям'і Ямантаў: Кастусь — Марыю, а Цітус — Алену. Тым часам кватэра Ямантаў зрабілася сапраўдным штабам змагароў.

Старэйшы з братоў Далеўскіх — Францішак — таксама быў у кіраўніцтве паўстання, аднак належаў да лагера «белых». Для царскіх уладаў гэта былі не менш небяспечныя ворагі. Калі жандары здолелі арыштаваць Францішка, ён быў асуджаны на смерць. Сям'і ўдалося захаваць яму жыццё, выкарыстаўшы скваплівасць Мураўёва-Вешальніка. Той атрымаў за Далеўскага і яшчэ двух паўстанцаў, прысуджаных да смяротнага пакарання, велізарныя тады грошы --15 тысяч рублёў і замяніў смерць на сібірскую катаргу.

Канстанцін Далеўскі пасля таго, як карнікам удалося разбіць Серакоўскага пад Біржамі, стварыў свой паўстанцкі аддзел. Баявыя сябры захапляліся вытрымкай і нязменным спакоем камандзіра. Ён часта аддаваў загады пад градам непрыяцельскіх куляў і сам вадзіў паплечнікаў у атакі. У адным з баёў Канстанцін быў цяжка паранены,аднак, загаіўшы за мяжой рану, вярнуўся ў свой аддзел і зноў ўзяў у рукі зброю. Праз восем гадоў ён змагаўся на барыкадах Парыжскай камуны і загінуў за свабоду Францыі.

Калі паўстанне ў Літве-Беларусі дагарала, Цітус Далеўскі часта мяняў падпольныя кватэры, жыў пад рознымі прозвішчамі, але яго ўсё ж схапілі. Пасля безвыніковых допытаў сябра і сакратара паўстанцкага правадыра расстралялі на Лукішскім пляцы ў Вільні, там, дзе сустрэў смерць ад рукі царскага ката і Каліноўскі.

## Герой двух народаў

Заможныя бацькі хацелі даць сыну Зыгмунту добрую адукацыю. Малады Мінейка паступіў у Пецярбургу ў адну з самых прэстыжных навучальных устаноў Расейскай імперыі — Акадэмію генеральнага штаба — і павінен быў стаць вайсковым інжынерам. Але юнак хутка далучыўся да вызвольнага руху. Прыязджаючы на вакацыі ў бацькоўскі маёнтак Балванішкі (цяпер Зялёны Бор) на Ашмяншчыне, сталічны студэнт сустракаўся з аднадумцамі, марыў пра будучае паўстанне ды імкнуўся стаць патрэбным не расейскаму войску, а паняволенай Айчыне. Хутка ён вымушаны быў пакінуць навучанне і вярнуцца ў родныя мясціны.

Пераапрануўшыся ў сялянскае адзенне, Зыгмунт вандраваў па вёсках: разносіў і чытаў сялянам антыўрадавыя ўлёткі. Паліцыя зацікавілася незвычайным падарожнікам, і ён, каб не трапіць пад арышт, з'ехаў за мяжу. У Італіі Мінейка пазнаёміўся з Джузэпе Гарыбальдзі, быў запрошаны выкладаць фартыфікацыю ў Генуэзскую вайсковую школу, якую заснаваў гэты знакаміты рэвалюцыянер.

Дачуўшыся, што на землях Літвы-Беларусі ўспыхнула паўстанне, Зыгмунт выправіўся на радзіму і стварыў ашмянскі аддзел ваяроў. Каланізатары добра памяталі, як гераічна змагалася за свабоду Ашмяншчына ў 1831 годзе. Тады паўстанцы занялі Ашмяны, за што потым расейскія карнікі выразалі там палову жыхароў. Баючыся страціць мястэчка і цяпер, улады паслалі супроць некалькіх дзясяткаў нашых ваяроў моцныя армейскія сілы. Змагары пацярпелі паразу, а іхні камандзір апынуўся ў палоне.

Мінейку чакала пятля расейскага ката. Але прага Мураўёва-Вешальніка да грошай была такой бязмежнай, што Зыгмунтавай маці пашанцавала выкупіць сынава жыццё за дзевяць тысяч рублёў. Павешанне замянілі на дванаццаць гадоў катаржнай працы на сібірскіх капальнях. Мінейка не скарыўся: ён уцёк з Сібіры і здолеў дабрацца да Еўропы. Ягоныя інжынерныя веды былі высока ацэненыя ў Галандыі і Францыі, Балгарыі і Турцыі, але сваёй другой радзімай былы беларускі паўстанец абраў Грэцыю.

На старажытнай грэцкай зямлі Зыгмунт Мінейка будаваў масты і чыгункі. Ён паспяхова займаўся археалогіяй і знайшоў славуты храм Зеўса ў Дадоне. Наш суайчыннік удзельнічаў у аднаўленні Алімпійскіх гульняў. Ён рэстаўраваў легендарны Мармуровы стадыён у Афінах, які стаў сімвалам першых сучасных Гульняў 1896 года. За вялікія заслугі ўрад Грэцыі надаў Мінейку званне ганаровага грамадзяніна гэтай краіны.

## Рамуальд Траўгут

Рамуальд нарадзіўся на Берасцейшчыне, а скончыў вядомую вальнадумствам сваіх выхаванцаў Свіслацкую гімназію. У дзевятнаццаць гадоў ён паступіў на вайсковую службу, а ў трыццаць шэсць быў ужо ў чыне падпалкоўніка. Начальства абяцала Траўгуту далейшую кар'еру і казала пра недалёкае генеральскае званне, але ён нечакана выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў палескім маёнтку Востраў паблізу Кобрына.

Да паўстання заставаліся лічаныя месяцы. Былы баявы афіцэр разумеў, што перамагчы велізарную армію Расейскай імперыі немагчыма, але, калі прыйшла пара, без роздуму зрабіў свой выбар і ўзяў у рукі зброю. Увесну 1863-га кобрынскі аддзел паўстанцаў здабыў шэраг перамог над карнікамі. Ужо ў першым баі царскія войскі страцілі 70 салдат і афіцэраў, пасля чаго, не перажыўшы такой ганьбы, камандзір расейцаў застрэліўся. Пазней Траўгут здзейсніў паўстанцкі паход на Піншчыну і Ўкраінскую Валынь.

Пасля жорсткіх баёў у антопальскіх лясах у Пецярбург было адпраўленае радаснае данясенне, што адзін з самых небяспечных паўстанцкіх важакоў забіты. Але Траўгут застаўся жывы. Яго два тыдні хавала і лекавала ў сваім доме маладая сувязная змагароў Эліза Ажэшка, якая пазней стане знакамітай пісьменніцай і напіша творы, прысвечаныя героям 1863 года. У яе карэце Рамуальд пад выглядам сваяка выехаў у Варшаву. Неўзабаве ён узначаліў патрыятычны Нацыянальны ўрад і стаў на чале ўсяго паўстання.

Траўгут ведаў, што няроўная барацьба непазбежна скончыцца паразай, але адмовіўся ратаваць сабе жыццё, з'ехаўшы за мяжу. Увесну 1864-га Рамуальда схапілі, а ў жніўні, пагардліва зірнуўшы на царскага ката, ён узышоў на эшафот з шыбеніцай.

Помнік Рамуальду Траўгуту ўсталяваны ў горадзе Свіслач побач з помнікам Кастусю Каліноўскаму.



Фота www.pixabay.com

# На фоне неба



Марыя БАРАВІК

### Грак не чорны...

*Рытмам сэрца я кажу аб чым?
Грак не чорны. Ён увесь бліщчыць.
Сонца на крыле яго гуляе.
І натура спраўная якая!
Як будуе ён сабе жытло,
Дык яго пранізвае святло.
Ён адкрыта здабывае «хлеб»,
Колерам выразны у святле.
У святле бярэ грудзьмі вятры.
Бачу яго звонку і знутры.
Пачынаю бачыць пакрысе:
Без святла мы чорныя, усе.
Нам бы ўспыхнуць светла за святло,
Каб жыццё выразнасць набыло.
Без выразнасці самота ад жыцця —
Колераў няма ў ім, пачуцця.*

### Ля параф'янаўскай шашы

*Глядзіць на шлях і ўсё чакае
Напругай зроку і грудзей.
«Звёз», — гэткім словам называем
Учынкі здрадлівых людзей.
Звёз бездакорнага, хто верыў,
Свайму адзінаму служыў.
Звёз, бо знутры глухі і шэры.
Звёз, бо без кропелькі душы.
Як гэта рэч: во гэта пуга,
Во гэта йржавае вядро.
І ўжо здзіўляецца акруга:
«Хоць дождж ідзе, хоць з неба гром —
Сядзіць сабачка...». Адзінокі
Ля параф'янаўскай шашы,
Маўчыць на галасы і крокі —
На покліч з нейчае душы.
«Свайго» ён любіць і чакае
Вачмі, душой, сэрцабіццём...
Як мне сказаць, бяда якая,
Што мы душою не расцём?*

### Самадакор

*Не дрэва — шугануў самадакор.
Прыйшоў ён засяліцца ў думны бор:
Імкне ў здуменне і расце штодня.
Я адчуваю, як душу заняў.
Стаіць ён нейкай помнасцю у ёй —
У сарцавіне памяці маёй.
Здаецца — для яго няма й віны.
Дык во прысніўся сон, які заныў...
Во ён шчыміць у самай глыбіні:
У голасе самотнай цішыні.
Вылазяць думкі, нібы мышкі з нор:
Чуваць, як шалахціць самадакор.
За што і за каго самадакор
Во тут, каля зямлі, не каля зор.
Каля цябе найпершай у душы,
Хто бездакорна заклікае жыць?..
Жыццё бяжыць, жыццё вакол — напор!
А ў сарцавіне дум — самадакор.*

*Насуперак? Ці ён наперакон
Патрабавальна ззяе, як закон?*

### На фоне неба

*

*Убачыў Бог, што я — адна.
Мяне наблізіў да вакна —
Святлом мой голас апярэдзіць.
Зірнула: воблакі — суседзі;
Пад імі — бусел і гракі
І два ствалы, як дзве рукі,
На фоне неба, дзе — парадак,
Адкуль святло ідзе на радасць.
Але каму яе данесці —
І перадаць як дабравесце?*

*

*Падумала: мо ў красавік,
Ужо ў бары неледзяным,
Назначаны мне баравік,
Пад мохам, крыху вадзяным?
Злякнулася: мо рэжуць дрэвы?
Налётам! Як ля дома, злева,
З бярозкі паднябессе знялі
І два гнязды гракоў, як шалі?
Двухствольная слязой цячэ
На дол. Дык і ў душу яшчэ.*

*

*Я помню, мама здзіў іскрыла
Наўсход ад хаткі, на гары:
«Зірні, дачушка, — гаварыла —
Не прапусці пары-зары,
Калі Іван дудой разбудзіць
Рыканне — цішу надрываць —
І кожная кароўка будзе
Грымучым басам падпяваць».
У гэтым звоне-перагудзе
Быў покліч — радасна днявацъ.
Мы з мамай песціліся ў цудзе —
Расой смяялася трава.
Як помню, мама здзіў іскрыла
І ў цёплым сонечным віры...
Жыву і адчуваю крылы
Ружовай раняшняй пары.*

### Да Святога Панцеляймона

*О, Святы Панцеляймоне!
Да Цябе — «ручай» наш сёння.
Ты ў бальніцы нашай госць,
І ўсё бачыш Ты, як ёсць:
На якім жыццёвым фоне,
О, Святы Панцеляймоне,
Перад вобразам Тваім
На канвееры стаім.
Перад мошчамі Тваімі,
Перад мошчамі Святымі
У аслабленым хаўрусе,
У хваробе Беларусі,
У святле лянівa-шэрым...
І чакаем лекаў верай.
О, Святы Панцеляймоне —
Апякуне медыцыны!
Мы ж у слабасці ў палоне
І сабою, і Айчынай.
Во душа мне плоць трывожыць
(Паспрыяй ёй сілай Божай!)
Перад вобразам Тваім
Плача шчырасць і наіў.
Чым лячыць нам веру сёння?
О, Святы Панцеляймоне!
Дзе ёсць веры вітамін,
Падкажы, Святы!
Амін!*

### Пад ззяннем думкі

*У чыстым полі згадкі расцвілі,
І вочы з полем родна абняліся.
Хоць недзе ёсць падобныя палі,
Нябесныя і воблачныя высі,
У гэтым полі скалыхнуўся жаль,
Як васілёк у шквале навальніцы.
Пасмакавала сэрца часу даль,
І з думкі вуснаў выцякла крыніца.
У полі, поўным помнага святла,
У родным полі хоча плакаць доля.
Во тут душа сямейная жыла
Цярпліва, нескароная няволі.
Во тут у полі разам мы былі.
Дык ясна, так, як сонца полю свеціць,
Як ззянне зорак час не аддаліў,
Як час не знік у Божым запавеце,
І, як жывая памяць расцвіла
Пад ззяннем думкі з боскага святла,
Я маю бацькаўшчыну — мілую Айчыну —
Дык прыцягнення вечную прычыну.
О, Patria, усё ж чакай зару!
Пакуль жыву — сцвярджаю Беларусь,
Праз колер слова, рытм сэрцабіцця
У сувязях любімага жыцця.*

# Вастраўская восень



Мікола КАНАНОВІЧ

***

*Шапоча вераснёўскі дождж.
Пра што ж? —
Пра канцасць і бясканцасць часу,
І камара, заразу,
Што ў хату ўлез, звініць над вухам,
А ты тут слухай.
А можа ён тут шэпча мне
Пра край у тле? —
Адно дакладна, пэўна — восень.
Мне заўтра бульбу з поля зносіць,
Капаць, сагнуўшыся... у кульбу.
Мне дождж прабулькаў
Пра няспыннасць часу
І сплыннасць нашу.*

***

*У Востраве ідзе вялікі дождж.
— Вяровачкамі з даху ўецца,
— кажа маці.*

***

*Вароты восені схаваліся ў дажджы,
Які сцяной паўстаў над дальнім лесам.
— Ў грыбы не йдзі. Лепш дома паляжы,
Ці кніжку пачытай вунь з інтарэсам... —
Ці маці кажа так, ці голас мой
Унутраны мяне трымае ў хаце.
Тым часам дождж сцякае ў дол вадой,
А я шукаю рыфму на Парнасе.*

***

*Ну вось і ўсё. Паеду заўтра ў горад
Колю Дамановіча хаваць.
У 60 зямляк у вечны холад
(Ці ў рай нябесны?)
выйшаў зімаваць.
У Вострава яго не павязуць,
На Чапялёўскім ляжа палігоне,
Хоць маці з бацькам пахаваны тут
І ўсе браты —
у вастраўскім палоне.*

*Але абжыўся ў Слоніме, і там
Наканавана выспацца Даману.
А Вострава схаваецца ў туман
Чарговую сваю залечваць рану.*

**Вострава.
2017**

***

*Імжыць ледзь прыкметны дождж,
Сцякаюць кроплі
па лісточках кветак
І віснуць на плялёстках басаножы,
Празрыстасцю зіяючы адметнай.
А з даху кроплі
ў выварку бубняць,
Што дождж не скончыцца,
пара выходзіць з хаты —
Пад вераснёўскім небам пастаяць
Ды па грыбы спяшаць
у лес багаты.*

***

*Вастраўская восень: бульба, дождж,
А хочацца — на рыбу ці ў грыбы.
І я вастру старэнькі бацькаў нож,
Каб быў гатовы і туды й сюды.*

# І хай ніхто не пойдзе пакрыўджаным,

## або Грак і Монця Хрысцік



Валер ГАПЕЕЎ

**(Урывак з рамана)**

***

Вітольд Сямёнавіч Прыходзька кіраваў універсітэтам апошні год — пенсійны век надышоў незаўважна, і так дзякуй, што далі папрацаваць тры годзікі звыш нормы. Хоць тое «дзякуй» важыла для Прыходзькі зусім не мала, калі казаць адкрыта.

Заставалася яшчэ два тыдні адпачынку. Ідэя мець сваю невялікую копанку на ўчастку захапіла Прыходзьку не на жарт. З аднаго боку, водаправод — зручна! Але ж, халера, хіба можна параўнаць: колькі ён вады ліе на сваім участку і колькі іншыя? Казалі пра лічыльнікі — ніяк не вырашаецца пытанне. А так кіне насос невялікі — і палівае добра. Ды і вада, вада якая! То ж сапраўдная, азёрная, з яе карысць! Самы вугал участка нізкі, жонка тут агуркі садзіць, паліваць не трэба — гэтак многа вільгаці. Тут і быць копанцы.

Меў Вітольд Прыходзька ў запасе адну невялікую хітрасць. Да азярыны праз невялікі лужок нічыйнай зямлі — шэсць дзясяткаў крокаў. Закончыцца сезон, а зямля не схопіцца яшчэ маразамі, то пракапаецца вузенькая, у адно лязо рыдлёўкі траншэйка. Туды ўкладзецца труба. І пабяжыць вадзічка з азярыны ў копаначку. Усё акуратна закапаць, замаскіраваць — хто што дакажа? Ды і якая тут каму справа? Траншэю нойме каб копаць, каб за паўдня паспець...

Фізічную працу Прыходзька не любіў, але прымушаў сябе працаваць, бо тлушч на пузе стаў перашкаджаць завязваць шнуркі чаравікаў. Калі збіраешся ехаць у сучасны еўрапейскі горад жыць, мусова форму адпаведную мець. Жонка ўпарціцца наконт пераезду. Вітольд намякаў Эльвіры, што варта і ім падумаць, як бы гэта ўслед за сынам асесці ў Нямеччыне, а яна маўчала. Колькі разоў гасцявала ў сына, песціла ўнучку, але хутка пачынала сумаваць. Вось па гэтых градках. Праўду кажуць: можна выехаць з вёскі, ды вёска з цябе не выедзе. Такая во жонка дасталася. А доктар навук! Ты скажы, як пасля сарака гадоў абудзілася, ажно выбухнула ў ёй жаданне корпацца ў зямлі. З аднаго боку і няблага: вунь колькі грошай эканоміцца — свае гуркі, памідоры, варэнні за зіму не з'ядаюцца. Ну і магчымасць зганяць наетае пуза, хоць, трэба прызнацца, не дапамагае тое калупанне ракам у градках. От сапраўдная работа — копаначку выкапаць! Тут папацееш добра!

...Вітольд Прыходзька капаў няспешна, заганяючы лязо рыдлёўкі ў мяккую чорную зямлю. Зямлю выкідаў побач — раннюю цыбулю жонка ўжо выбрала, а гуркі ў гэтым годзе вымерзлі. Шкада, але яшчэ градка вышэй ёсць.

Зямля на паўметра ў глыб была зусім вогкая, кідаць было цяжка. Чарговы раз наступіўшы нагой у старой красоўцы на лязо, Прыходзька пачуў непрыемны металічны скрыгат. Камень, падумаў ён. Падагнаў лязо ніжэй, капнуў...

Металічная іржавая скрыня, памерам са звычайную кнігу, таўшчынёй акурат у том кшталту «Вайны і міра». Завэдзганая ў чорную гразь. Прыходзька не паспеў як след здзівіцца і спрактыкавана дзеўбануў рыдлёўкай у вечка. Вострае металічнае лязо зрабіла шырокую, праз усю скрыню, дзірку, метал накрыўкі высыпаўся ў скрыначку.

І адтуль засвяціла жоўтым.

Прыходзька спуджана прысеў, кінуў рыдлёўку, працягнуў рукі, якія раптам затрэсліся, да дзіркі, разагнуў ломкія краі шчыліны. Кінуліся ў вочы жоўтыя кружкі і паўкружжы з характэрным металічным зззяннем.

Сэрца закалацілася пад горлам.

Устаў на ватных нагах, зверавата агледзеўся.

Жончына постаць, сагнутая ўдвая, цямнела ў цяпліцы. На суседнім участку мужык круціўся ля сваіх кустоў парэчак — вырэзваў лішняе, у ягоны бок не глядзеў.

Вітольд разважаў хвіліну.

Схапіў скрыню, засунуў пад майку разарванай накрыўкай да жывата, пад гумку шортаў, сагнуўся і выкараскаўся з ямы. Так, сагнуўшыся, падаўся хутчэй у дамок — бы яму хапіла жывот.

Ён лічыў пра сябе: дванаццаць, пятнаццаць, дваццаць два, дваццаць тры... дзверы!

І ліхаманкава забегалі вочы: дзе, дзе схаваць? Куды пакласці?

Адзінае патаемнае месца — непрыбітая як след дошчачка сцяны ля халадзільніка. Даўно Вітольд такую штуку зрабіў. Сюды якраз ставіцца тры паўлітры чаго хочаш. Вітольд ставіў свой любімы напой — ром. Хоць жонка лічыла, што ён любіць каньяк. Але ж, халера, у суботу пасля лазні яна дазваляла адно сто пяцьдзясят грамаў. І куды дзявалася тады рахманая вяскоўка? Тыгрыцай кідалася на бутэльку: «Ня дам больш ні кроплі!». Ну і працісь не стану. Ідзі з бутэлькай — дзівіся на свой серыял. А ён — нібыта адчыніць халадзільнік у пошуках скрылька сала, дастане бутэльку і ліне сабе на глыток-другі...

У хованцы адна бутэлька. Памесціцца скрынка. Не змог утрымацца, хапіў бутэльку і глынуў адзін і другі раз добра, ажно запякло ў горле. Не перажываў, што Эльвіра, жонка, унюхае. Хай чуе. Няма чаго баяцца бабскіх енкаў.

Выйшаў і закрыў дамок на ключ.

Капаў і кінуў рыдлёўку: ну, не дурань жа, га? У яго — грошай на рахунку, каб купіць кватэрку недзе ў прадмесці Берліна. А ён капае зямлю, як затурканы раб.

У яго — золата!!!

Што гэта золата, што сапраўднае, Вітольд не сумняваўся: скрынка металічная згніла ад іржы, а яно захавалася ды жаўцее, то сапраўднае. Бачна, не толькі манеты. Хоць і тыя вялікія, і не скажаш, што нашы, у сэнсе царскія-расейскія. Нейкія там іншыя выявы. А калі манеты маюць якую гістарычную каштоўнасць? О, гэта цэлы капітал...

Ён вылез з ужо немалой ямы, сеў на яе бераг, звесіўшы ногі ў чарнату дна. Пачуліся крокі, азірнуўся — падыходзіла Эльвіра.

— Вітольд, ты чаму дзверы замкнуў? — выказала сваё нездавальненне.

У выцвілым старым, таму занадта цесным купальніку, цела яе бачылася яшчэ больш адрузлым, чым падчас яе распранання ў лазні — вывальваліся, ніяк не ўмяшчаліся ў бюстгальтар поўныя абвіслыя грудзі, складка жывата напалову закрывала трусы. А некалі ж яна ў гэтым купальніку была такой сексуальна-зваблівай!

— Зачыніў. Бо ці мала хто можа шмыгнуць!

— А што там красці? — здзівілася жонка. — Кефір з халадзільніка?

— А хоць і кефір! Мінералкі хачу! І баршчу.

— Халаднік жа ўчарашні ёсць, — пачала Эльвіра і спынілася, адчуўшы асаблівае напружанне ў настроі мужа. — Нейкі ты ўзвінчаны. Добра, звару, але ж трэба ехаць па косткі.

— Дык з'ездзі! — не змог стрымаць эмоцый, нервова крыкнуў Прыходзька. — От зарэбяры і едзь! І мінералкі вазьмі, і смятаны паболей, ведаеш, я з баршчом многа яе ем, — сцішыўся ён прыканцы.

— То дай ключ, пайду збірацца.

Ехаць жонцы ў бліжэйшы магазін было нядоўга — тудытам-назад — паўгадзіны. Але гэтага павінна было хапіць, каб уважліва разгледзець змесціва той скрыначкі, якая цягнула, бы магнітам.

Прыходзька зачыніў за сабой дзверы на ключ і зашчапку, занавесіў вокны. Дастаў з кладоўкі вялікі стары ручнік, пасцяліў яго на падлозе і потым адкрыў схованку і выцягнуў скрынку.

Вытрас змесціва на ручнік. Розум адмаўляўся верыць вачам: нейкія вялікія дзіўныя манеты з дзірачкамі, зробленымі, відавочна, каб насіць як упрыгожванне, розныя падвескі невялікія, бранзалеты на руку... Не наша, не беларускае, вырашыў Вітольд, бо меў усё ж першую адукацыю гісторыка.

Нават думкі не ўзнікла пра тое, каб адкрыта заявіць аб знаходцы. Маленькая згадка ў якой газеце і слава на тры дні з нібыта павагай знаёмых і адначасовымі іхнімі ж каментарамі ў сацсетках: «Ну і дурань!». «Навошта яму гэта?» О, ён ведае, як дзяржава ацэньвае клады — як лом! Дзе знайсці пакупніка?

Прыходзька пералічыў цяпер ужо сваё, ён не сумняваўся ў гэтым, багацце: пяць залатых невядомых манет з дзіркамі — гэта невялікі кошт, сапраўды, як лом ацэняць. Затое: дзевяць манет меншых, цэлых, чатырнаццаць розных падвесак, дзве — з зялёнымі камянямі, відаць, смарагдамі, вялікімі, тры зашпількі на сукенкі, пяць бранзалетаў. Колькі ж гэта каштуе?

Сфатаграфаваў усё паасобку.

Загарнуў у ручнік скрыначку, засунуў яе далёка за дошку сцяны, ледзь рука даставала, застаўся задаволены: не відаць, хай і адкрыецца выпадкова схованка. Узяў бутэльку каньяку з бара, дастаў шклянку, наліў, сеў, адкінуўшыся на спінку крэсла, пацягнуў напой і сам выцягнуўся, ажно спіна нацягнулася: ах, як жа пашанцавала!

Пачуўся шоргат шын па жвіры двара — прыехала жонка.

***

Грак апусціў бінокль, хмыкнуў:

— А ты сумняваўся! Калі чалавек браў хабар хоць адзін раз, такі ўжо не задумаецца, што рабіць са знойдзеным кладам! Што робім, Монця?

Яны сядзелі ў мансардным пакоі дамка непадалёк ад лецішча Прыходзькі — дамовіліся з гаспадаром наконт «пракату пакоя».

— Думаю, ён сёння з'явіцца са сваімі фотаздымкамі дзе-небудзь на сайтах нумізматаў і калекцыянераў. Адсочваем.

Грак кіўнуў у знак згоды, спытаў з усмешкай:

— А цябе сумленне не пачне мучыць? Жыў чалавек, быццам і не благі, а ты яго органам дзяржаўным здасі?

Мацвей узняў кубак, зазірнуў у яго — з кавы заставалася гушча, з уздыхам паставіў на столік.

— Нічога супраць сумлення мы не рабілі. У чалавека ў любым разе ёсць выбар. «Вучоны заўсёды павінен быць дзяржаўнікам», — гэта ён сказаў мне, выкідваючы з магістратуры. Хай паказвае вернасць сваіх слоў на практыцы. Не! — рашуча ўжо гукнуў Мацвей. — Без сантыментаў. Мы не пазбаўлялі яго выбару, ён не прайграў бы, калі б у гэтыя гадзіны на яго ным лецішчы быў вэрхал ад знойдзенага клада з журналістамі ды тэлебачаннем. Сквапнасць узняла верх — хай наракае на сябе. Але ў яго яшчэ ёсць шанец, мо адумаецца, калі даведаецца пра каштоўнасць.

— Калі даведаецца пра кошт, то апошнія сумненні, як яны ў яго і былі, знікнуць, — махнуў рукой Грак. — Такія асобы мне вядомыя.

Позна ноччу на гэтым жа лецішчы Мацвей сёрфіў сеціва ў пошуках пастоў Прыходзькі. Ён не памыліўся: Вітольд на трох рэсурсах зарэгістраваўся пад выдуманымі нікамі, паказваў свае знаходкі, пытаўся: каго цікавіць, ці ўвогуле гэта каштоўнасць, колькі можа каштаваць. Карацей, прыкінуўся сапраўдным лузерам, які «ад бабулькі на памяць атрымаў». Паведамленні Прыходзькі не засталіся незаўважанымі: было досыць каментаў і допісаў кшталту: «Напісаў у прыват».

Раніцай за кавай Грак падвёў рысу над сваімі і Мацвеевымі сумненнямі:

— Няма чаго разважаць. Жонка Прыходзькі паедзе з лецішча, значыць, ён дамовіўся з пакупніком. Сёння гэта робіцца на раз-два. Пакупнік нічым не рызыкуе — ён калекцыянер, едзе купляць рэч. Пра яе гісторыю ён ведаць не абавязаны. Іншая справа, што прыехаць можа аптавік. Упусцім — дарэмна патрацілі каштоўнасці.

— Не спрачаюся, — пагадзіўся Мацвей. — Пабачым.

Пабачылі: аўтамабіль з жанчынай сапраўды з'ехаў з лецішча Прыходзькі.

Грак дастаў тэлефон, раскрыў яго і ўставіў іншую сімку:

— Гэта расейская, левая, не знойдуць. Алё, міліцыя? Гублююся, вам гэта званіць, ці не. Тут такая справа: наш сусед па лецішчы выкапаў клад... А вы не перабівайце, усё скажу! І не жартую я! Золата нейкае, я бачыў дакладна. І сёння ноччу ён дамовіўся з пакупнікамі, яны прыедуць да яго днём. Маё прозвішча? Навошта вам, вы мне дзясятую долю ад клада не дасце, так жа? А вось адрас суседа... Так, я не жартую, далібог. Слухайце, можаце мне не верыць. Зараз усё сфатаграфую, вазьму тыя запісы, якія сусед пакідаў на сайтах калекцыянераў і адпраўлю вышэй, у КДБ. Там зразумеюць, што справа сур'ёзная, але клад ужо згубяць! А вы будзеце тады адказваць! Добра, я зараз вам эсэсмэскай адпраўлю спасылкі на запісы майго суседа ўчарашнія і тыя вырабы, якія ён прадае.

Прайшла гадзіна, другая, Грак не стамляўся ўважліва аглядаць пасёлак з бінокля. Маўчаў, соп злосна, нарэшце выгукнуў:

— Ага! Паверылі! — і стаў узбуджана каментаваць убачанае: — Насупраць нас дамок. Толькі што прыехаў чорны аўтамабіль, выйшла двое, адзін застаўся. Падняліся наверх, бачна было, як на мансардным акенцы фіранкі варушыліся. Усё, наш Прыходзька пад назіраннем!

Прайшло яшчэ з тры гадзіны, і да лецішча Прыходзькі падкаціў нічым не прыкметны аўтамабіль. Гаспадар яго, нізкаросльы, з барадой і лысінай мужчына гадоў шасцідзесяці, у светлым гарнітуры, выйшаў з чорным саквяжам, пачакаў, пакуль Прыходзька мітусліва адчыніць веснічкі. Яны прайшлі ў дамок. Праз хвілін пятнаццаць да лецішча падляцелі два аўто, чацвёра мужчын выскачыла з іх, адзін пераскочыў на надворак праз плот, адчыніў веснічкі. Праз паўхвіліны яны былі ля дамка і настойліва загрукалі ў дзверы. Тыя адчыніліся — трое зайшло, адзін застаўся.

Праз паўгадзіны ўсе выходзілі з надворка, накіроўваліся да веснічак.

Прыходзька ішоў, ледзь перастаўляючы ногі. Ягоныя рукі былі спераду, і іх запясці злучалі кайданкі.

— Вучоны павінен быць дзяржаўнікам, — ціха пракаментаваў Мацвей.

# Пра Дмытра Паўлычку, карпацкага легіня, што дарос да вяршынь сусветнай паэзіі

**Нашы чытачы наўрад ці ведаюць гэтае экзатычнае слова «легінь». Існуе яно ва ўкраінскай мове для азначэння хлопца, які нарадзіўся ў Карпатах і надзелены ўсімі станоўчымі якасцямі, што ўвайшлі ў ментальны імператыў народа. Па дасягненні паўналецця юнак павінен прайсці ў сваёй грамадзе абрад ініцыяцыі, у выніку малады хлопец атрымлівае права насіць зброю — карпацкі тапірэць! Яму, што засведчыў сілу і розум, пры абароне сябе, свайго краю, дазволена забіваць ворага.**



Фота www.dzerkalo.media

Гэта тлумачэнне закладзена ў інтрадукцыя да асноўнай характарыстыкі ***Дмытра Васільевіча Паўлычкі,*** народжанага ў карпацкім сяле на Гуцульшчыне ў 1929 годзе, сёння знакамітага пісьменніка, грамадскага дзеяча, дыпламата, якому 28 верасня ўдзячная супольнасць будзе адзначаць высокае ***90-годдзе з дня нараджэння.***

Пачатак майго знаёмства з юбілярам прыпадае на нашу сумесную львоўскую ўніверсітэцкую філалагічную маладосць. Паўлычка-малады паэт, друкаваўся з 1951 года, аспірант, і я, студэнтка-пачатковец, атрымалі ад рэктара Львоўскага ўніверсітэта, незабыўнага наша куміра, мудрага і прагрэсіўнага Яўгена Канстанцінавіча Лазарэнкі не загад, а «ўрок» з просьбай годна адгукнуцца на міжнародныя падзеі, што, як на той час, атрымлівалі важкі народазнаўчы статус. Я. Лазарэнка засяродзіў нас на антыімперыялістычнай рэвалюцыі на Кубе. У 1960-я гады з'явіліся Гаванскія дэкларацыі, што сталі праграмай барацьбы кубінскага народу за нацыянальную незалежнасць. Кіраўніцтва СССР наладжвала мерапрыемствы ў падтрымку народу Кубы, вітаючы найперш сацыяльную матывацыю паўстанцаў. Наш рэктар, акадэмік мінералогіі з сусветным імем, вызначаўся высокай культурай, веданнем еўрапейскіх літаратур і, найперш, роднай украінскай. Ён ведаў тое, што не паспелі яшчэ асвоіць мы як філолагі. Аказваецца, яшчэ ў далёкіх 1880-х украінец Барыс Грынчэнка ўзнімаў голас дэмакрата ў абарону кубінцаў, напісаўшы цікавую паэму «Мацільда дэ Аграмантэ».

З падачы рэктара я выступіла з адпаведным дакладам на Першай Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай краінам Лацінскай Амерыкі, што адбылася ў Маскве пад патранатам Пасольства Кубы. Дмытро Паўлычка, дзякуючы Я. Лазарэнку, атрымаў магчымасць здзейсніць падарожжа на Кубу. Блаславенне рэктара стала для Паўлычкі адной з вызначальных форм інтэлектуальнай ініцыяцыі, што вылілася ў напісанне ім у 1962 годзе кнігі вершаў і прытчаў «Жест Нерона».

Пераканана: згаданы «рэктарскі ўрок» для Паўлычкі стаў магутным каталізатарам выспявання ўсёй шырыні далейшай філасофскай нацыянальна-вызваленчай праблематыкі, якая з неспадзяванай яшчэ для тагачаснага мастацтва сілай выбухнула некалькі раней у яго зборніку «Правда кличе» (1958). Ідэйна-кампазіцыйны стрыжань кнігі — санет «Коли помер кривавий Торквемада» — прагучаў ёмістай алегорыяй дыктатарскага рэжыму ў Краіне Саветаў. Наклад кнігі быў знішчаны. Вытрымаць ціск ідэалагічнай апрацоўкі, што абрынулася на аўтара пад «жэстамі навейшых неронаў», было не проста. Аднак Дмытро Паўлычка выстаяў. Ён быў прадвеснікам эпохі шасцідзясятніца, у атмасферы якой выспявала гуманістычнае светабачанне новага пакалення.

У 1964 годзе паэта прымаюць у Саюз пісьменнікаў Украіны. Гуцульскі легінь пераязджае ў сталічны Кіеў. Львоўская тутэйшасць, местачковыя патрыёты ўзбурыліся: «Як, Паўлычка, любоў і надзея ўсёй Галіччыны, робіцца кар'ерыстам і здраджвае свайму краю?». Аднак паэтычная інвектыва, філасофская прытча, мастацкае слова, вострае, як «меч гладыятара», сталі адэкватнай да гуцульскага тапірця зброяй паэта. Жыццядзейнасць Паўлычкі ў Кіеве адбываецца пад знакам непарыўнай барацьбы за цэласнасць дзяржавы Украіна. Думкі пра неабходнасць духоўнай спадкаемнасці ўсіх пакаленняў украінцаў — з усіх куткоў і мацерыковай Украіны, і эміграцыйных украінскіх — стымулююць энергію творцы.

Паўлычкавы ідэі незнішчальнасці ўкраінскай саборнай нацыянальнай культуры яскрава выяўляюцца ў яго зборніках «Гранослов» (1968), «Спіраль» (1984), «Поеми і притчі» (1988), «Покаянні псалми» (1994), «Вірші з майдану» (2014). Пад гэтым дэвізам Паўлычка ўдзельнічае ў стварэнні кінастужак «Сон» паводле Тараса Шаўчэнкі, «Захар Беркут» паводле Івана Франко. Такім выявіў сябе Паўлычка, працуючы ў сакратарыяце Саюза пісьменнікаў. І ў грамадска-палітычнай дзейнасці як дэпутат Вярхоўнай Рады, як ініцыятар Народнага Руху Украіны. І як дыпламат на пасадах Надзвычайнага і Паўнаважнага пасла Украіны ў Рэспубліцы Славакія, Рэспубліцы Польшча…

У межах гэтай віншавальнай публікацыі поўна ахарактарызаваць шматграннасць асобы знакамітага юбіляра немагчыма. Аднак пра яго літаратурную дзейнасць неабходна сказаць шырэй. Па колькасці выданняў ён — ці не найбольш актыўны ўкраінскі пісьменнік! Яшчэ першы зборнік «Любов і ненависть» (1953) прадказаў галоўную адметнасць таленту Паўлычкі: канфліктнасць лірычнага сюжэта і дыялектычнасць мыслення развіваюцца ім ва ўзаемадзеянні. Эстэтычная праграма паэта ўключае ў сябе культуру народнай этыкі, шырыню эмацыянальнага ўспрыняцця наваколля, прыгажосць чалавека паэт бачыць у бескарыслівай дабраце і душэўнай шчодрасці. Верш Паўлычкі ўнутрана арганізаваны. Працуючы ў многіх паэтычных жанрах і формах, асвоеных роднай літаратурай, паэтамі Захаду і Усходу, Паўлычка асаблівую ўвагу аддае санету. Аднак з-пад пяра Паўлычкі выходзяць і бліскучыя, арыгінальныя рубаі! Шлях паэта-грамадзяніна — гэта нястомныя пошукі праўды і чысціні ў творчасці і міжнародных адносінах, нацыянальным калектыве, асабістым жыцці індывідуума.

Вялікую папулярнасць прынесла Паўлычку яго інтымная лірыка: асобныя зборнікі «Таємниця твого обличчя» (1974, 1979), цыклы «Любов», «Пахощі хвої», «Пісні». Паэтычны Пегас Паўлычкі прынёс чытачам эратычную лірыку, створаную на ўзроўні класічных традыцый Сафо, Катула, Бадлера, Тувіма. Многія яго вершы праз меладычнасць, набліжанасць да фальклорнай паэтыкі «пайшлі ў народ», сталі любімымі і знанымі не толькі ва Украіне: «Два кольори», «Лелеченьки», «Впали роси на покоси»…

Як рэдактар знакамітага часопіса «Всесвіт» Паўлычка падключаў лепшыя ўкраінскія сілы да папулярызацыі сродкамі роднай мовы дасягненняў блізкіх і далёкіх культур, скіроўваў іх на раскрыццё ўкраінскай самабытнасці ў кантэксце «всесвіту». Пры гэтым Паўлычка няспынна пашыраў і свае творчыя арбіты: выступаў як крытык, літаратуразнаўца, перакладчык. Адзін толькі пералік перакладзеных ім аўтараў выклікае захапленне. Гэта творцы старажытнасці і сучаснасці, прадстаўнікі розных краін і народаў: Дантэ, Петрарка, Шэкспір, Гарсія Лорка, Хасэ Марці, Гётэ і Гейнэ, Рыльке і Ібсан, Стаф, Пушкін, Блок і Ясенін, Івашкевіч, Гвездаслаў, Незвал, Шымборская… Літаратуразнаўчы даробак Д. Паўлычкі вымяраецца тысячай старонак, ён выдадзены ў двух тамах. Першы — прысвечаны ўкраінскаму пісьменству, другі — творцам і творам сусветнай літаратуры.

Пачэснае месца ў творчым даробку і творчых планах Д. Паўлычкі займае беларусіка. Важкае слова сказаў Паўлычка пра В. Быкава, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, В. Рагойшу. Ён пераклаў творы М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, Г. Бураўкіна. А яшчэ — усе санеты Янкі Купалы. «Я верыў, — скажа Д. Паўлычка, — што ў Янкі Купалы павінна быць нешта такое, што мае адносіны да адвечнага жадання беларусаў — жадання мець сваю дзяржаву. Я перажыў пэўную радасць, перакладаючы надзвычайна актуальны яго санет «Наша гаспадарка»». Сёлетні чэрвеньскі нумар выдання «Новы час» змясціў выдатныя вершы Паўлычкі, прысвечаныя памяці Васіля Быкава.

Д. Паўлычка неаднойчы наведваў нашу краіну. Асабліва памятнымі былі яго прыезды ў Беларусь разам з шчырым украінскім беларусазнаўцам Р. Лубкіўскім у 2003 і 2009 гг., удзел у працы музеяў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча. Беларусіку гэтых слаўных украінскіх сяброў вызначаюць словы Д. Паўлычкі: «Я не віддам своєї волі і вашу боронитиму сповна!»…

Магу запэўніць, што з часу яго львоўскай біяграфіі юбіляр вонкава амаль не змяніўся. Гады яго не «прызямлілі»: іскрысты погляд глыбокіх сініх вачэй, гучны эмацыянальны голас, парывістая хада. Ён энергічны, «стрункий, ще й на бороді ямка», як пяецца ў народнай песні. Адно толькі — у некалі густым чубе свавольна гаспадараць «вераснёўскія павуцінкі», непакорнае высокае чало прарэзалася барознамі маршчын. Унутрана ж, інтэлектуальна, духоўна, творча карпацкі легінь з году ў год узрастае, узбагачаецца на працягу ўсяго свайго няпростага, насычанага апантанай працай жыцця.

Дмытро Васільевіч Паўлычка — Герой Украіны, яго заслугі адзначаны высокімі дзяржаўнымі ордэнамі. Аднак найбольшая праўда адносна такіх людзей, як юбіляр, наступная: той, хто так мужна нясе свой цяжкі крыж, уганароўваецца цярновым вянцом…

**Таццяна Кабржыцкая,**
**лэдзі ордэна Святой княгіні Вольгі**

## Санет

*Калі памёр крывавы Тарквемада,*
*Пайшлі па ўсёй Іспаніі ганцы,*
*Даўгачаканай весткі пасланцы —*
*Манахаў хітрамудрыя армады.*

*О, як баяліся царквы айцы,*
*Што пахіснецца іхняя улада!*
*Душа ж ерэтыка той смерці рада,*
*Ды толькі усміхніся — і капцы!*

*Манахі самі ўсім распавядалі,*
*Што інквізітара ужо няма.*
*А людзі, слухаючы іх, рыдалі.*

*Няўжо пражыць мажліва без ярма?*
*І не ўсміхаліся, бо добра зналі:*
*Тыран падох, — але стаіць турма.*

* * *

*Ціха яблыкам даспелым*
*Ты упала ў ложа траў.*
*Маладое тваё цела*
*Я ад строяў вызваляў.*

*Паступова разняволіў*
*Я цябе з усіх тканін,*
*Разглядаючы паволі*
*Кучаравы востры клін.*

*На яго я наструніўся,*
*Райскі я адчуў матыў.*
*Я ўзляцеў, я нарадзіўся,*
*Нібы з кокана матыль.*

*О, як дзякаваў паклонна*
*Богу я ў той дзень святы,*
*Што свяціла тваё лона,*
*Нібы яблак залаты!*

## З цыклу «РУБАІ»

* * *

*Ёсць людзі, як дубы, і ёсць дубы, як людзі,*
*Што пад маланкі падстаўляюць грудзі,*
*Каб кволую бярозку зберагчы,*
*Хоць знаюць добра: ім пагібель будзе.*

* * *

*Калі руку падымеш на Тараса,*
*Трымці, чакай такога абяртаса —*
*Цябе ўдарыць доля. І змяце,*
*Як пыл з твайго бліскучага абцаса.*

* * *

*О сэрца праўнука, адзнач*
*Тых, хто смяяліся скрозь плач.*
*А тым, што падалі ў блюзнерства,*
*Плявалі ў праўду — не прабач!*

**Пераклаў з украінскай Вячаслаў Рагойша**

# «Руш наперад!»

**Напрыканцы лета пабачыў свет першы пасляюбілейны — 101 — нумар часопіса «Дзеяслоў».**

Калі накрэсліць рэзюме да яго, то найперш, у адрозненне ад большасці папярэдніх, кідаецца ў вочы тэматычная стракатасць і шырокая аўтарская геаграфія. Як на мой погляд, гэта добра, асабліва апошняе.

Адкрываецца нумар нізкай вершаў **Валянціны Аксак** пад містычна-інтрыгуючым назвам «Меню таемнай вячэры». Гэта, па-простаму кажучы, збеларушчаныя (нацыяналізаваныя) хрысціянскія матывы. Своеасаблівы пошук святасці зямной грэшніцай. У верлібрах, «якія камусьці ўяўляюцца вер-




шамі», вібрыруе той унутраны душэўна-духоўны покліч, наўслед якому ідзе аўтар у сваіх мастацкіх пошуках і вымогах такога ачышчальнага шляху. І спадзяецца, што

*Калі-небудзь*
*я зразумею тую,*
*што стаяла на гаўбцы*
*з келіхам чылійскага шыразу,*
*а цераз дзверы з кухні*
*ішоў дымок*
*ад спаленай намёртва*
*каляднае куцці.*

Вядомы пісьменнік гістарычнай тэматыкі **Вітаўт Чаропка** друкуе кароткае апавяданне трансцэндэнтнага характару «Радасць руху», пра фізічнае і духоўнае пераадоленне трагічных і лёсавызначальных сітуацый у жыцці чалавека. І ўвогуле, ці заўсёды гэта магчыма? На тое ў аўтара ёсць, апроч уласнага досведу, такія высновы: *«Руш наперад, нават калі расчараванні сагнулі цябе і аднялі надзею. Руш наперад, крок за крокам, як анямелую нагу, цягні за сабой цяжар сваіх грахоў, як свой крыж іх нясі, не азірайся назад, руш наперад! Нават калі не дойдзеш да патрэбнай мэты, дык наблізішся да яе, затое іншы па тваіх слядах дойдзе да яе і будзе табе ўдзячны за пракладзеную сцяжыну. Руш наперад! Толькі рух дае адчуванне жыцця, толькі так спазнаеш радасць руху! Дык руш наперад, куды цябе вядзе твой вольны розум!»*

**Уладзімір Някляеў** прапануе чытачам *нальшанскую легенду* «Зорка Дзіва». Гэта яшчэ адна па-майстэрску выпісаная знаным паэтам гісторыя родавай (крэўна-крэўскай) сутнасці беларускай нацыі ў яе міфалагічным узнаўленні. Каханне і любоў, нараджэнне і смерць, гібель і ўваскрашэнне... Як і большасць такіх аб'ёмных паэтычных твораў гэтага аўтара, легенда напісана ў дэкламацыйным стылі, немалаважным для публічнага ўспрымання. Усё без швоў суцэльна злітавана: думка, рытміка і эмоцыя, дзе слова трымаецца за слова, як каханкі — адно за аднаго... З такіх палкіх міфа-метафарычных узаемаадносін і нараджаецца паэзія:

*То пад ім яна стагнала,*
*То яна над ім*
*Зоркай бліскала і ззяла,*
*І кахала, абдымала*
*У агні сваім.*
*І да зоркі кожны дотык*
*Цела працінаў...*
*Ні раней ён і ні потым*
*Гэтак не кахаў.*
*Бог пасалў яму каханку!..*
*І прачнуўшыся наранку,*
*Сон на яве ўбачыў Янка*
*Той, які прысніў:*
*У агні стаяла Дзіва...*
*І ўсміхнуўся ён шчасліва,*
*І ў агонь ступіў.*

Нечаканы па сваёй ідэі, змесце і форме празаічны тэкст прапануе пісьменнік **Васіль Гігевіч**. Называецца ён «Творчасць», з падзагалоўкам *«спроба аналізу»*. Чытач адразу ж настройваецца на літаратурна-крэатыўны лад, чакаючы неардынарных развагаў на заяўленую тэму. Аднак у нашым выпадку не ўсё так проста. Калі ў першай частцы аўтар і насамрэч задаецца спробай аналізу літаратурнай творчасці, то далей ён нечакана адыходзіць ад гэтага і пачынае абгрунтоўваць свае філасофскія і мыслярскія тэзісы пра ўсё чалавечае жыццё, высноўваючы яго ад першапачатку Слова і першакрыніц быцця (тут — ад кастрычніцкай рэвалюцыі) да нашых дзён. Метад цікавы, але занадта ўжо хаатычны і разбэрсаны — ад праставата-наіўнай, падчас сентыментальнай спробы апісання працэсу і сутнасці самой літаратурнай творчасці да практычна-дакументальных сюжэтаў (мажлівасці і немагчымасці пры тых ці іншых умовах і раскладах зямнога жыцця ўвогуле)... Свой эсэістычна-публіцыстычны запал і набыты асветніцкі досвед В. Гігевіч у рэшце рэшт зводзіць да маральнасці і пошукаў бяспечнай чалавечай будучыні, якія, нібыта панацэю, прапісвае дзесяцццю рэцэптамі-запаветамі Новай рэлігіі, падкрэслена *«заснаванымі на разумнасці»*.

З вышыні ўласнага набытага жыццёвага і творчага вопыту прапануе чытачам сваю паэтычную нізку **Галіна Каржанеўская.** Вершы простыя, як «дарога да Бога», філасофія іх больш чым відавочная:

*«Бывай» не гаварыце маладосці,*
*Пакуль да вас прыходзіць*
*Муза ў госці,*
*Пакуль між сном і явай, раніцою*
*Рэальныя здаюцца планы, мроі...*

Друкуецца заканчэнне факталагічнай аповесці пра Адама Станкевіча «...Усе бачылі нястачу віна...» **Леаніда Дранько-Майсюка** з кнігі «У Вільні і больш нідзе». Па сутнасці, гэта архіўна-біяграфічны нарыс з літаратурна-мастацкімі ўстаўкамі аўтара пра вядомага беларускага ксяндза і грамадскага нацыянальнага дзеяча і асветніка, замучанага і давездзенага да гібелі бальшавікамі ў Азярлагеры пад далёкім халодным Брацкам у1949 годзе. Зачапіў за жывое такі нечаканы пасаж у пасляслоўі: *«Яму заўсёды давяралі грошы, і ён ні разу нікога не падмануў, не ўтаіў ні капейкі... <...> Зрэшты, можна і не здзіўляцца, што быў такі — гадаваўся ж у сям'і, дзе шчыра шанавалі запавет: не крадзь! Грошы з яговых рук без астачы ішлі на грамадскую справу, і калі справа ўдавалася, то ён мог тады і весела ўздыхнуць: «Эх, каб грошы ўмелі размаўляць і размаўлялі па-беларуску, то тады па-беларуску гаварылі б усе!».* І напрыканцы аповесці аўтар піша: *«Душа Адама Станкевіча супакоена верай: Бог прамаўляе беларускай мовай таксама... Магчыма, у апошнюю сваю хвіліну святар адкрыў галоўнае: калі пытаецца, то пытацца заўсёды варта пра адно — дзе ты, Беларусь? А магчыма, у тую хвіліну ўспомніў пра вяселле ў Кане Галілейскай, на якім Ісус Хрыстос ваду ператварыў у віно — зрабіў немагчымае. Тое ж немагчымае рабіў і ён, Адам Станкевіч, бо таксама ж бачыў нястачу віна, — брак Беларусі ў Беларусі, — і да апошняга (як мог і як умеў!) ператвараў буднае — у святочнае. І аддаў жыццё, бо толькі жыццё — плата за высокую мэту!»*

Нізка вершаў віленчанкі **Ванды Марціньш душ Рэйш** «Плод авакада» — гэта, па ўсім, даніна любові і павагі партугальскай Мадэйры ў яе гожым беларускамоўным успрыманні. Прырода, культура народа, яго душа, пачуцці і філасофія духоўнага жыцця... Вершы і сама іх паэтыка зроблены ў мастакоўскім стылі — яны каляровыя, пахкія, эмацыянальна-чуйныя, візуальна-вабныя і прыцягальныя:

*Хачу пад сэрца стук*
*Палаць, згараць датла,*
*Пакуль спявае лук,*
*Пакуль ляціць страла.*

Шчымліва-горкія, а часам проста сентыментальныя і павучальныя гісторыі з пасляваеннага маленства — сіратлівага, галоднага і халоднага — прадстаўлены трыма кароткімі навеламі магіляўчаніна **Міхася Булавацкага.** Яны так і названыя: «Згадкі маленства» («Лыска», «Шаптуха», «Яблынька»). Разважаючы над тэкстамі, нечакана прыйшло на розум неардынарнае параўнанне, што гэтыя тэксты могуць успрымацца сучаснымі маладымі чытачамі прыкладна так жа, як пяцьдзясят гадоў таму маім чытацкім пакаленнем — «Пяць лыжак заціркі» Змітрака Бядулі. Адным словам, нязмушаная, шчырая (сёння сказалі б «нонфікшн») проза *класічнай* беларускай правінцыі вартая ўвагі.

Вершы **Ганны Комар** — гэта аддаленыя, але не адстароненыя асацыяцыі, якія ўводзяць чытача ў тэкст сваёй нечаканай падвоенай метафорыкай, адлюстроўваючы яго сэнс і духоўна-інтэлектуальную сутнасць... Кажучы шчыра, вершы з ранейшых публікацый і кніг паэткі мне былі бліжэйшымі, больш празрыстымі, менш загадкавымі, але значна глыбейшымі ў сваіх ідэйных і мастацкіх праяўленнях.

*А ў яе пад адзеннем*
*ад ключыц да шчыкалатак*
*словы, напісаныя*
*вострым прадметам,*
*нашкрабаныя наспех,*
*рэльефныя, для чытання*
*з заплюшчанымі вачыма.*

Два аповеды **Паўла Касцюкевіча** пад агульным назовам «Мяне вучыў ангельскай Лі Харві Освальд» уяўляюць сабой аўтарскія фантазіі, заснаваныя на рэальных гісторыях, як палітычнага, так і сямейна-родавага характару. Натуральныя і ў той жа час выбітныя — мова, стыль, форма і сюжэты робяць тэксты займальнымі і чытэльнымі.

Будзённа-запозненая лірыка кахання, у тым ліку і віртуальна-мройлівая — у нізцы вершаў **Таццяны Барысюк.** Спрошчаная складанасць жыцця:

*Апошні дзень вясны —*
*апошняе каханне.*
*Я мару зліцца з ім*
*у жарсным парыванні.*
*Ды толькі ці магчыма*
*шчаслівае здзяйсненне?*
*Анёлам за плячыма*
*ён, мройным вабным сненнем...*
*Не для мяне, о не!..*

Вершы мастацтвазнаўцы — так можна сказаць, прачытаўшы паэтычную падборку лідчанкі **Кацярыны Янчэўскай** «Белае шмакроп'е».

*Граматыка і сінтаксіс пачуццяў,*
*Задумкі для карцін сярод галін,*
*Узнёсласць колеру ў смарагдавым*
*ландшафце.*

Аднак за ўсімі яркімі і вабнымі фарбамі прыхаваны няпросты ўнутраны дух жыцця:

*Стары калодзеж*
*чыстай вады*
*абдымае*
*крыніцу пяшчоты.*
*Журботу маўчання майго —*
*паглыні!*
*Перамяні на мову!*

Вядомы іраніст, парадыст і сатырык з Віцебска **Міхась Міраноўіч** публікуе заканчэнне выбраных і перакладзеных ім на беларускую мову «Непрычасаных думак» **Станіслава Ежы Леца.** Вось адна з найбольш прыкольных: *«Плагіятары могуць спаць спакойна. Муза — жанчына, яна наўрад ці скажа, хто ў яе быў першым».*

А **Вольга Гапеева** друкуе ў сваіх перакладах вершы індыйскага паэта **Мохана Рана,** які ўжо даўно жыве ў Вялікабрытаніі, але піша на мове хіндзі (хоць пазначана, што пераклады В. Гапеевай зроблены з ангельскай мовы). Як піша сам індыйскі паэт: *«на твары маім маска, адмыслова прыдуманая для гэтага верша».*

Да 60-годдзя выдатнага (заўчасна памерлага: 1959–2005) паэта Анатоля Сыса крытык і літаратуразнаўца **Сяргей Кавалёў,** які жыве ў Любліне, узгадвае таленавітага творцу праз прызму шматзначных сведчанняў яго былых таварышаў, сяброў і калегаў, а таксама архіўных дакумент і розных публікацый у друку. Ёсць пэўная спроба аналізу жыцця і творчасці выбітнай асобы як паэта і чалавека. Аўтар як бы папярэджвае нас, што мажліва *«не ўсе літаратуразнаўцы ды і звыклыя чытачы будуць згодныя з такой высокай ацэнкай творчасці Анатоля Сыса, з сакралізацыяй яго неадназначнай асобы і «запісваннем» нашага сучасніка ў пантэон нацыянальных класікаў узроўню Купалы і Багдановіча, прыніжаючы тым самым статус Якуба Коласа, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Максіма Танка, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча і іншых выдатных беларускіх паэтаў ХХ ст. Бясспрэчна аднак, што Анатоль Сыс назаўсёды застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры як выдатны паэт канца ХХ ст., творчы лідэр свайго пакалення, голас нацыянальнага адраджэння ў Беларусі, пісьменнік з нетыповай біяграфіяй і трагічным лёсам».*

Сёння пісьменнік і філасоф **Валянцін Акудовіч** як бы абвяргае свой даўні, але вельмі жывучы сафізм з усім вядомым выразам *«мяне няма»* і ўпарта даводзіць сучаснаму чытачу, што ён быў, ёсць і будзе ў нашым нацыянальным адраджэнскім працэсе, культуры і літаратуры. У публікацыі «"Крыніца" і "Крыніца"» *(з хронікі беларускага інтэлектуала)* ён піша пра нашумелы ў свой час *элітарны* часопіс — пэўней, пра тое, як ён сам бачыць і разумее з сённяшняга пункту погляду гэты літаратурна-культуралагічны і ў нейкай меры філасофскі праект постсавецкага часу, — яго быццё і кананне...

**Лявон Юрэвіч** з Нью-Ёрка піша пра пошукі першакрыніц, якімі, мажліва, карыстаўся У. Караткевіч падчас працы над легендай «Ладдзя Роспачы».

Публіцыстка **Марыя Міцкевіч** публікуе артыкул пра братоў Луцкевічаў і іх грамадска-палітычную і літаратурную сувязь з Якубам Коласам, пра неацэнную значнасць іх асветніцкай працы ў справе адраджэння нацыянальнай нівы жыцця беларускага народа.

Паэт **Васіль Жуковіч** у сваім эсэ цёпла ўспамінае чысты і годны талент паэта і рэдактара Алеся Пісьмянкова.

**Уладзімір Сіўчыкаў** прапануе чытацкай увазе штрыхі да творчага партрэта вядомага скульптара Уладзіміра Слабодчыкава.

Літаратуразнаўца **Алена Лепішава** піша пра эксперыментальную драматургію канца ХХ — пачатку ХХІ стагоддзяў («Пакаленне "нетутэйшых"»).

**Вольга Гапеева** прэзентуе антыраман «не для ўсіх» «Калі прыгледзецца — Марс сіні» Зм. Вішнёва: як аўтарскую шчырасць адносна трагізму авангарда.

**Леанід Галубовіч** рэцэнзуе зборнік хоку Уладзіміра Сцяпана «Шапка».

Традыцыйная рубрыка «Дзеяпіс» з анатацыямі новых кніжных навінак завяршае публікацыі нумара.

Усім прыхільнікам беларускай літаратуры жадаю зацікаўленнага чытання.

**ЛеГал**

# На якія сродкі жывуць брытанскія пісьменнікі?

**Каралеўскае літаратурнае таварыства (Royal Society of Literature) у Вялікабрытаніі правяло даследаванне сярод пісьменнікаў, падчас якога высветлілася, на якія сродкі яны жывуць.**

Аказалася, што больш чым дзве трацiны прафесійных аўтараў у краіне ў мінулым годзе атрымалі па 10 тысяч фунтаў стэрлінгаў даходу.

Каралеўскае літаратурнае таварыства апытала 2,2 тысячы аўтараў. 67% літаратараў у мінулым годзе атрымалі менш, чым £ 10 тысяч даходу (30 тысяч беларускіх рублёў). І гэта ў той час, калі сярэдні гадавы даход брытанца, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, роўны амаль £ 28 тысяч.

Даследаванне паказала, што амаль утрая хутчэй літаратар зможа зарабляць £ 30 тысяч у год ці больш іншым заняткам. Аднак аўтараў, якія маюць такі прыбытак непасрэдна ад сваёй творчасці, атрымалася ўсяго 5%, а вось тых, хто можа столькі зарабляць паралельнай працай –14%.

Вядома, што для паўнавартаснай творчасці неабходна не толькі натхненне і талент, але мноства іншых фактараў. На думку апытаных аўтараў, самай неабходнай падтрымкай падчас літаратурнай працы з'яўляецца адзінота, якую ім могуць даць блізкія. Яе назвалі 80% рэспандэнтаў. Таксама вельмі важная эмацыйная падтрымка, якую згадалі 60% апытаных, і амаль такая ж колькасць — 58% — літаратараў мае патрэбу ў фінансавай падтрымцы.

Самымі распаўсюджанымі цяжкасцямі, з якімі сутыкаюцца пачаткоўцы, былі названы недахоп грашовых сродкаў (68%) і часу (67%). Крыху больш за палову (54%) апытаных аўтараў адзначылі недастатковую ўпэўненасць у сваіх сілах.

Датычна геаграфіі паспяховых англьскіх пісьменнікаў: дзве трацiны з тых, хто зарабляе больш за £ 30 тысяч штогод, жывуць у Лондане альбо на поўдні Туманнага Альбіёна.




# «Гары Потэр» за... 34,5 тысячаў даляраў

**Асобнік першага выдання кнігі Джоан Роўлінг «Гары Потэр і філасофскі камень» «пайшоў з малатка» за 34,5 тысяч даляраў ЗША...**

Пра гэта паведаміў тэлеканал CNN. Таргі праводзіліся аўкцыённым домам «Hansons».

Адметна, што прададзенае выданне мае дзве рэдакцыйныя памылкі, а пры першасным продажы ў 1997 годзе кошт кнігі быў усяго 1,20$.

Кніга ляжала ў шафе каля 20 гадоў, пасля чаго яе ўладальніца вырашыла сабраць грашовыя сродкі для рамонту кватэры. Яна запрасіла спецыяліста, які ацаніў тры скрынкі з кнігамі, сярод якіх было і першае выданне «Гары Потэра».

# Мішэль Абама і Нобелеўская прэмія?

Упачатку гэтага месяца ў некаторых амерыканскіх выданнях было абвешчана, што былая першая лэдзі Злучаных Штатаў Мішэль Абама стане лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

У прыватнасці, 4 верасня на сайце «Taters Gonna Tate» быў апублікаваны артыкул пра тое, што былая першая лэдзі Мішэль Абама будзе абвешчаная лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры. Яе муж, былы прэзідэнт Злучаных Штатаў Барак Абама, быў ганараваны Нобелеўскай прэміяй міру ў 2009 годзе.

У паведамленні гаворыцца: «Падобна, што камітэт Нобелеўскай прэміі неабыякавы да Абамы... Былая першая лэдзі далучыцца да свайго мужа Барака Абамы ў якасці ўладальніцы прэстыжнай прэміі»...

# Невядомыя творы Марсэля Пруста

**Прыхільнікі Марсэля Пруста атрымаюць яго новую кнігу твораў — амаль праз 100 гадоў пасля смерці французскага пісьменніка.**



Французскае выдавецтва «de Fallois» абвясціла, што гэтай восенню з'явяцца дзевяць раней не выдадзеных навэл і апавяданняў літаратурнага майстра і аўтара эпічнага сямітомнага рамана «У пошуках страчанага часу», якія адносяцца да ранняй творчасці вядомага пісьменніка.

Як паведаміла Agence France Presse, Пруст меў намер уключыць іх у сваю першую кнігу — зборнік вершаў у прозе і навэл, які быў упершыню апублікаваны ў 1896 годзе, аднак пры падрыхтоўцы выдання ён з невядомай прычыны зняў тыя 9 твораў.

Рукапісы адшукаў заснавальнік выдавецтва Бернар дэ Фаллуа, які памёр у канцы мінулага года. Іх выдадуць пад агульнай назвай «Таямнічы карэспандэнт ды іншыя нявыдадзеныя навэлы». Кніга на 180 старонак будзе апублікавана 9 кастрычніка і ўключацьме факсіміле рукапісаў Пруста.

Тэксты, паводле выказвання рэдактараў выдавецтва, «маюць намёкі на будучы стыль Пруста, у тым ліку і дзіўныя метафары, дзіўныя камедыйныя ідэі».

Гэта не адзіны рукапіс Пруста, знойдзены Бернарам дэ Фаллуа, адным з вядучых экспертаў па творчасці Пруста. Разам з Андрэ Маруа ён выявіў, а потым ідэнтыфікаваў і падрыхтаваў да выдання 900-старонкавы раман «Жан Санта», напісаны Прустам у 1896–1899 гадах і пакінуты пры жыцці пісьменніка неапублікаваным. Сярод літаратуразнаўцаў да гэтага часу няма адзінага меркавання, у якім парадку павінны чытацца часткі рамана. Выданні 1952 і 1971 гадоў адрозніваюцца адзін ад аднаго.

# «Даўлатаўскі чарачны ход»

**У Пецярбургу ў гонар дня памяці вядомага пісьменніка і журналіста Сяргея Даўлатава, у так званы «Дзень Д-89» (творца нарадзіўся 3 верасня), зладзілі «чарачны ход».**




Фестываль Даўлатава і яго часу «Дзень Д-89» адбыўся ўжо ў трэці раз і быў прысвечаны 30-гадоваму юбілею вяртання пісьменніка на радзіму (дзякуючы з'яўленню яго твораў у СССР). «Ідэолагам» літаратурнага свята стаў пісьменнік Леў Лур'е.

У праграме было звыш 40 падзей: канцэрты, лекцыі, кінапаказы, майстар-класы, экскурсіі, выставы і вулічнае свята.

На выхадныя бары, кафэ, закусачныя і рэстараны Піцера ўвялі ў меню спецыяльны кактэйль «Сярожа». Арганізатары мерапрыемства распавялі: «Паколькі акцыя "Даўлатаўскі чарачны ход" праводзілася ў межах фестывалю, у дні свята гэтыя напоі налівалі ўсяго за 100 рублёў (расійскіх) любому, хто сказаў кодавую фразу "Я п'ю за Даўлатава!". У акцыі прынялі ўдзел больш за 10 «піцейных». Акрамя гэтага, напярэдадні «Дня Д» у некаторых барах і рэстаранах з'явілася асобнае "Даўлатаўскае меню"».

# Джоан Роўлінг-фундатар

**Сусветна вядомая брытанская пісьменніца Джоан Роўлінг, аўтар кніг пра Гары Потэра, зрабіла ахвяраванне для даследаванняў лячэння рассеянага склерозу ў цэнтры, названым у гонар яе памерлай маці — Эн Роўлінг.**

Ахвяраванне ў памеры 18,8 мільёна даляраў (15,3 мільёна фунтаў стэрлінгаў) будзе выкарыстана для будаўніцтва новых аб'ектаў у даследчым цэнтры, размешчаным у Эдынбургскім універсітэце ў Шатландыі. Маці папулярнай пісьменніцы пакутавала ад гэтай хваробы і памерла ва ўзросце 45 гадоў.

Яшчэ адно ахвяраванне ў памеры 15,4 мільёна даляраў Роўлінг зрабіла ў 2010 годзе, адкрыўшы Клініку рэгенератыўнай неўралогіі Эн Роўлінг ва ўніверсітэце.

Напісаны больш за 20 гадоў таму маці-адзіночкай кнігі пра Гары Потэра і яго сяброў у Хогвартсе, якія спачатку ні адно вялікае выдавецтва не бралася друкаваць, сталі сусветнай сенсацыяй. З таго часу апроч асноўных сямі кніг патэрыяны былі выпушчаны кінакарціны і кнігі, пастаўленыя тэатральныя спектаклі, адкрыліся паркі забаў і выставы. Паводле інфармацыі LA Times са спасылкай на дадзеныя CBSNews, 9 гадоў таму сумарныя активы Джоан Роўлінг ацэньваліся ў 1 мільярд даляраў.

# Польшча і электронныя кнігі

**Варшаўскае зніжэнне падаткаў на лічбавыя кнігі пачне дзейнічаць з 1 лістапада і стане доўгачаканым выраўноўваннем падаткаабкладання, якое дазволена Брусэлем для папяровых і электронных кніг.**

Паводле гэтага закона, які падпісаў прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда, электронныя кнігі будуць абкладацца падаткам у 5%, што з'яўляецца істотным зніжэннем з цяперашняй стаўкі ў 23%. На кнігі на дысках, касетах і іншых носьбітах таксама распаўсюджваецца 5%-ная стаўка.

Ева Шміт-Белкарц, прэзідэнт праўлення «Empik», найбуйнейшай у Польшчы сеткі кнігагандляроў, адзначыла, што гэтая падзея будзе вітацца як чытачамі, так і выдаўцамі: «Гэта крок наперад у дачыненні да апрацоўкі абодвух фарматаў кніг, паколькі яны адчувалі дыскрымінацыю з-за больш высокай стаўкі падатку. Стары курс, безумоўна, не быў прымальны для выдаўцоў, бо ён рабіў публікацыю электронных кніг менш выгаднай».

Шміт-Белкарц распавяла, што ў «Empik» папулярнасць электронных кніг расце сярод спажыўцоў, прычым продаж павялічваецца на 11-19% у год.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы novostiliteratury.ru, CNN, «Афиша Daily», «The Associated Press», «Taters Gonna Tate» і telegraf.com.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Украіна: «Шчыт Еўропы» альбо «Русь-канфедэрацыя»?



Алесь КІРКЕВІЧ

**З пачатку вайны ў нашых паўднёвых суседзяў мінула ўжо больш за пяць гадоў. За гэты час Украіна заплаціла вельмі дарагі кошт. Але сітуацыя, што разгортваецца ўсярэдзіне і вакол краіны цяпер, выклікае не тое каб расчараванне, — здзіўленне.**

Украінскае грамадства ніколі не было маналітным, а прыгожае ўражанне ад патрыятычнага пад'ёму ў 2014–2015 гадах хутка пачало размывацца. Найменшую частку ўкраінцаў зараз складаюць актыўныя патрыёты: добраахвотнікі, валанцёры і актывісты, дзякуючы якім Украіна выстаяла на самым пачатку. Другая, значна большая катэгорыя — актыўныя і па-еўрапейску настроеныя грамадзяне, гатовыя найперш для сябе рабіць жыццё лепшым: бізнесоўцы, офісныя супрацоўнікі і гэтак далей.

Трэцяя ж катэгорыя, самая вялікая і неабсяжная — грамадзяне, якім нічога не трэба, акрамя сваіх выгодаў, за якія яны, зрэшты, і змагацца не гатовыя. Гэта бюджэтнікі альбо наёмныя супрацоўнікі з невялікімі заробкамі, якія спрабуюць не заўважаць вайны, а пры магчымасці — адматаць усё назад. Некаторыя ўкраінскія эксперты жартуюць, што гэтыя людзі, ані дня не быўшы на вайне, ужо ад яе «стаміліся», а магчыма — ужо нарадзіліся «стомленымі». Можна нават канстатаваць, што сёння перамагае візія акурат трэцяй катэгорыі, бо Уладзімір Зяленскі, найперш, іх прадстаўнік і прэзідэнт.

### Забыцца на бізнес-логіку ды «палюбіць вайну»

Па ўсім бачна, што сам Зяленскі не разумее, не ведае, не любіць вайну. Да ўлады ён прыйшоў з бізнес-логікай, калі можна дамаўляцца, пралічваць выгады ды страты суперніка, але бачна, што ў дадзеным выпадку гаворка зусім не пра тое. Як казаў Кіплінг выпускнікам аднаго з англійскіх універсітэтаў: «Некалі вы сустрэнецеся з людзьмі, з якімі нельга будзе дамовіцца». Пісьменнік меў на ўвазе народы і плямёны з ускраінаў Брытанскай імперыі. Тут жа гаворка пра Крэмль, які акурат у стане вайны адчуваў і адчувае сябе камфортна — як рыба ў вадзе.

Зяленскі ж, на жаль, гэтага не разумее, хаця паводле Канстытуцыі і з'яўляецца галоўнакамандуючым. Гэтай пасады ён нават дэлегаваць нікому не можа: такі закон. У сённяшняй сітуацыі ён не толькі кіраўнік выканаўчай улады, але і кіраўнік арміі ў ваюючай краіне. Яго папярэдніку, Пятру Парашэнку, які напачатку таксама спрабаваў карыстацца бізнес-логікай, давялося змяніцца, палюбіць армію — і ўрэшце пабудаваць менавіта на ёй сваю палітычную рыторыку. Ці зможа гэтак жа змяніцца Зяленскі?

Вайна, у выпадку з Данбасам, можа мець толькі адзін аптымістычны канец: калі ўкраінскія танкі дойдуць да старой мяжы, вызваліўшы свае тэрыторыі. Кожная іншая сітуацыя — гэта замарожаны на гады канфлікт ды стварэнне чарговай «шэрай зоны», якія так любіць генераваць Расія. Яскравы прыклад — Прыднястроўе, якое падпісала з Расіяй купу дакументаў, пераўтварыўшыся фактычна ў частку РФ на тэрыторыі Малдовы. І тут няма гаворкі пра гістарычную справядлівасць, мову ці правы мясцовага насельніцтва. Крэмль цікавіць толькі стварэнне болевых кропак на тэрыторыі іншых дзяржаў, на якія можна пры патрэбе ціснуць.

Ці мogуць акупаваныя тэрыторыі быць выгаднымі для Украіны? Тэарэтычна — так. Для кансалідацыі насельніцтва. Роўна таксама, як у міжваеннай Літве разглядалася тэма з Вільняй. У кожнай школе тады віселі карцінкі з «Гарой Гедыміна», дзеці чыталі вершы пра «Вільнюс», кожны ведаў, што Вільня — «літоўская», і рана ці позна павінна быць вернутая. Роўна таксама на бліжэйшае дзесяцігоддзе ўкраінцы могуць увесці «Дзень Крыму» альбо «Дзень татар», тыражаваць нацыянальную крыўду як спосаб мабілізацыі грамадства.

### Прагматычны Захад і змена рыторыкі ў Расіі

Міжнароднае становішча вакол Украіны з 2014–2015 гадоў таксама моцна змянілася. Прэзідэнт ЗША патрабуе вярнуць Расію ў колішнюю «Вялікую васьмёрку», гаворыць пра грошы і прагматычныя стасункі паміж дзяржавамі. Не важна нават, што гэта — папулізм, асабістая пазіцыя альбо фінансавы складнік. Для Украіны спыненне міжнароднай падтрымкі ды вайсковай дапамогі з боку ЗША могуць быць вельмі балючымі.

З боку Еўропы мы таксама назіраем нешта падобнае. Унутраныя праблемы паралельна з ростам нацыяналізму адцягваюць увагу ад Украіны, а шырэй — ад сітуацыі на Усходзе. Красамоўным прыкладам ёсць тая ж Польшча. Да апошняга часу гэта была ці не самая монаэтнічная дзяржава ў Еўропе (больш за 90% — палякі), але зараз туды масава едуць і беларусы, і тыя ж украінцы. Гэта, у сваю чаргу, выклікае незадаволенасць і скепсіс у дачыненні да Украіны, падмацаваныя старымі гістарычнымі канфліктамі. Зноў жа, усё гэта — на карысць Расіі.

Крамлю ж застаецца спакойна чакаць, і нават дэманстраваць значна больш лагодную рыторыку ў дачыненні да Украіны, чым раней. Гэта і славутая спроба «тэлемосту», і ўкіды наконт сустрэчы Зяленскага з Пуціным, і абмен палоннымі. Мы бачым змененую рыторыку, якая мае на мэце супакоіць і Еўропу, і ЗША, і, урэшце, саміх украінцаў. Дакладней, тую частку ўкраінцаў, якія хочуць пра ўсё забыцца і адматаць сітуацыю на стан 2013-га.

### «Загадкавая руская душа»

У самой Расіі мы назіраем нарастанне пратэсту: нацгвардзейцам даводзіцца махаць дубінкамі ўжо не толькі ў Маскве ды Пецярбургу, але і, напрыклад, у Бураціі. Сітуацыя ў нейкім сэнсе класічная: шляху няма, але ёсць адмаўленне рэчаіснасці, якая ў іншых гістарычных рэаліях вяла да таго самага апетага класікамі «рускага бунту». Аляксей Навальны, як ліберал, да бунту наўпрост не заклікае, але ў сваіх расследаваннях паказвае поўнае бяспраўе адных і беспакаранасць іншых, чым падводзіць гледача толькі да адной думкі: рэжым нелегітымны і нежыццяздольны, таму рэфармаваны быць не можа — толькі знесены народным гневам.

Але і тут мы бачым асаблівасці «загадкавай рускай душы». Не будучы зарэгістраванымі на выбарах у якасці кандыдатаў, прыхільнікі Навальнага заклікаюць галасаваць за зарэгістраваных апанентаў «Адзінай Расіі», то-бок за... камуністаў. Аналітыкі ў РФ нават жартуюць пра новы палітычны феномен: «Зювальны» — «гібрыд» Навальнага з Зюганавым. Магчыма, у гэтым і ёсць цымус расійскай палітычнай гісторыі: зрабіўшы кола, расійскі ліберал вяртаецца да радыкальна-левых ідэяў.

У Расіі можна назіраць і іншыя цікавыя з'явы, сведчанні эпохі. Напрыклад, постаць Ігара Гіркіна, аднаго з ініцыятараў «Рускай вясны» на Данбасе, які сёння жыве сабе спакойна ў Расіі ды... крытыкуе Пуціна. За нерашучасць, за тое, што не даў загад ісці на Адэсу і Кіеў, за тое, што «прагнуўся» перад Захадам. Украінскім спецслужбам яго нават выкрадаць ці забіваць зараз не трэба, бо жывы Гіркін у Расіі адыгрывае больш дэструктыўную для Крамля ролю, чым мёртвы.

Шмат хто з прадстаўнікоў радыкальнай публікі ў РФ наўпрост чакае «крывавай нядзелі» — расстрэлу ці нейкага брутальнага разгону дэманстрацыі, які павінен стаць кропкай невяртання для кіруючага рэжыму. А далей ужо — барыкады, забастоўкі, аналогіі з 1905-м ці 1993-м... І тут акурат Украіна магла б адыграць вельмі цікавую, а можа і лёсавызначальную ролю, распрацаваўшы тактыку не абарончых, а наступальных дзеянняў.

### «Шчыт Еўропы», які не патрэбны Еўропе

Наступальныя дзеянні — гэта не пра дыверсіі ды, крый Божа, узарваныя шматпавярховікі, а пра ідэалогію. Украіна магла б зрабіць стратэгічны крок — працягнуць расійскаму грамадству руку з пасылам: маўляў, мы з вамі, але ў вас ёсць праблема — імперыя. І пакуль вы яе не вырашыце, то будзеце хадзіць па зачараваным коле: манархісты — камуністы — рэвалюцыя — тэрор — лібералы — манархісты... і зноў. За гэты час імперыя будзе «сохнуць», нафта абясцэньвацца, рускіх у імперыі будзе ўсё меней, каўказцаў і буратаў — болей, а пасля прыйдзе Кітай — і ўсё скончыцца. Гэтым часам свет будзе развівацца, нарошчваць тэхналогіі, лётаць на Марс. Выбар ёсць.

І тут вельмі важная пазіцыя і пасыл самой Украіны. Таго ж Парашэнку з тактыкай «Шчыта Еўропы» журналісты параўноўвалі з гогалеўскім Хамой Брутам, які крэсліў вакол сябе кола ды хаваў вочы ад Вія. Але аказалася, што Еўропе той шчыт не вельмі і патрэбны: цікавей гандляваць з Расіяй, думаць пра праблемы бежанцаў з Сірыі, а не пра вайну на Данбасе. Ролю падобнага шчыта ў часы Бітвы пад Оршай ужо брала на сябе ВКЛ, у той час як Масква гандлявала і вяла перамовы з еўрапейскімі манаршымі дамамі. З імі ж Расія ўрэшце і падзяліла праз 300 гадоў Рэч Паспалітую.

### «Русь-канфедэрацыя» як новы варыянт Міжмор'я

Каб пазбегнуць падобнай сумнай долі, Украіна мае толькі адзін шанец: выкарыстаць ідэалогію Русі. Фактычна — абвясціць сябе адзінай сапраўднай спадчынніцай кіеўскіх князёў, вырваць штандар гісторыі і веры з рук маскоўскіх ідэолагаў. Урэшце, Феафан Пракаповіч з Магілянскай акадэміі ў Кіеве калісьці ўсё гэта прыдумаў ды «падарыў» маскавітам, зараз жа — час вяртаць усё на свае месцы. Цікава, дарэчы, што галасы пра афіцыйнае перайменаванне Расіі ў «Масковію» ва Украіне ўжо гучаць.

Якія профіты будзе мець Украіна з ідэалогіі Русі? Па-першае, расставіць усё на свае месцы ў сваёй краіне, без перавагі ўсходнікаў ці заходнікаў. Па-другое, выбудуе новую сістэму Міжмор'я (накшталт Балта-Чарнаморскага саюза, пра які казалі яшчэ ў 1990-я гады) з цэнтрам прыцягнення ў Кіеве. Па-трэцяе, створыць ідэалагічны канцэпт, што будзе супрацьстаяць канцэпту «рускага міра». Урэшце, пяройдзе ад абароны ў наступ.

Магчыма, усё гэта і не паўплывае на лёсы свету, дзе бітву за мадэлі будучыні чалавецтва вядуць ЗША і Кітай. Але ў нашым рэгіёне стварэнне яшчэ аднаго цэнтру сілы акурат магло б ураўнаважыць сітуацыю. Брусель падобным цэнтрам быць не вельмі хоча — з прагматычных прычынаў. Кіеў жа сёння пакуль наўпрост не гатовы браць адказнасць за каго-кольвек, апроч сябе. Аднак, хто ведае, магчыма, ужо заўтра ідэя і перспектыва «Русі-канфедэрацыі» са сталіцай у Кіеве стане не менш рэальнай за Еўразійскі саюз ды розныя фантазіі на тэму канфедэрацыі з боку Масквы.



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Паспець да 23-й гадзіны

Парламент Узбекістана зацвердзіў палажэнне, якое рэгламентуе правядзенне рытуалаў, у тым ліку вяселляў. Пышныя вяселлі — біч узбекскага грамадства. Для прэстыжу многія ўзбекі пазычаюць на вяселле грошы, і каб расплаціцца, выязджаюць на заробкі. Папярэднія спробы ўлады прымусіць узбекаў быць больш сціплымі, не спрацавалі. Людзі працягнулі спаборнічаць у пышнасці цырымоніі і колькасці выдаткаваных на свята грошай. І вось улады чарговым разам імкнуцца спыніць марнатраўства грамадзян. Вяселлі, згодна з новымі правіламі, могуць працягвацца не больш за адзін дзень (06:00 да 23:00). Колькасць гасцей не павінна перавышаць 200 чалавек. У вясельным картэжы павінна быць не больш за тры машыны. І, нарэшце, фішка новага палажэння — уводзіцца пасада «вясельны ўчастковы». Гэта прадстаўнік мясцовага самакіравання, які павінен пракантраляваць, каб банкет не супярэчыў нацыянальным традыцыям, прасачыць за колькасцю машын у картэжы, пералічыць гасцей і, нарэшце, у 23 гадзіны ўсіх разагнаць. Як усё гэта будзе выглядаць на практыцы, цяжка сказаць. Тым часам людзі адрэагавалі на новы закон жартамі. Напрыклад, на форумах сустракаюцца каментары кшталту: «Забылі ўдакладніць колькасць калорый, дапушчальныя на чалавека, і норму руху цела ў гадзіну, каб не парушаць працоўны графік на карысць дзяржавы на наступны дзень».

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ЗША. Бомбай па ўрагане

Смех выклікала нядаўняя прапанова Дональда Трампа бамбардзіраваць ураганы атамнымі фугасамі. Між тым, як высвятляецца, ідэя не новая і, больш за тое, у свой час успрымалася дастаткова сур'ёзна. Пачаць, аднак, трэба з таго, што ўраганы вельмі часта атакуюць Фларыду, дзе знаходзяцца вілы багатых амерыканцаў. У 1935 годзе ўраганы так дасталі жыхароў, што багацеі пачалі патрабаваць ад Вашынгтона адпраўкі ў зону фарміравання ўраганаў вайсковай авіяцыі. У выніку план праваліўся. Затое пра яго ўзгадалі ў 1945-м, адразу пасля бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі. Мэр горада Маямі адразу напісаў ліст на адрас прэзідэнта ды заклікаў яго ўжыць бомбы супраць цыклонаў. Апошні раз падобны праект агучвалі супрацоўнікі адной з метэаралагічных станцый у 1959 годзе. Тое, што ніводнага разу ідэю не падтрымалі, тлумачыцца вельмі проста. Навукоўцы пагаджаюцца: выбух атамнай бомбы можа нагрэць ваду, што разбурыць механізм фарміравання цыклона. Аднак наступствы радыяцыі могуць быць значна горшыя за нават вельмі моцны ўраган. З іншага боку, хутчэй за ўсё, да гэтай ідэі яшчэ будуць неаднаразова вяртацца.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### РАСІЯ. Перайменаваць Крым

На ўзроўні крымскіх кіраўнікоў агучваецца ідэя новай назвы для рэспублікі. Прапануецца называць яе «Крым-Таўрыда». Таўрыда — гэта грэчаская назва паўвострава, якая ўжывалася вельмі доўга і ў тым ліку ў часы Расійскай Імперыі. Акрамя таго, у Расіі ў цэлым шэрагу суб'ектаў федэрацыі ёсць падвоеныя назвы: Якуція (Саха), Паўночная Асеція (Аланія) і гэтак далей. За кошт дадатковай назвы як бы асправаецца тэзіс пра тое, што крымскія татары — адзіны карэнны народ Крыму. Праўда, у праекта «Таўрыды» хапае і апанентаў. Незразумела, як успрымуць рэформу мясцовыя крымскія татары, лаяльнасць якіх вельмі важная для Масквы. Ці не паўплывае новая назва на турыстычную прывабнасць? Слова «Крым» ведае ўвесь свет, а пра «Таўрыду» давядзецца доўга распавядаць і тлумачыць, што гэта такое. Між тым, у сеціве пішуць, што на самай справе ідэя Таўрыды нарадзілася ў нетрах адміністрацыі прэзідэнта Расіі і вельмі блізкая да рэалізацыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ЗША. Самы непаліткарэктны фільм

Сапраўдны шок у прагрэсіўнай грамадскасці выклікала чарговая, пятая серыя прыгодаў Рэмба. Экс-ветэран В'етнама зноў наводзіць справядлівасць брутальнымі сродкамі, і яго ролю традыцыйна выканаў акцёр Сільвестр Сталонэ. Гэтым разам Рэмба разбіраецца з бандай мексіканцаў, якія нейкім чынам парушылі пастараль на ферме ў Арызоне. Як заўжды, на экране хапае гвалту і стрэлаў. Аднак аглядальнікі здолелі пабачыць і іншыя жудасныя рэчы. Па-першае, прапаганду ксенафобіі. У фільме паслядоўна праводзіцца ідэя: амерыканкам не варта сябраваць з мексіканцамі, нічым добрым гэта не скончыцца. Сама Мексіка выглядае як агідная брудная краіна, што патанае ў смецці, карупцыі і крымінале. У гэтым плане «Рэмба–5» можна разглядаць як рэкламу сцяны на мяжы з Мексікай. Твор вельмі патрыярхальны, паколькі даводзіць ідэю — добрым дзяўчатам варта слухацца дарослага дасведчанага мужчыну, калі яны не хочуць патрапіць у сур'ёзныя непрыемнасці. «Сексуальна-неўратычная фантазія старога», — робіць высновы адна з еўрапейскіх газет. З іншага боку, што яшчэ можна было чакаць ад Сільвестра Сталонэ — аднаго з нешматлікіх галівудскіх актораў, які свядома падтрымлівае Трампа.

**Паводле брытанскай прэсы**



Фота www.arcipelagoadriatico.it

# Fiume або смерць!

Алег НОВІКАЎ

**Нягледзячы на шчыльнасць цяперашняй міжнароднай палітычнай павесткі, проста нельга прайсці міма сотай гадавіны Impresa di Fiume — вар'яцкай спробы футурыстаў стварыць сваю дзяржаву.**

«Фазан красив, ума ни унции. Фиуме спьяну взял д'Анунцио», — такой вершаваны імправізаваны адрэагаваў Уладзімір Маякоўскі ў верасні 1919-га на дзіўныя навіны з Адрыятыкі. Там яго калега, паэт-футурыст Габрыэль д'Анунцыа са сваім атрадам захапіў горад Фіуме, прыналежнасць якога пасля Першай сусветнай вайны аспрэчвалі шэраг дзяржаваў.

Пакуль дыпламаты сварыліся, уладу ў горадзе нечакана для ўсіх захапіла дзіўная кампанія футурыстаў, нацыяналістаў, анархістаў, якіх сам паэт называў «жменькай містычных творцаў, заклікаcаных пасеяць у свеце насенне новай сілы, што прарасце ўсходамі адчайных мэтаў». Фіуме, паводле Д'Анунцыа, павінен быў стаць «цудоўнай выспай у моры сумнай камерцыі». Адсюль і лозунг «легіянераў» (так называла сябе новая ўлада): «Фіуме або смерць!»

Рэалізоўваць апісаную вышэй праграму д'Анунцыа і кампанія пачалі адразу пасля захопу ўлады. Жыццё ў Фіуме ператварылася ў шэраг бясконцых святаў і карнавалаў з наркотыкамі і алкаголем, якія паступалі ў горад па лініі «Чырвонага крыжа». Кожны трэці дзень у атмасферы свабоднай любові праходзіў парад кветак, удзельнікі якога чамусьці абіралі адзенне супрацьлеглага полу.

Перманентны характар святаў на самай справе меў канцэптуальны характар. Футурысты лічылі, што асновай старога буржуазнага грамадства з'яўляецца пасіўнае сузіранне, а не актыўны лад жыцця. Праз удзел у рознага кшталту маршах, танцах і карнавалах планавалася змяніць прыроду чалавека.

З часам была прынятая канстытуцыя Рэспублікі Фіуме, што патрабавала ад кожнага грамадзяніна займацца музыкай, якая, у сваю чаргу, абвяшчалася фундаментальным прынцыпам новай дзяржавы. Адначасова канстытуцыя забараняла ў Фіуме любы гвалт і гарантавала поўную свабоду. Найбольш цяжкім пакараннем было выгнанне за межы рэспублікі. Каб не ўжываць гвалт, быў прыдуманы такі прыём, як прымус праціўніка выпіць вялікую колькасць касторавага алею — вельмі эфектыўнага слабіцельнага. Фізічныя наступствы ўжывання алею прыніжалі асобу.

Пры ўсіх прыколах фіумская канстытуцыя з'яўлялася першай спробай стварыць карпаратыўную мадэль дзяржавы. Кожны, у залежнасці ад роду заняткаў, павінен быў быць сябрам адной з дзесяці карпарацый, дэпутаты якіх складалі адну з заканадаўчых палатаў.

А вось абкатаць тую грамадскую мадэль комплексна не паспелі. Бліжэй да пачатку зімы футурысты змарнавалі ўсю гарадскую казну на святы і маршы. У горадзе панаваў хаос і бытавая злачыннасць. Давялося нават загадаць усім бацькам адправіць сваіх дзяцей з гораду.

У такой крытычнай сітуацыі д'Анунцыа аддаў загад перайсці да пірацтва. Былі створаныя невялікія мабільныя марскія пірацкія атрады, што захоплівалі караблі, якія праходзілі міма. Таксама паўстаў дасюль не вядомы ў гісторыі від авіяцыйнага пірацтва. Фіумскія карсары рабілі рэйды ўглыб Італіі, дзе рабавалі багатых землеўладальнікаў. Пірацтва, як ні дзіўна, дапамагло стабілізаваць прадуктовую сітуацыю. У верасні 1920-га Рэспубліка Фіуме нават адсвяткавала сваю гадавіну.

Зрэшты, гэты карнавал не мог працягвацца вечна. У тым ліку таму, што Фіуме стала сапраўдным прытонам для ўсіх радыкалаў рэгіёну, якія марылі пра экспансію Рэспублікі Фіуме. «Апошні акт драмы Фіуме павінен прагучаць у Рыме», — казаў адзін з яе лідараў. Пад канец 1920 года вядучыя дзяржавы Еўропы нарэшце дасягнулі кампрамісу наконт будучыні Фіуме, які павінен быў стаць вольным горадам. Хутка тут з'явіліся італьянскія войскі і настойліва, пад раскаты артылерыйскай кананады, папрасілі кампанію футурыстаў пакінуць стратэгічна важны населены пункт. Рэвалюцыянеры пагадзіліся на эвакуацыю. На гэтым эксперымент скончыўся.

Спадчына Фіуме вельмі спрэчная. Некаторыя бачаць у ёй суцэльную псіхадэліку і рамантычны лад адчайных паэтаў-піратаў. Іншыя — інкубатар фашызму. Стыль італьянскіх фашыстаў Мусаліні пазычыў у Фіуме: масавыя шэсці ў чорных кашулях, прывітанне старажытным рымскім салютам — паднятай рукой, дыялог з натоўпам, рытуалы і сцэнічныя трукі. З іншага боку, нельга забываць, што спачатку камуністы, у тым ліку Ленін і Грамшы, віталі выхадку футурыстаў. Шмат анархістаў і камуністаў, якія ўдзельнічалі ў фіумскім эксперыменце, ужо праз пару гадоў змагаліся з Мусаліні.

Спадчына Фіуме мае і яшчэ адзін акцэнт. Пасля вайны ўсе італьянскія рэзідэнты гораду былі прымусова выгнаныя югаславамі на гістарычную радзіму, а сам Фіуме атрымаў назву Рыека. Нашчадкі тых італьянцаў, а таксама італьянскія правыя разглядаюць учынкі д'Анунцыа выключна як гераічную старонку барацьбы за Італію ў яе этнічных межах. Гэта вельмі непакоіць Харватыю, якой належыць Рыека. Урад Харватыі 13 верасня нават выказаў пратэст супраць адкрыцця помніку д'Анунцыа ў італьянскім Трыесце, бо, відавочна, пабачыў у гэтым праслаўленне фіумскай авантуры паэта.

# Культ асобы і сабакі

Алег НОВІКАЎ

**Выхад кнігі кіраўніка Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава «Туркменскі алабай», прысвечанай мясцовай пародзе сабакі, стаў падзеяй агульнанацыянальнага маштабу. Урачыстасці з гэтай нагоды працягваліся ў краіне практычна тыдзень.**

Утраўні гэтага года дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва Туркменістана паведаміла прыемную навіну: Гурбангулы Бердымухамедаў распачаў працу над новай кнігай. Гэтым разам яго літаратурны геній вырашыў раскрыць феномен сабакаў пароды алабай, гістарычна распаўсюджанай сярод сярэднеазіяцкіх народаў. Сабакі гэтай пароды гадуюцца галоўным чынам чабанамі для аховы статку.

На напісанне кнігі туркменскаму лідару спатрэбілася два месяцы і 18 дзён. Пра тое, што праца завершаная, стала вядома яшчэ 4 жніўня. Нарэшце 13 верасня на пасяджэнні ўрада краіны Бердымухамедаў падараваў кнігу міністрам і прачытаў ім уласны верш пра сабак. Пісьменнік папрасіў прысутных чыноўнікаў уважліва прачытаць твор і сумленна распавесці пра яго недахопы.

Кніга, мяркуючы па першых рэцэнзіях, змяшчае факты пра станоўчыя рысы алабаеў, гістарычныя дадзеныя, археалагічныя і этнаграфічныя звесткі. Але ёсць на яе старонках і вельмі арыгінальныя блокі. «Культурны феномен алабая стаіць у адным шэрагу з такімі нацыянальнымі сімваламі, як ахалтэкінскі конь, дыван або дыня», — разважае Аркадаг (мянушка туркменскага гаранта). Цікавым з'яўляецца тэзіс аўтара пра тое, што старажытныя туркмены прылічвалі сабак-алабаеў да класа «ваяроў» і хавалі іх з усімі пашанамі — як герояў.

Таксама сцвярджаецца, што ў часы СССР алабай стаў сапраўдным рэсурсам Туркменіі. Наймацнейшая сабака свету павінна была стаць галоўным абаронцам жывёл у савецкіх калгасах. Кожнаму калгасу ў Туркменістане «зверху» спускалі разнарадкі на адпраўку лепшых туркменскіх алабаеў у Расію, Украіну, Беларусь, на Каўказ. Алабаі вывозіліся з Туркменістана цэлымі эшалонамі. Часам гэта выклікала сапраўдныя асабістыя трагедыі: людзі не хацелі аддаваць сваіх улюбёнцаў, аднак іх пратэсты ігнараваліся.

Афіцыёз вітаў кніжную навінку ды адзначаў яе актуальнасць. «У апошнія гады цікавасць да алабая значна ўзмацнілася і ў свеце», — пішуць дзяржаўныя СМІ. Паводле іх, «твор пра сабакаў будзе мець вялікае значэнне ў далейшай папулярызацыі ў свеце нацыянальнай спадчыны туркменскага народа ў цэлым». З гэтай мэтай, дарэчы, былі надрукаваныя руская і англійская версіі кнігі.

Літаральна на наступны дзень з творам пачалі знаёміць простых туркменаў. Праходзіла гэта ў рамках шматлікіх прэзентацый. Спачатку кнігу прадставілі парламентарам, чальцам міністэрстваў і ведамстваў. Затым прыйшла чарга актыву грамадскіх арганізацый, навукоўцам і прадстаўнікам працоўных калектываў. Мерапрыемствы не абышліся без урачыстых канцэртаў, на якіх у тым ліку выканалі песні на вершы правадыра. Асобна гучала песня «Туркменскі алабай», напісаная на верш гаранта. Мясцовыя музыканты прыдумалі пад яе музычную дарожку ўсяго за адзін (!) дзень.

Падчас прэзентацый выступоўцы адкрывалі самыя незвычайныя якасці сабакі. Так, адкрываючы спецыяльны гадавальнік для сабакаў гэтай пароды, нейкі губернатар заявіў, што алабай на пэўным этапе гісторыі стаў фактычна сябрам і родным туркмена. А навукоўцы, якія прымалі ўдзел ва ўрачыстасцях, высветлілі, што праз тэму сабакі «раскрываецца філасофія жыцця туркменаў, непарыўна звязаная з роднай прыродай, спасцiжэннем глыбінных асноў быцця».

Што да рэакцыі звычайных туркменаў на культ сабакі, то яна, на жаль, не вядомая. Праз фактычную забарону ў краіне інтэрнэту, звонку цяжка маніторыць настрої суайчыннікаў Бердымухамедава. Адзіны канал інфармацыі на гэты конт — каментары туркменаў, якія па розных прычынах знаходзяцца па-за межамі краіны. Як правіла, яны іранічныя. Прагназуюць, што калі кіраўнік туркменаў уласнаручна будзе ткаць дыван, то святкаванні ў краіне расцягнуцца на месяц. Спачуваюць таксама школьнікам, якіх, хутчэй за ўсё, прымусяць вучыць верш пра алабая. А вось каментатары Расіі і Беларусі баяцца, што туркменскі прыклад будзе заразлівым для кіраўнікоў іншых дзяржаў СНД.

У прынцыпе, маштабныя ўшанаванні сабакі — не самая змрочная для туркменаў падзея. Хаця б таму, што з-за алабая туркменскіх бюджэтнікаў не прымусілі адлічыць частку свайго заробку на карысць дзяржавы. Праслаўленне алабая не запатрабавала ўдзелу ў масоўках або нейкіх цырымоніях, падрыхтоўка да якіх патрабуе шматлікіх рэпетыцый. Але раскашэліцца туркменам, напэўна, усё ж такі давядзецца. Дзяржаўнае інфармацыйнае агенцтва Туркменістана дало ясна зразумець, што «гэтая кніга — выдатны падарунак да Дня незалежнасці Туркменістана», які адзначаецца 27 верасня.

Застаецца дадаць, што Бердымухамедаў за гады свайго кіраўніцтва выпусціў ужо больш за 40 кніг і, па яго словах, не збіраецца спыняцца на дасягнутым. У яго арсенале ўжо ёсць выданні пра туркменскія кухню і дываны, пра музыку і прыказкі, пра спорт ды вайскоўцаў. Цікава, чаму будзе прысвечаны наступны «бестселер» Аркадага?



Фота www.ria.ru

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ



### Саламэ Зурабішвілі

Прэзідэнтцы Грузіі, на думку некаторых аналітыкаў, пагражае імпічмент. Усё таму, што ў прадстаўленым ёю спісе для амністыі аказаліся двое забойцаў. Потым аказалася, што забойцаў, выпушчаных на волю па прэзідэнцкім акце, насамрэч не двое, а чацвёра. А праз дзень выявілася, што сярод вызваленых — яшчэ і буйныя наркагандляры.

Другая ж частка канфузу заключаецца ў тым, што гэты спіс — сакрэтны. То-бок, Зурабішвілі далі спіс прозвішчаў, і пасля таго, як яна падпісала, зліў яго ў СМІ. Так ці інакш, скандалы з памілаваннем выйшлі далёка за прававыя рамкі — яны кінулі сур'ёзны цень на рэпутацыю прэзідэнткі, чым адразу ж скарысталася апазіцыя. Ужо запушчаны флэшмоб «Звяжы прэзідэнта», аўтары якога лічаць, што Зурабішвілі лепш увогуле нічога не рабіць, бо яе дзеянні выклікаюць скандалы. Фармальна, гэты моладзевы рух незалежны, аднак прыкметна, што ён знаходзіцца як мінімум пад уплывам «Нацыянальнага руху» Міхаіла Саакашвілі. А паколькі Зурабішвілі была крэатурай кіроўнай партыі «Грузінская мара», то скандал таксама рыкашэтам ударыў і па нефармальным патроне ГМ Бідзіну Іванішвілі.

Прычым праціўнікі Саламэ не хаваюць, што іх галоўная мэта — праз імпічмент пазбавіць краіну ад «Грузінскай мары», не чакаючы парламенцкіх выбараў 2020 года. Эксперты адзіныя ў меркаванні, што бліжэйшым часам можна чакаць эскалацыі сітуацыі. Застаецца дадаць, што праціўнікі прэзідэнткі называюць сябе эльфамі. Такім чынам, у выпадку іх перамогі, адбудзецца першая ў гісторыі «рэвалюцыя эльфаў».



### Сі Цзіньпін

Стаўленне да асобы кіраўніка Кітаю, таварыша Сі, цяпер будзе вызначальным фактарам для грамадзян краіны, якія жадаюць працаваць у сферы журналістыкі. Паводле прынятага днямі закона, у кастрычніку першыя дзесяць тысяч журналістаў з 14 сталічных медыя пройдуць тэст на лаяльнасць да правадыра.

Гледзячы па ўсім, тэст дастаткова складаны. Інакш бы кіраўнікі згаданых 14 СМІ не былі вельмі занепакоеныя вынікамі іспытаў. Бо тыя, хто заваліць тэст, будуць адразу пазбаўленыя карты журналіста.

Змест тэсту сапраўды нялёгкі. Неабходна памятаць цытаты кіраўніка КНР, прычым не толькі самыя гучныя, быць у курсе біяграфіі правадыра, ведаць, чым зараз займаецца гарант, і гэтак далей. Таксама трэба добра арыентавацца ў гісторыі марксізму-ленінізму.

Плануецца, што пасля сталічных журналістаў аналагічныя тэсты пройдуць іх правінцыйныя калегі, якім у выпадку правалу таксама пагражае канфіскацыя журналісцкага пасведчання. Увогуле, гэта не першая праява культу асобы кітайскага кіраўніка. У прыватнасці, яго выступы выкарыстоўваюць для прафілактыкі злачынстваў. Увесну, напярэдадні 30-й гадавіны падзей на плошчы Цяньаньмэнь, адзін са студэнтаў пекінскага ўніверсітэта быў затрыманы і асуджаны на тое, каб цэлыя суткі слухаць прамовы таварыша Сі.

### Педра Санчас



Тэрмін, які адводзіўся прэм'еру Іспаніі, лідару мясцовай Сацыялістычнай рабочай партыі (PSOE) на фармаванне кабінета, скончыўся 23 верасня. А ўрад так і не паўстаў.

Цяпер з найбольшай доляй верагоднасці Іспанію ўвосень чакаюць чарговыя датэрміновыя выбары, ужо трэція па ліку за апошні год. І, хутчэй за ўсё, краіна, як і ў папярэднія разы, зноў атрымае так званы «фрагментарны парламент» — парламент без перавагі адной з партый. Такім чынам, у Іспаніі працягваецца перыяд палітычнай турбулентнасці, які ўсё больш нагадвае сталы сістэмны крызіс.

Праўда, гэтым разам атмасфера, у якой пройдуць выбары, будзе трохі іншай. Справа ў тым, што ў іспанскім інтэрнэце набывае папулярнасць праект калектыўнай атакі на магілкі дыктатара Франсіска Франка (1989–1975), які пахаваны ў комплексе «Даліна Загінулых» пад Мадрыдам. 20 лістапада (дзень нараджэння Франка) ініцыятары акцыі плануюць прарвацца на тэрыторыю комплексу і знішчыць маўзалей дыктатара. Толькі за першы дзень ідэю падтрымалі каля 400 чалавек, і іх колькасць увесь час расце. Паколькі стаўленне да асобы Франка падзяляе іспанцаў на два лагеры, канфрантацыі не пазбегнуць, што таксама паўплывае на выбарчую кампанію.

З іншага боку, нельга забываць, што днямі (20 верасня) правалілася ідэя падобнай атакі на амерыканскую «Зону 51», дзе ўлады ЗША быццам хаваюць артэфакты іншапланецян. Нягледзячы на тое, што ідэю пра атаку на базу лайкнулі больш за два мільёны амерыканцаў, у выніку ўсё абмежавалася невялікай колькасцю ахвочых патрапіць у «Зону 51». Магчыма, такім жа пшыкам скончыцца і задума разбурыць пахаванне Франка.



# 80 гадоў без Вільні

Кірыла ПАЗНЯК

**Толькі цікаўныя скончылі дыскутаваць наконт таго, ці пасуе на нацыянальнае свята дата 17 верасня 1939 года, калі аб'ядналіся Заходняя Беларусь ды БССР, як на падыходзе яшчэ адна розгаласная падзея, звязаная з нашымі нацыянальнымі комплексамі ды фетышамі.**

Гаворка пра тое, як 80 гадоў таму Сталін перадаў Вільню літоўцам. Што гэта было? Як замест Віленскай вобласці ў складзе БССР утварылі — нібы, як сказалі б сёння, тролінг — усяго толькі Вілейскую? І ці варта моцна шкадаваць?

Саюзнікі-агрэсары СССР ды Германія паводле дадатковага сакрэтнага прataколу да пакту Молатава–Рыбентропа ад 23 жніўня 1939 года збіраліся падзяліць захопленыя тэрыторыі не зусім так, як у выніку атрымалася. Першапачаткова планавалася, што БССР узбуйняць такім чынам, што яе мяжа будзе аж пад Варшавай. Літва ж нібыта адыходзіла немцам: абодва бакі прызнавалі яе інтарэсы датычна Віленскай вобласці. Што праўда, межы не акрэсліваліся. Але праз некалькіх тыдняў акупацыяў з абодвух бакоў пратакол па перадзеле Еўропы перапісалі: Масква аддавала пад кантроль Берліна землі цэнтральнай Польшчы, а ўзамен атрымлівала ў сваю сферу ўплыву Літву.

### «Запаветнае жаданне» — Вільня ў БССР

Чырвоная Армія лёгка ўзяла Вільню 19 верасня. Беларускія адраджэнцы публічна віталі, як меркавалася, хуткае далучэнне Віленшчыны да БССР, — напрыклад, былы прэм'ер Беларускай Народнай Рэспублікі Антон Луцкевіч. Прынамсі, у Заходняй Беларусі Вільня была надзвычай важным культурным і духоўным цэнтрам. Нацыянальна арыентаваныя камуністы ў бээсэсэраўскім Мінску таксама цешыліся чаканым вяртаннем «крывіцкай Меккі».

Было створана Часовае ўпраўленне Віленскага краю і Вільні, дзе верхаводзілі якраз пасланцы з Мінска. 7 кастрычніка на Лукішскай плошчы адбыўся вялізны 75-тысячны гарадскі мітынг працоўных ды інтэлігенцыі. Вось што пісала пра яго газета «Віленская праўда», першы нумар якой выйшаў 22 верасня: «Нябачанае і небывалае ў гісторыі старажытнага горада свята»; «З мільёнаў сэрцаў працоўных нясецца аднадушнае жаданне з'яднацца з Савецкай Беларуссю». Пра такое «запаветнае жаданне» гаварылася і ў адмысловым звароце ўдзельнікаў мітынгу да «роднага бацькі, вялікага сябра, настаўніка і правадыра працоўных усяго свету» — да Іосіфа Сталіна.

Яму таксама паведамлялася, што адпаведны наказ дадзены ўсім выбраннікам у Народны сход Заходняй Беларусі, выбары ў які прайшлі пры канцы кастрычніка 1939 года: «Галасуйце за далучэнне Заходняй Беларусі да Савецкай Беларусі як раўнапраўнай часткі вялікага Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Адначасна гучала падтрымка справе нацыяналізацыі банкаў, буйных прамысловых прадпрыемстваў і канфіскацыі памешчыцкіх земляў. І вера ў лепшыя часіны: «Для ўсіх нас пасля 20 гадоў цёмнае ночы адкрытая дарога да прамяністай будучыні. Мы будзем сагрэтыя сонцам Сталінскай Канстытуцыі». Цэнтральныя газеты ў БССР таксама радасна абвясцілі, што Вільня зноў беларуская, і сталі абгрунтоўваць, чаму ў гэтым ёсць гістарычная справядлівасць.

> **Савецкае кіраўніцтва перадало горад незалежнай Літве наўзамен за размяшчэнне савецкіх ваенных базаў. Жыхары Літвы ў тыя дні іранізавалі, што Вільня нарэшце іх, але яны, па ўсім, пад Расіяй**



Цана 10 кап. (грош.)

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Орган Часовых Упраўленняў Віленскай вобласці і горада Вільня

ВІЛЕНСКАЯ ПРАЎДА

№ 19 12 кастрычніка 1939 г. Чацвер

Савецка-літоўскі дагавор

ДА ЗАКЛЮЧЭННЯ ДАГАВОРА

аб перадачы Літоўскай Рэспубліцы горада Вільна і Віленскай вобласці і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой

ДАГАВОР

аб перадачы Літоўскай Рэспубліцы горада Вільна і Віленскай вобласці і аб узаемадапамозе паміж Савецкім Саюзам і Літвой

Пісалі і пра планы беларусізацыі Віленскага краю пачынаючы з адкрыцця беларускіх школаў...

Але ўжо 14 кастрычніка «Віленская праўда» выйшла з матэрыяламі на першай старонцы пра заключэнне 10 кастрычніка дамовы, паводле якой СССР перадаваў Літве Вільню і Віленскую вобласць. У дамове гэта было пададзена як «справядлівае вырашэнне пытання аб дзяржаўнай прыналежнасці горада Вільня і Віленскай вобласці, незаконна адрынутых Польшчай ад Літвы».

### «Ідэя фікс» літоўцаў

Трэба адзначыць, што літоўскія палітыкі доўгі час і вельмі ўпарта намагаліся, каб Вільня была іх. У 1920-я і 1930-я, хаця горад быў у складзе Польшчы, літоўцы ў сваёй Канстытуцыі пісалі, што менавіта Вільня — сапраўдная сталіца. Коўна ж называўся сталіцай часовай. Як толькі Чырвоная Армія заняла Вільню, літоўцы адразу папрасілі Сталіна перадаць яе ім. Пачаўся перамоўны гандаль.

І ў выніку савецкае кіраўніцтва перадало горад незалежнай Літве наўзамен за размяшчэнне савецкіх ваенных базаў. Жыхары Літвы ў тыя дні іранізавалі, што Вільня нарэшце іх, але яны, па ўсім, пад Расіяй. Вельмі хутка гэтак сталася і фармальна: ужо ў 1940 годзе Літоўская ССР аказалася часткай Савецкага Саюза. Верагодна, што з разлікам на такое развіццё падзеяў, каб усё прайшло гладка, Сталін і аддаваў Вільню Літве. Было ў Масквы хіба і такое меркаванне, што Вільня можа паспрыяць хвалі нацыянальнага ўздыму беларусаў, што ішло б насуперак хвалі русіфікацыі і рэпрэсіяў.

Па сутнасці, Масква аддала частку тэрыторыі Беларусі замежнай дзяржаве, якой была тады незалежная Літва. Для літоўцаў жа прыдбанне культавай Вільні стала платай за страту незалежнасці. Зрэшты, тамтэйшыя палітыкі і гісторыкі часта прытрымліваліся такой пазіцыі, што гэта не Сталін ім падарыў Вільню, а яны яе ўскосна заваявалі. Што праўда, на момант перадачы Вільні Літве юрыдычна яна не была ў складзе ні БССР, ні СССР. Аднак пасля ўключэння Літоўскай ССР у склад Савецкага Саюза ў 1940 годзе ад БССР ёй адшчапілі ў дадатак ладны кавалак земляў з гарадамі Свянцяны і Друскенікі (Швянчоніс і Друскінінкай цяпер) з насельніцтвам больш за 80 тысяч чалавек.

Замест Віленскай вобласці ў БССР была створана Вілейская, «Віленская праўда» пераехала туды і стала называцца «Вілейскай праўдай». Разам з Вілейскай утварыліся яшчэ чатыры новыя вобласці — Баранавіцкая, Брэсцкая, Пінская ды Беластоцкая. З Беластокам Масква датычна беларусаў учыніла тое самае, што і з Вільняй. 27 ліпеня 1944 года Беласток быў вызвалены войскамі 2-га Беларускага фронту і вернуты ў склад БССР. Але, паводле пагаднення паміж савецкім і польскім урадамі, ужо 20 верасня Беласток з ваколіцамі быў перададзены Польшчы.

### Як беларускія дэпутаты адбіралі Вільню

Вельмі часта абвінавачванні ў нацыяналізме, у тым ліку ў тым, што яны спяць і бачаць, каб забраць Вільню ў літоўцаў, закідалі БНФ і асабіста яго лідару Зянону Пазьняку. Між тым, адна сенсацыйная падзея сведчыць якраз пра адваротнае.

Мала хто ведае пра тое, як у 1990 годзе кіраўніцтва БССР забірала ў Літвы Вільню. Прычым гэта былі не проста размовы, а афіцыйная заява прэзідыуму Вярхоўнага Савету за подпісам спікера Мікалая Дземянцея. Яна была прынята 29 сакавіка пасля таго, як Літва 11 сакавіка першай з рэспублік былога СССР абвясціла незалежнасць. Дакладней, Вярхоўны Савет Літоўскай ССР на чале з Вітаўтасам Ландсбергісам, лідарам грамадска-палітычнага руху «Саюдзіс», прыняў Акт аб узнаўленні незалежнасці Літвы.

У заяве камуністаў з Вярхоўнага Савета БССР, якія раптам сталі нацыяналістамі, гаварылася: «Тым, хто робіць у Літве спробы па ўвядзенні ў дзеянне Канстытуцыі Літвы ад 12 траўня 1938 года, трэба ўлічваць, што ў 1938 годзе тэрыторыя Літоўскай рэспублікі была зусім іншай, і толькі ў выніку рашэнняў вышэйшых органаў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Літоўскай рэспубліцы і Літоўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы былі перададзеныя спрадвечна беларускія тэрыторыі. Пры выхадзе Літоўскай ССР з Саюза ССР Беларуская ССР не будзе лічыць сябе звязанай усімі законамі, указамі і іншымі актамі адносна перадачы Літве часткі беларускіх земляў».

Вось што згадвае пра шум вакол гэтай заявы лідар БНФ Зянон Пазьняк у адным са сваіх артыкулаў: «У Вільні шок. З "Саюдзісу" пастаянна званілі ў БНФ, прасілі прыехаць дапамагчы ўладзіць пытанне. Мы цудоўна разумелі, што гэта несур'ёзная маскоўская гульня, што Мікалай Дземянцей — круглая пешка, і што Крэмль хоча знішчыць БНФ і ўмацаваць у Вільні камуністаў. У адмысловым паведамленні БНФ ацаніў намеры Масквы і выступ Дземянцея як "палітычны шантаж". Не больш. Ніхто сур'ёзна заявы Дземянцея не ўспрымаў. Такія, як Дземянцей, ніколі не будуць змагацца за вяртанне Вільні. Яны (камуна-расійскае кіраўніцтва БССР) не пярэчылі Сталіну і здалі Вільню, растаптаўшы волю віленчукоў, гатовыя былі прадаць Маскве ўсю Беларусь і сто разоў самі прадацца».

Тым часам працягваюць тужліва блукаць па вулачках Вільні патрыёты з кожнага пакалення беларусаў. І ў кожным пакаленні разгортваецца дыскусія пра тое, што было б, калі б Вільня аказалася-такі ў складзе БССР, а цяпер Беларусі. Нярэдка можна прачытаць-пачуць пазіцыю, якую выклаў у вершы «Сталіца» паэт Зніч (Алег Бембель):

*Дзякуй Богу, што Вільню забралі.*
*Бо каб нашай сталіцай была,*
*У руінах бы храмы ляжалі*
*На пагосце з бетону і шкла...*

А што думаеце вы?

# Чэхаславацкі легіён польскага войска: беларускія старонкі гісторыі



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У пачатку лютага 1940 года на стол начальніка Упраўлення па справах вайсковапалонных і інтэрнаваных НКУС СССР Пятра Сапруненкі лягла дакладная запіска кіраўніка 2-га адзела лейтэнанта дзяржбяспекі Маклярскага.**

У дакуменце пад загалоўкам «Аб палажэнні на пункце інтэрнаваных жаўнераў і афіцэраў чэшскага легіёна былой польскай арміі» сярод іншага адзначалася, што на зборным пункце ў мястэчку Ермалінцы, Камянец-Падольскай вобласці УССР знаходзіліся 674 чэшскія легіянеры. Як чэхаславацкія вайскоўцы трапілі ў савецкі палон і што з імі было далей?

## На польскай зямлі

У сакавіку 1939 года нацысцкая Германія пачала акупацыю тэрыторыі Чэхіі. У адказ сотні вайскоўцаў чэхаславацкай арміі вырашылі з'ехаць з Радзімы з мэтай змагацца супраць нацыстаў. Нягледзячы на «Цешынскі крызіс», які сапсаваў і так нацягнутыя стасункі паміж Прагай і Варшавай, чэхаславацкія вайскоўцы масава накіроўваліся ў Польшчу. Яны разумелі, што палякі гатовыя змагацца за сваю краіну і не здадуць яе без бою. Некалькі тысяч чэхаславацкіх грамадзян у той час прыехалі на тэрыторыю Другой Рэчы Паспалітай і былі размешчаныя ў лагерах для бежанцаў у Кракаве і Катавіцах. Чэхам і славакам на польскай тэрыторыі дапамагалі дыпламаты, якія, нягледзячы на трагедыю сваёй краіны, працягвалі працаваць у Кракаве. На польскай зямлі бежанцаў-суайчыннікаў сустракаў чэшскі консул Уладзімір Знаемскі. Сярод чэхаславацкіх вайскоўцаў вылучаліся генерал арміі Леў Прхала і падпалкоўнік Людвіг Свобада. Яны і пачалі арганізоўваць чэхаславацкі легіён у Польшчы.

Пазней, у чэрвені 1939 года, значная частка чэхаславацкіх вайскоўцаў накіравалася праз Гдыню ў Францыю. Тых, хто застаўся ў Польшчы, перадыслакавалі ў лагер у Малых Бранявіцах. 30 жніўня 1939 года 700 легіянераў з Чэхаславакіі накіравалі ў мястэчка Лясное пад Баранавічамі і праз дзень чэхаславацкія вайскоўцы былі ўжо на Палессі. Там імі камандаваў падпалкоўнік Свобада, а польскім куратарам легіёна стаў маёр Генрых Смратэцкі.

## За нашу і вашу свабоду

1 верасня 1939 года Трэці Рэйх напаў на Другую Рэч Паспалітую. Усе народы шматнацыянальнай Польшчы, у тым ліку і беларусы, мужна змагаліся супраць ворага на ўсіх франтах. Аднак палякам патрэбна была дапамога. 3 верасня 1939 года генерал Леў Прхала заключыў з прэзідэнтам Польшчы Ігнацыем Масціцкім дамову аб стварэнні «Чэшскага і Славацкага легіёнаў» Войска Польскага. Тады ж Варшава выдала адозву да ўсіх чэхаславацкіх грамадзян на тэрыторыі Польшчы, у якой заклікала ўступаць у новае вайсковае злучэнне. Былі ў тым дакуменце згадкі пра барацьбу «за нашу і вашу свабоду» і пра «традыцыі Грунвальда». Але чэхаславацкія вайскоўцы пад Баранавічамі не чакалі на адозвы. Яны рыхтаваліся нарэшце сысціся ў бойцы з немцамі.

4 верасня 1939 года пад Баранавічы перакінулі яшчэ 200 чэхаславацкіх вайскоўцаў. У той жа час у Дэмбліне пачалі фарміраваць чэхаславацкую лётную выведвальную эскадрыллю (на самалётах «Potez XXV» і «RWD-8»). 15 верасня 1939 года пры пасадцы, недалёка Коўля, некалькі самалётаў разбіліся. Пазней чэхаславацкія пілоты прымалі ўдзел у абароне Луцка. Лётчыкі бралі ў кабіну ручныя гранаты і рабілі авіяналёты, скідаючы гранаты на групы нямецкай пяхоты і тэхнікі.



Чэхаславацкае войска



Чэхаславацкая танкетка, 1930-я гады

## У савецкім палоне

Германа-польскі фронт хутка рухаўся на ўсход, і 11 верасня 1939 года польскае камандаванне вырашыла эвакуяваць чэхаславацкі легіён з-пад Баранавічаў на поўдзень Другой Рэчы Паспалітай. Жаўнерам раздалі зброю (4 станковых, 9 ручных кулямётаў і іншыя віды стралковай зброі) і накіравалі на чыгуначны вакзал, адкуль чэхаславакі выехалі ў Тарнопаль. На месца легіянеры прыбылі 14 верасня. У той жа дзень польскае камандаванне загадала чэхаславацкім жаўнерам арганізаваць супрацьпаветраную абарону. Хутка пасля гэтага легіянераў накіравалі ў Падгаец. Па злой іроніі лёсу, 15 верасня 1939 года вайсковы эшалон з чэхаславацкімі жаўнерамі быў абстраляны... славацкімі самалётамі. У выніку загінуў аспірант Вітэзлаў Грубаўм.



17 верасня 1939 года польска-савецкую мяжу перайшла Чырвоная Армія. Адной з задач, якую атрымалі жаўнеры РСЧА, было недапушчэнне эвакуацыі ворага (пад якім меліся на ўвазе польскія войскі і іх хаўруснікі) у Румынію і Венгрыю. 18 верасня ў вёсцы Ракаўцы чэхаславацкія жаўнеры трапілі ў савецкі палон. Пазней іх накіравалі ў лагер у мястэчку Ермалінцы Камянец-Падольскай вобласці. У той жа час у Тарнопалі Саветы захапілі і чэхаславацкіх пілотаў з выведвальнай эскадрыллі.

Некаторыя чэхаславацкія жаўнеры паспрабавалі «схавацца» ў мястэчку Квасілава Ровенскай вобласці, аднак пазней і яны трапілі ў рукі НКУС. Як пазначалася ў чэкісцкіх дакументах, чэхаславакаў арыштавалі «за спекуляцыю злотымі». Паводле дадзеных савецкіх спецыяльных органаў, у сакавіку 1940 года ў бальшавіцкім палоне знаходзіліся 137 афіцэраў, 200 падафіцэраў і малодшых камандзіраў, 336 жаўнераў, а таксама адна жанчына (жонка штабс-капітана Баўэра). Сярод палонных было 537 чэхаў, 68 славакаў, 68 габрэяў, 1 «русін». Тады ў руках чэкістаў было 2 афіцэры генштаба (выведнікі), 6 жандараў, 6 паліцэйскіх, 38 пілотаў (жаўнераў і афіцэраў), 89 артылерыстаў, 17 сапёраў, 22 кавалерысты, 9 сувязістаў. Кіраўніцтва Другога аддзела Упраўлення па справах вайсковапалонных і інтэрнаваных НКУС СССР адзначала, што «легіянеры вялі сярод мясцовага насельніцтва шавіністычна-нацыяналістычную агітацыю, заклікаючы на барацьбу за аднаўленне "незалежнай Чэхаславакіі"». «У Здаўбунаве меў месца выпадак, калі на сходзе легіянераў, на якім прысутнічалі і мясцовыя жыхары, прапаршчык Ленц выступіў з антысавецкім паведамленнем пра "агрэсіўную палітыку Савецкага Саюза"» [...] Квасілаўскія легіянеры падтрымліваюць сістэматычную сувязь з Бенешам (прэзідэнт Чэхаславакіі ў выгнанні. — аўт.), ад якога яны перыядычна атрымліваюць тэлеграмы», — адзначалася ў адным з дакументаў НКУС.

У сакавіку 1940 года НКУС выдала загад аб транспарціроўцы ўсіх палонных чэхаславацкіх легіянераў у Аранскі лагер (станцыю Шоніха) Казанскай чыгункі Горкаўскай вобласці. Адпаведным органам загадвалася правесці «аператыўна-чэкісцкую» працу сярод чэхаславацкіх палонных.

## На баку Чырвонай Арміі і заходніх хаўруснікаў

У 1941 годзе за гераізм падчас баёў у верасні 1939 года польскае камандаванне ў Лондане ўзнагародзіла чэхаславацкіх лётчыкаў Фішара, Вайцісака, Ялінака, Броза, Чэрмака, Яра, Камарада, Хербачка, Нэксера, Рэхака баявымі ўзнагародамі. Падчас кампаніі ў Польшчы загінуў адзін жаўнер пяхотнага легіёна і чатыры пілоты. Яшчэ шэсць чэхаславацкіх жаўнераў атрымалі раненні. У 1942 годзе з палонных чэхаславацкіх жаўнераў, якія знаходзіліся на тэрыторыі СССР у Бузулуку, быў сфарміраваны Самастойны чэхаславацкі палявы батальён на чале з палкоўнікам Людвігам Свабодай. У сакавіку 1943 года гэтае вайсковае злучэнне прыняло ўдзел у баях супраць нацыстаў пад Харкавам. У 1944 годзе савецкае камандаванне сфарміравала 1-ы чэхаславацкі армейскі корпус камандзірам якога стаў Людвіг Свобада. У кастрычніку 1944 года корпус удзельнічаў у штурме нямецкіх умацаванняў на Дукельскім перавале. Пасля вайны Свобада быў прызначаны міністрам абароны Чэхаславакіі.

А вось генерал Леў Прхала ў 1939 годзе праз Румынію эвакуяваўся ў Вялікабрытанію, дзе падчас Другой сусветнай вайны знаходзіўся ў распараджэнні эміграцыйнага ўраду Чэхаславакіі.

У 2017 годзе ў раёне Кракава, дзе знаходзіўся лагер чэхаславацкіх бежанцаў і вайскоўцаў, былі пастаўленыя памятныя дошкі. Магчыма, прыйшоў час паставіць знак у гонар чэхаславацкіх жаўнераў і ў Баранавічах. Тыя легіянеры мужна змагаліся супраць нацызму. Да таго ж гэта старонка і беларускай вайсковай гісторыі.

**Фота з асабістага архіву аўтара**

# «Імшарамі верасень крочыць»



**Па гарызанталі:** 1. «Цыбатай нагой жураўлінаю // Імшарамі ... крочыць». З верша Рыгора Барадуліна «Заспаная раніца мшыстая». 4. «Ліпень, ... , верасень — // Усе лясы ў верасе». З верша Васіля Віткі «Кожны месяц — чараўнік». 8. «... гладзіць па белай кашулі // і цалуе ўсе плечы жнеі». З верша Ларысы Геніюш «Жнівом». 9. «Пад самую восень, пад верасень ... // Задумаў жаніцца мядзведзь у цёмным лесе». З верша Максіма Танка «Казка пра мядзведзя». 11. Улез у ... — ні ўзад, ні ўперад (прыказка). 13. Тон, інтанацыя мовы (пераноснае). 14. Велічыня, якой вымяраюцца іншыя аднародныя велічыні. 15. ... да Евы заляцаўся, а ўсе вінаватыя (прыказка). 18. «Было ўрачыста і ціха ў хаце — // хлеб з новага жыта ўчыняла ...». З паэмы Анатоля Вярцінскага «Песня пра хлеб». 20. Кучаравая пасма валасоў. 22. «... астатнія ў садзе не рвіце: // Восені гэта ўбор». З верша Наталлі Арсенневай «Жоўтыя клёны». 23. Пасудзіна. 25. Прадмет хатняга абсталявання. 27. Назва верасня ў працах Францыска Скарыны. 31. «Пра што шапочаш, гай, // празрысты, вераснёвы? // ... спраўляць абновы». З верша Уладзіміра Някляева «Гай». 35. Самец качкі. 36. Лішні ... у полі пуды ў свіран прыносіць (прыказка). 37. Як настане верасень — у гаспадара поўнае ... і кішэнь (прыказка). 38. «Зноў верасень — // Запаслівы ... — // Шчырые па імшыстых баравінах». З верша Анатоля Грачанікава «Верасень». 39. Летняя пабудова для адпачынку.

**Па вертыкалі:** 1. Верасень красна лета праважае, ... залатую сустракае (прыказка). 2. Гатунак яблыні. 3. Народнае эпічнае апавяданне. 5. Чым за морам ... піць, лепш у Нёмане вадзіцу (прыказка). 6. «Не ... для ўрада, а ўрад для народа». Кастусь Каліноўскі. 7. Кармушка для жывёлы. 9. Цяжкая праца, ды салодкі ... (прыказка). 10. Вялікая звязка чаго-небудзь. 12. Раса і ... прадказваюць добрае надвор'е. 16. Аўтар лірычных твораў. 17. На Узвіжанне (27 верасня) халат з плеч, а кажух на ... (прыказка). 19. Закончаная частка спектакля. 21. «Нож хай будзе не тупы, // ... хай будзе не пусты». З верша Генадзя Бураўкіна «Асеннія грыбы». 22. Вылічэнне, атрыманае з якой-небудзь сумы. 24. «У месяцы верасні // Выпала ... . // Дзед бабу палюбіў, // Што баба хароша». З беларускай народнай песні «У месяцы верасні». 26. Верасень — ... года (прыказка). 28. Дзікі роў. 29. Хлеб — ... еж і праўду рэж (прыказка). 30. ... слізкі, лоб нізкі: відаць, што лізаў панскія міскі (прыказка). 32. Атрыманне другога замест чаго-небудзь. 33. Марскі рак. 34. Цвёрды мінерал.

**Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Брэстчына літаратурная» (НЧ №32 ад 30 жніўня):**

Па гарызанталі: 1. Ашуг. 6. Іверс. 9. Альберцін. 11. Рот. 12. Золак. 13. Макар. 17. Касета. 18. Лаўр. 20. Нота. 21. Вампір. 23. Краты. 25. Сэрца. 28. Кут. 29. Майстэрня. 31. Бухта. 32. Руны.

Па вертыкалі: 1. Агінскі. 2. Га! 3. Абоз. 4. Арол. 5. Ціск. 7. Вера. 8. Стары. 10. Трасянка. 14. Курапаты. 15. Табар. 16. Слова. 19. Пракосы. 22. Скарб. 24. Тост. 25. Спас. 26. Раса. 27. Архэ. 30. Яр.

# БагатаДата

**А вы ведаеце, што першы Статут ВКЛ дапрацоўваўся аж сем гадоў? А першы «Чарнобыльскі шлях», насамрэч, адбыўся ўвосень? Больш цікавостак — у нашым аглядзе.**

## 28 верасня

**Міжнародны дзень праваў ведаў.**

**1924.** У Варшаве нарадзіўся польскі навуковец, беларусіст Анджэй Цеханавецкі. Пасля рэпрэсіяў і рэабілітацыі ў 1958 годзе ён з'ехаў з Польшчы. У нямецкім Цюбінгенскім універсітэце абараніў дысертацыю, прысвечаную слонімскаму тэатру. Аўтар кнігі «Міхаіл Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме».

**1939.** У Маскве міністры замежных спраў СССР і Германіі падпісалі нямецка-савецкі Дагавор аб дружбе і мяжы СССР і Германіі.

**1979.** У Мінску нарадзілася актрыса (ролі ў кіно і спектаклях Нацыянальнага драмтэатра імя Горкага), салістка гурта «Naka» Анастасія Шпакоўская.

## 29 верасня

**1529.** Зацверджаны першы Статут (збор законаў феадальнага права) Вялікага Княства Літоўскага. Напісаны Статут па-беларуску. Першы яго варыянт быў складзены (даследчыкі лічаць, што ў тым ліку пры ўдзеле Францішка Скарыны) у 1522 годзе — то-бок, статут дапрацоўваўся сем гадоў.

**1904.** У Екацярынаславе (цяпер горад Днепр ва Украіне) нарадзіўся кінарэжысёр, сцэнарыст, народны артыст БССР Леў Голуб. Яго фільмы: «Дзяўчынка шукае бацьку», «Міколка-паравоз», «Анюціна дарога», «Паланэз Агінскага». «Пушчык едзе ў Прагу».

**1959.** Нарадзіўся беларускі журналіст, пісьменнік, паэт Вітаўт Мартыненка (памёр 17 красавіка 2016 года). У 1985 годзе разам з Анатолем Мяльгуем стварыў першы ў Беларусі рок-клуб «Няміга». Удзельнік арганізацыі фэстаў «Тры колеры» (1986, 1988), «Басовішча» (1990). У канцы 1980-х — удзельнік «Талакі», «Тутэйшых», у 1988 годзе стаў арганізатарам адной з першых груп падтрымкі БНФ, якую стварыў у дзяржаўнай газеце «Чырвоная Змена». За ўдзел у Дзядах–88 Вітаўт Мартыненка быў асуджаны (адміністрацыйна). У адказ на гэта ў «Чырвонай Змене» з'явіўся калектыўны артыкул «Працістаянне». Аўтар шматлікіх публікацый на тэмы нацыянальнай музыкі, літаратуры, грамадска-палітычнага жыцця. Вітаўт Мартыненка ўвёў тэрміны «беларускі рок» (беларускамоўны) і «рок з Беларусі» (англамоўны, рускамоўны ды на іншых мовах).

## 30 верасня

**Міжнародны дзень перакладчыка і Міжнародны дзень інтэрнэту.**

**1914.** У Пінску нарадзіўся вучоны-хімік, заслужаны дзеяч культуры Беларусі, сын Якуба Коласа Даніла Міцкевіч. Ён быў арганізатарам і першым дырэктарам Літаратурнага музея Якуба Коласа.

**1989.** У Мінску ўпершыню прайшоў «Чарнобыльскі шлях» — ад гадзіннікава завода да плошчы Леніна (цяпер — Незалежнасці). Нягледзячы на тое, што ўлады прызначылі на гэты дзень суботнік, удзел у шэсці і мітынгу ўзялі больш за 30 тысяч чалавек. На чале шэсця былі пісьменнікі Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч.

## 1 кастрычніка

**Міжнародны дзень людзей сталага веку, Міжнародны дзень музыкі, Сусветны дзень вегетарыянства.**

**1949.** У вёсцы Забараўцы Пінскага раёна Брэсцкай вобласці нарадзіўся журналіст Іосіф Сярэдзіч. У першай палове 1990-х гадоў — дэпутат Вярхоўнага Савета і галоўны рэдактар парламенцкай «Народнай газеты». У сакавіку 1995 года Лукашэнка звольніў Сярэдзіча і прызначыў у «Народную газету» новага рэдактара, хаця на гэта меў права толькі Вярхоўны Савет. Іосіф Сярэдзіч стварыў іншае выданне — «Народную волю», якой кіруе дагэтуль.

## 2 кастрычніка

**Міжнародны дзень нягвалту, Сусветны дзень аховы месцаў пасялення.** А ў Беларусі **— Дзень архівіста.**

**1989.** Пачаліся заняткі ў аднаўленай Мінскай духоўнай семінарыі, якая месціцца ў пасёлку Жыровічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Заснаваная ў 1785 годзе ў Слуцку. У 1840-м пераехала ў Мінск. У 1918 годзе зачыненая бальшавікамі. У 1947-м запрацавала зноў, але ў 1963-м чарговы раз установу зачынілі.

## 3 кастрычніка

**1924.** У вёсцы Шляхецкая Ваколіца (цяпер вёска Цярэшкавічы) Гомельскага раёна нарадзіўся Рыгор Клімовіч, дзеяч беларускага антысавецкага супраціву. У 1953 годзе стаў адным з лідараў Нарыльскага паўстання — паўстання палітычных вязняў у Нарыльскім лагеры, у тым ліку 5 тысяч беларусаў. Клімовіч напісаў гімн паўстання «Не страшны нам тыранствы бальшавізму».

## 4 кастрычніка

**1854.** У вёсцы Азёрая Хоцімскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся хірург-афтальмолаг Ерафей Касценіч. Узначальваў кафедру афтальмалогіі ў Пецярбургскім клінічным інстытуце, затым стаў і дырэктарам Пецярбургскай вочнай лячэбніцы, дзе працаваў да канца жыцця. Менавіта Касценіч, зрабіўшы аперацыю, вярнуў зрок знакамітаму вучонаму Дзмітрыю Мендзялееву.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1562

Падпісана да друку 27.09.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.